# IV. ЛЕКСІКАГРАФІЯ

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА ГОМЕЛЬШЧЫНЫ *

ПААБЕ'ДЗЕ *прысл.* пасля абеду. Паабе́дзе сонца апускаецца ўсё ніжэй і ніжэй (Віць, Хойн.).

ПААБРЭ'ЗАЦЬ *зак.* паабразаць. Трэба сад паабрэ́заць (Бабовічы, Гом.).

ПААБУ'КАЦЦА *зак.* сутыкнуцца, стукнуцца. Чуць не паабу́каліся (Грушаўка, Нар.).

ПААДЖЫМА'ЦЬ *зак.* адмыць (*бялізну*). Столькі шчэ трэба пааджыма́ць мыццяя, а ўжэ й вечар (Лучын, Раг.); Падаждjы, шчэ і етае пааджыма́ю сціранне (Кавакі, Браг.); Чаму ж цяпер не сціраць, калі машыны і бяллё самі пааджыма́юць, і выпалашчуць, і выкруцяць (Касцюкоўка, Гом.); Пааджыма́й бялізну, бо яе трэба вымыць чыста (Залессе, Чач.+Багуцічы, Ельск.; Дубраўка, Добр.). *Парайн.* паадсціраваць.

ПААДСЦІ'РАВАЦЬ *зак., тое, што* пааджыма́ць. Мне трэба шчэ паадсці́раваць дзеду штаны (Багуцічы, Ельск.).

ПААСАБЛІ'ВА (посособлі́во) *прысл.* паасобку. А жылі мы пооссоблі́во (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* паасо́бе.

ПААСО'БЕ *прысл., тое, што* паасаблі́ва. Паасо́бе сын жыве (Неглюбка, Ветк.).

ПАБАЛБАТА'ЦЬ *зак.* пагаварыць. Мне хацелася яшчэ трохі пабалбата́ць (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* пагаманíць *у 1 знач.*, падуду́каць, пакугíкаць, пацубе́нькаць.

ПАБІВА'ЦЬ *шматкр.* пабіць. Ета ж так пабіва́ла Красулю, чуць жывую аставіла (Хізы, Ветк.).

ПАБО'ЎЦІНЫ *толькі мн.* рэшткі *(ежы)*. Вылі кату пабо́ўціны (Заспа, Рэч.).

---

* Матэрыялы для слоўніка падрыхтавалі: У. В. Анічэнка, А. П. Бадалей, А. А. Станкевіч, К. С. Усовіч.

ПАБРАКАВА'ЦЬ (пабракува́ць) *зак.* пагрэбаваць. Калі яна гэтае вядро несці не пабракува́ла, яна дзеўка проста (Бялёў, Жытк.).

ПАБРА'ЦЦА *зак.* пажаніцца. Чаму б яму не пабра́цца з Ганнай? Чым паганая дзеўка? (Дзвіжкі, Ельск.); А мой унук скора пабяр́эцца з Тэкляй (Глушкавічы, Маз.); Во ў Гэлькі пабра́ліся ўсе свае, ні разбярэш нічога (Хізы, Ветк.+Холмеч, Рэч.).

ПАБРЫ'МКАЦЬ *зак.* пакасіць. Узяў бы да ў балоце шчэ й сена пабры́мкаў трохі (Палессе, Чач.).

ПАБРЭ'ІЦЦА *зак.* пагаліцца. Яўхім забыў пабрэ́іцца (Запясочча, Жытк.).

ПАБУ'РАНЫ *дзеепрым.* разбураны. Хата зусім пабу́раная (Холмеч, Рэч.).

ПАБУРА'ЦЬ *зак.* параскідаць. Як стукнуў гром, усіх пабура́ла каго куды (Палессе, Чач.).

ПАБУРЫ'ЦЬ *зак.* паламаць. Нада каробку пабуры́ць да ў печ (Дубраўка, Добр.);/паваліць. Бабры пабуры́лі дрэвы (Літвінавічы, Карм.).

ПАБЯГУ'ХА *ж.* жанчына (*якая любіць хадзіць па суседзях*). Гэтай пабягу́хе больш і нечага дзелаць (Жгунь, Добр.). *Парайн.* падво́руха, патаску́ха, паха́тніца, паха́тняя, паха́туха.

ПАБЯЛЕ'ЎШЫ *дзеепрым.* пахудзелы. Верка прыехала з Рыгі пабялё́ўшая (Дарашэвічы, Петр.).

ПАБЯШЧА'СНЫ *прым.* няшчасны. І сама пабяшча́сна, і дзеці такія ж (Касцюкоўка, Гом.).

ПАВАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. спілаваць. Колісь дубоў павалі́лі і пастроілі хату (Шырокае, Б.-Каш.); 2. *перан.* знясіліць. Гэтыя дзеці хутка мяне зусім пава́ляць (Хальч. Гом.).

ПАВА'ЛКА *ж.* дрэвы (*вывернутыя бурай*), высека. У нас усе дроў з пава́лкі навазілі (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАВАЛО'КА *м.* прымак. Павало́ка пайшоў вунь (Запясочча, Жытк.). *Парайн.* падсабля́ка, прылёп, прыту́ла.

ПАВАРО'ЗАЧКА *ж., памянш. да* паўроз. Падай-ка паваро́зачку (Жгунь, Добр.).

ПАВАРО'ТКА I *ж.* паварот. Пойдзеш прама, а там будзя і паваро́тка на Быч тую (Быч, Карм.).

ПАВАРО'ТКА II *ж.* палка (*якой круціцца ў жорнах верхні камень*). А паваро́тку арэшнікавую вуражаш, абладзіш як нада (Іванаўка, Хойн.).

ПАВАЯВА'ЦЦА *зак.* пасварыцца. Яна ж, дзетачка,

хоць паслухае, думаеш? Паваюецца, дый пойдзе (Стаўбун, Ветк.).

ПАВЕДАМІ'ЦЬ *зак.* паведаміць. Паведаміла ты ўсім, што заўтра сабранне будзе? (Дзям'янкі, Добр.).

ПАВЕ'СЛА *ж.* пасма *(10 жмень)*. З маёй градкі толькі дзве павéслы канапель выйшла (Баравікі, Светл.). *Парайн.* павéсма, павéсьма.

ПАВЕ'СМА *ж., тое, што* павéсла. З кожнай павéсмы выходзіць каля дзесяці жмень льну. Павéсму лёну абадрала (Баравікі, Светл.); Калі ўжэ кончыш работу, тады вяжаш лён у павéсмы (Бывалькі, Лоеўск.); У павéсмах сямена нямашака, а толькі прадзіва (Дубраўка, Добр.+Аравічы, Хойн.; Ільіч, Гом.; Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* павéсьма.

ПАВЕ'СНІЧАЦЬ *незак.* гультайнічаць. Німа чаго дзелаць, павéснічаіця (Востраў, Раг.).

ПАВЕ'СЬМА *ж., тое, што* павéсла. Падай адну павéсьму льну (Дзям'янкі, Добр.+Бабовічы, Гом.). *Парайн.* павéсма.

ПАВЕ'ТРЫЦЬ *зак.* пайсці (*паспешліва*). Глянула ў ваконца, аж ён так павéтрыў, шчо ледзь прыкмеціла (Буйнавічы, Маз.). *Парайн.* пашумéць.

ПАВІВА'СТЫ *прым.* сукаваты. Хароша дзерава баравое, а балотнае павівáстае (Суткоў, Лоеўск.+Піркі, Браг.).

ПАВІЛІ'ЦА *ж., бат.* павітуха. Ета ж нада, столькі павілíцы ў жыці, што жаць нельзя (Халочча, Чач.).

ПАВІ'НКІ *толькі мн.* капуста *(квашаная палавінкамі)*. У ў етым годзе павíнак капусты налажыла (Баравікі, Светл.). *Парайн.* палавíнкі *ў 2 знач.*

ПАВО'ЙНІК *м., устар.* чэпчык. Жанчына паверх павóйніка завязвала ў хустку (Чырвоная Буда, Добр.); Яна маладзіца, бо ўжо ў павóйніку. Я ўжо не насіла павóйнікаў (Дубраўка, Добр.).

ПАВО'РАНЫ *прым.* узараны. Зямля павóраная ўжо, скора сеяць будам (Баравікі, Светл.).

ПАВУ'ЦЦЕ *н., зборн.* павуцінне. Павýцце скрозь па вуглам (Камунар, Б.-Каш.); Павукі плятуць павýцце (Залессе, Чач.).

ПАВУЧО'К *м.* табурэтка (*з круглай дзіркай, каб прывучыць дзіця стаяць на нагах*). Павучóк плятуць з лазы (Карма, Добр.); З Гомеля прывезла дамоў павучóк

(Р.-Шлягіна, Ветк.); Першыя шагі дзіця робіць у павучку́ (Пянчын, Б.-Каш.).

ПАВЫКУДЛЫ'ЧВАЦЬ *зак.* павырываць (*валасы*). Яшчэ раз падлезь, то і валасы павыкудлы́чваю (Пераpoў, Жытк.).

ПАВЫ'ПУЛІЦЬ *зак., зневаж.* вылупіць (*вочы*). Вочы павы́пуле і сядзіць (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* паказлава́ць.

ПАВЯДЗЁНКА *ж.* звычай. Няма ў нас такое і павядзёнкі малым хлопцам шапку насіць (Палессе, Чач.).

ПАВЯРНА'ЦЦА *зак.* вярнуцца. Каторыя павярна́ліся, каторыя пагіблі (Піркі, Браг.).

ПАВЯРХУ' *прысл.* паверсе. Здаецца і прыцэліўся ўжо харашо, а не, глядзіш — павярху́ (Халочча, Чач.).

ПАГАДАВА'ЦЬ *зак.* пакарміць. Яна б прыбегла, дзіцёнка пагадава́ла, дый ішла, куда ёй нада (Грушаўка, Добр.); Пагаду́й дзіця малочнай кашай (Замосце, Калінк.).

ПАГАЛЁНАК *м.* шкарпэтка (*без ступні*). За вечар і пагалёнак звязала (Ліпляны, Лельч.); Звяжу пагалёнак, дык мала астанецца (Марозавічы, Б.-Каш.); Пагалёнак нецяжка вязаць, пятку цяжалей (Піркі, Браг.). *Параўн.* паго́ленак.

ПАГАМАНІ'ЦЬ *зак.* 1. *тое, што* пабалбата́ць. Любіць брыгадзір пагаманіць са мной пра колісьню работу (Шырокае, Б.-Каш.). *Параўн.* падуду́каць, пакугікаць, пацубе́нькаць. 2. паўшчуваць. Пагамані на хлопца: кажуць, вупіць ласы (Дзвіжкі, Ельск.).

ПАГА'НЫ I *прым.* 1. дрэнны. У яго нешта пага́ны настрой (Марозавічы, Б.-Каш.); Улетку дарога харошая, увесну ж пага́ная (Піркі, Браг.); 2. злы. Гэты ж сабака такі пага́ны, людзі баяцца яго, на ўсіх кідаецца (М. Аўцюкі, Калінк.); 3. неядомы. Ёсць у нас і пага́ныя грыбы (Неглюбка, Ветк.).

ПАГА'НЫ II *прым.* дробны (*пра грошы*). Я не пага́ныя грошы зарабляю (Узнаж, Светл.).

ПАГАНЯ'ЦЬ I *незак.* паганяць (*каня*). Паганя́й хутчэй, бацька, коней (М. Аўцюкі, Калінк.).

ПАГАНЯ'ЦЬ II *зак., с/г* абагнаць (*бульбу*). Пагання́ць нада заўтра картошку (Халочча, Чач.).

ПАГАНЯ'ЦЬ III *незак.* патакаць. Вы паганя́іця ўсігда за дзіцямі, таму яны такія і капрызныя (Палессе, Чач.). *Параўн.* патыка́ць II.

ПАГІБЕ'ЛЬКА *ж.* месца (*нізкае*). Еслі пойдзеш у пагібе́льку, там тры катлаваны і чэрапахі е (Бялёў, Жытк.).

ПАГЛУМІ'ЦЬ *зак.* папсаваць. Сёлета багата ў нашым саўгасе жыта паглумі́лі (Узнаж, Светл.). *Параўн.* папаску́дзіць *у 1 знач.*

ПАГНО'Й *м.* зямля (*угноеная*). Там, дзе пагно́й, большая бульба расце (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* пагно́як.

ПАГНО'ЯК *м., тое, што* пагно́й. Дзе кожны год кладзеш гной, будзе добры пагно́як (Хізы, Ветк.).

ПАГО'ДКІ *толькі мн.* памінкі (*праз год*). Як спраўлялі паго́дкі па старом, то ўсе дочкі з'ехаліся зноў (Баравое, Лельч.).

ПАГО'ЛЕНАК *м., тое, што* пагалёнак. Паго́ленак быў звязан з нітак чорнага колеру (Івакі, Добр.); Насок састаіць з пяты, паго́ленка, ступні (Баравікі, Светл.+Забалацце, Раг.).

ПАГО'Н *м.* паша. У чатыры часы раніцы жывёлу выганяюць на паго́н (Лядцы, Светл.); Цётка, ужо каровы на паго́не (Ст. Дуброва, Акц.). *Параўн.* па́свіска, па́ста.

ПАГО'НЫЧ (паго́ныш) *м., заал.* птушка (*балотная*). Кура ў балоце крычыць, як кнутом хлешча. Гэта і ё паго́ныч. А вадзяную курку (маленькая птушка з доўгім носам) таксама завуць паго́ныч. Паго́нычам завецца і другая птушка. Крычыць, быццам жывёлу паганяя (Баравікі, Светл.); Паго́ныш жыве бліз вады (Багуцічы, Ельск.); У нашым балоце водзяцца і паго́нышы (Ямпаль, Рэч.); Вясной паго́нышы прылятаюць рана (Ліпляны, Лельч.).

ПАГО'РШНІК *м.* ганчар. Сёння паго́ршнік прыехаў з добрымі гаршкамі (В. Нямкі, Ветк.).

ПАГРАБЕ'Ц *м.* пограб. Хоць бы які паграбе́ц зрабіў, стобка ўжо развалілася (Суткоў, Лоеўск.); Засып бульбу ў паграбе́ц (Камаровічы, Петр.).

ПАГРАБІ'ШЧА *н.* стрэшка (*над пограбам*). Кінь мяшкі ў паграбі́шча (Холмеч, Рэч.+Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* паграбні́к, паграбні́шча, паргабня́.

ПАГРАБНІ'К *м., тое, што* паграбі́шча. Карзіна стаіць у паграбні́ку (Майскае, Жлоб.). *Параўн.* паграбні́шча, паргабня́.

ПАГРАБНІ'ШЧА *н., тое, што* паграбі́шча. Паграбні́шча дзелаюць хто з чаго ўздумае. Хто з кірпічу, хто з дзерава (Хізы, Ветк.). *Параўн.* паграбні́к, паграбня́.

ПАГУЛЯ′ННЕ *н.* гулянне. Ён сабе ўстаў і пайшоў на пагулянне (Быч, Карм.).

ПАГУ′РАК (погурок) *м.* узгорак. Под тым погурком раньшэ вода була. Получыла я соткі, а яны ўсе ў пагурках (Бялёў, Жытк.).

ПАГУСІ′НЕЦЬ (пагусянéць) *зак.* скарчанець. Пагусінела цела ад холаду (Забалацце, Раг.); Ад холаду пагусянéла скура (Гармавічы, Жлоб.). *Параўн.* пакурáціцца.

ПАГУ′ЦЬ *зак.* забраць. Усё чыста пагуў (Бялёў, Жытк.).

ПАД *прыназ.* пасля. Не, Касьян буў ужэ пад Іванам (Быч, Карм.).

ПАДАБА′БАК *м.* падбярозавік. У нашым бярэзніку знайшоў падабáбак (Холмеч, Рэч.); Падабáбкі растуць звычайна пад бярозамі (Багданавічы, Карм.); Нешта мне сённі нішто ні пападаяцца, толькі падабáбкі (Каразацічы, Рэч.); Падабáбкаў у нас мала расце (Неглюбка, Ветк.+ Асінаўка, Чач.; Баравікі, Светл.; Забалацце, Б.-Каш.; Майскае, Жлоб.). *Параўн.* падабáбка.

ПАДАБА′БКА *ж., тое, што* падабáбак. Сёліта багата падабáбак у лесі (Р.-Шлягіна, Ветк.).

ПАДАБЕ′ДАЦЬ *зак.* папалуднаваць. Хто хоча, падабéдаюць пасля абеду перад вячэрай (Насовічы, Добр.).

ПАДАБРА′ЦЦА *зак.* адзецца, убрацца. Я ж падабрáлася, хіба я тады такая была? (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* прычапурыцца.

ПАДАВА′ННІК *м.* падавальшчык. Падавáньнікаў прышлі нам (Вышалаў, Петр.).

ПАДАВІ′К *м.* хлеб (*чарэневы*). Падавікí на лапату пасадзіла (Апанасаўка, Гом.).

ПАДАДНО′ *прысл.* падыспад. Штаны мужыкам купіць трэба пададнó насіць (Баравікі, Светл.).

ПАДАЕ′ННЕ *н.* міласціна. Баба мая давала жабракам падаéнне, дзясятак яіц, а другія — хто што мая (Дубраўка, Добр.).

ПАДАКО′ННІЦА (падвакóнніца) *ж.* падаконнік. Злуткі вакон паставілі на падакóнніцу (Р.-Шлягіна, Ветк.); Падвакóнніца зроблена з смалянага дрэва (Чмельна, Раг.); У нашай хаце падвакóнніца стала трухлявець (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* падвáлак, падлакотнік, падлóга *ў 3 знач.*, падýшка *ў 3 знач.*

ПА′ДАНАК (пáданік) *м.* ападак. Прошлы год што

па́данкаў ужо ў мяне було, не спраўлялася й сушыць (Хізы, Ветк.). *Параўн.* пу́канка.

ПАДАПЛЕ'КА *ж.* надстаўка, надшыўка (*у кашулі*). Падшываецца падапле́ка пад рубаху на плечы, штоб таўсцей было. Во ў купленых рубашках падапле́к німа, а мы ў палатняных дзелалі (Хізы, Ветк.). *Параўн.* падо́плека.

ПАДАПО'ЛАЧНЫ *прым.* сярэдні (*пра дошку, выпіленую пасля аполка*). Ета даска, якая ідзе адразу за аполкам, падапо́лачная (Халочча, Чач.); Скарэй бяры вунь гэту падапо́лачную даску (Кароткавічы, Жлоб.); Падапо́лачныя дошкі пойдуць на шалёўку (Пярэдзелка, Лоеўск.).

ПАДАРО'ЖНІК I *м., бат.* 1. трыпутнік. Падаро́жнік зацягвае раны (Бабовічы, Гом.); Ты як парэзаў нагу, зразу трэба было падаро́жніку прыкласці, ад яго кроў не цячэ (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.+Ручаёўка, Лоеўск.; Хізы, Ветк.); 2. грыб, апенька. Падаро́жнік расце заўсягды пры дарозі (Быч, Карм.); Падаро́жнікі — гэта не грыбы: пакуль данясеш дадому — усе абламаюцца (Каранёўка, Гом.+Даманавічы, Калінк.; Крупейкі, Лоеўск.).

ПАДАРО'ЖНІК II *м.* дзіця (*пазашлюбнае*). Падаро́жнік ён у яе, недзі знайшла (Баравое, Лельч.).

ПАДАРЭ'ШНІК *м., бат.* падалешнік. Як пойдзеш по орэхі, то падарэ́шнік под орэшніком расце (Падворак, Лельч.); Падарэ́шнікам добра галаву мыць (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДАРЭ'ШНІЦА *ж., бат.* грузд. Падарэ́шніцы пад арэхамі растуць, грузды па-вашэму (Холмеч, Рэч.).

ПАДАСА'КА *ж.* падосак. Штось подоса́ка розхіталася зусім (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* падасёнак.

ПАДАСЁНАК *м., тое, што* падаса́ка. На вось кладзецца падасёнак, раней дзеравяны (Дубраўка, Добр.).

ПАДАТКНУ'ЦЬ *зак., перан.* падбухторыць. Хтось штось падаткне́, дык тады смеху поўная хата (Вышалаў, Петр.). *Параўн.* паддылды́кнуць.

ПАДА'ЦЦА I *зак.* 1. накіравацца, пайсці. «Анютка, куды ты падала́ся?» — «Ды схаджу да магазіна» (Хальч, Гом.); 2. змарнець. Усё буў нішто, а за гэту зіму пада́ўся крэпко (Дзвіжкі, Ельск.).

ПАДА'ЦЦА II *зак.* здацца. Гэта табе, мабыць, падало́ся (Крыўск, Б.-Каш.).

ПАДАШВА' *ж.* 1. падэшва. Атарвалася ў міне падаш-

ва́ (Холмеч, Рэч.); Калі робіш падашву́ ў лапці, дак як трэба падплятаць? (Марозавічы, Б.-Каш.+Хізы, Ветк.); 2. ступня. Прапарола склянка падашву́ (Марозавічы, Б.-Каш.+Піркі, Браг.).

ПАДАЯ'НА *ж.* перадача. Была ў бальніце і перадала ёй падая́ну (Грушаўка, Нар.).

ПАДБАЛАЦЯ'НКА *ж., бат.* грыб (*балотны*). Падбалацян́кі белыя, наверсе цямней, паднізам павуцінавачкай, плевачкай тонкай заслана (Баравікі, Светл.+Даманавічы, Калінк.).

ПАДБАРО'ДАВІК *м.* падбародак. Нарасціў жыру, вунь двайны падбаро́давік (Бабовічы, Гом.); У яго падбаро́давіку тры рэдзі (Камунар, Б.-Каш.); Упаў і ўдарыўся падбаро́давікам (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* падбаро́давіч.

ПАДБАРО'ДАВІЧ *м., тое, што* падбаро́давік. О, які ў цябе падбаро́давіч вырас (Неглюбка, Ветк.); Ён ходзіць ужэ з во якім падбаро́давічам (Холмеч, Рэч.).

ПАДБЕ'Л (патбе́л) *м.* крываўнік. Патбе́л ат жэнскіх балезняў добра (Саўгасная, Б.-Каш.).

ПАДБІВА'ННЕ *н., с/г* акучванне. На падбіва́нне бульбы трэба дзве нядзелі (Пабеда, Ветк.).

ПАДБІ'ЦЬ *зак., с/г* акучыць. Як падаб'ю бульбу, вазьмуся за сцірку (Пабеда, Ветк.). *Параўн.* падмяша́ць, пасе́чкаць.

ПАДБРУ'СНАЕ *н.* пачастунак цеслярам (*пасля ўзвядзення сцен вышэй вокнаў*). Замачваюць сёння ў іх падбру́снае і паталочнае (Дубраўка, Добр.).

ПАДБУКРО'ЙВАЦЬ *незак.* падбухторваць. Не падбукро́йвай его гарэлку піць, ён на гэто і сам способны (Бярэзнікі, Светл.). *Параўн.* пад'ялды́каваць.

ПАДВА'ЛАК *м., тое, што* падако́нніца. У кожным акне адзін падва́лак (Хізы, Ветк.); То ж трэба было падва́лкі пакрасіць, ды часу не хапае (Амелькаўшчына, Хойн.+Багданавічы, Карм.; Янова, Ветк.). *Параўн.* падлако́тнік, падло́га *ў 3 знач.,* паду́шка *ў 3 знач.*

ПАДВА'ЛКА *ж.* падваліна. Падва́лкі ложуцца на шанданы (Рудня, Чач.). *Параўн.* падло́га *ў 2 знач.,* падмо́снік.

ПАДВАРО'ТНІК *м.* падваротня. Маладзіца, залажы падваро́тнік (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* падваро́тніца, падво́рніца.

ПАДВАРО'ТНІЦА *ж., тое, што* падваро́тнік. Вароты

нашы без падваро́тніцы (Хізы, Ветк.); Я варота зрабіў, а падваро́тніцу сам прыб'еш (Валахоўшчына, Браг.); Пастаў падваро́тніцу, а то сабакі будуць лазіць (Чырвона Дуброва, Рэч.+Баравікі, Светл.; Бялёў, Жытк.; Карот кавічы, Жлоб.; Крыўск, Б.-Каш.; Мікулічы, Браг.; Пярэ дзелка, Лоеўск.; Р.-Шлягіна, Ветк.; Халочча, Чач.). *Параўн.* падво́рніца.

ПАДВЕ'ДЗЕНКА (падвядзёнка) *ж.* кашмірка. Купіла падве́дзенку (Махнавічы, Маз.); У лаўку прывезлі хустак падве́дзенак (Буйнавічы, Маз.); У наш магазін сёння прывезлі падвядзёнак (Віць, Хойн.).

ПАДВЕ'Й I *м.* віхар. Сёння круціць падве́й, у вочы пясок нясе, што не выйдзеш на двор (Бабовічы, Гом.).

ПАДВЕ'Й II *м.* параліч. Я аднаму хлопцу падве́й лячыла і нічога, адышоў (Баравікі, Светл.).

ПАДВО'Д *м.* падгалосак. Спяваюцца ў нас песні с падво́дам (Забалацце, Раг.). *Параўн.* падця́г, падця́гванне, падыма́нне.

ПАДВО'ДЗІЦЬ I *незак.* класці *(падмурак)*. Я падво́дзіў фундамент пад зруб (Марозавічы, Б.-Каш.+ М. Аўцюкі, Калінк.).

ПАДВО'ДЗІЦЬ II *незак.* 1. падцягваць, падпяваць. Чуеш, як яна падво́дзіць? (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* падгало́сваць. 2. падгаворваць. Я ўсё яе падво́дзіла разыйсціся (Аравічы, Хойн.).

ПАДВО'КАННЕ *н.* пад вокнамі. Васіль наш любіць хадзіць па падво́канні (Чырвоная Паляна, Б.-Каш.).

ПАДВО'РАК *м.* двор (*каля хаты*). У падво́рак зайшла карова, ледзьве выгнаў (Грушаўка, Нар.+Белы Пераезд, Петр.).

ПАДВО'РНІЦА *ж., тое, што* падваро́тнік. Залажы дзверы падво́рніцай (Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* падваро́тніца.

ПАДВО'РУХА *ж., тое, што* пабягу́ха. Падво́руха не стыкаецца дома (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* патаску́ха, паха́тніца, паха́тняя, паха́туха.

ПАДВУХМА'ЧЫЦЬ *зак.* падвучыць. Падвухма́чылі й етую жэншчыну, каб яна не дала машыну калыміць (Палессе, Чач.).

ПАДВЫ'ПІЎШЫ *дзеепрым.* ап'янелы (*крыху*). Ён быў кожны дзень крыху падвы́піўшы (Церахоўка, Добр.).

ПАДВЫ'ПІЦЬ *зак.* ап'янець. Учора мой стары падвы́піў ды й пайшоў спаць (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДВЯРНА́ЦЬ *незак.* падварочваць (*сена*). Спачатку сена накосяць, а тады ўжо ходзяць ды падвярна́юць яго (Піркі, Браг.).

ПАДВЯЧО́РАК *м.* вечарынка (*у жаніха перад вяселлем*). Вуньо у Івана не було падвячо́рка (Баравое, Лельч.); Хлопцы збіраліся на падвячо́рак, канхветы куплялі, дзеўкам дзікалон (Хутар, Светл.).

ПАДГА́ДЗІЦЬ *зак.* 1. падвесці. Ён не падга́дзіць у вучобе (Шарын, Ельск.); 2. нашкодзіць. Ён так падга́дзіў мне, што хоць ідзі з галавою ў раку (Запясочча, Жытк.); Падга́дзіла ты нам, дзеўка, мы спадзяваліся на другое (Ст. Сяло, Гом.).

ПАДГАЛО́СВАЦЬ *незак., тое, што* падво́дзіць *у 2 знач.* Некаторыя добра маглі падгало́сваць (Забалацце, Раг.).

ПАДГАЛУ́БЛЕНЫ *прым.* падсінены. Печ у мяне падгалу́блена (Хізы, Ветк.).

ПАДГА́ЛЫ *прым.* стромкі (*прамы, высокі*). Бачыш вунь ту падга́лую сасну? (Грушаўка, Нар.).

ПАДГА́РЫ *прым.* паджары. У Новай Дуброві пашці ўсе каровы падга́рыя (Ст. Дуброва, Акц.).

ПАДГЕ́ЙСТРА I *аг.* чалавек (*непаседлівы*). От ужэ падге́йстра нека, задзярэ хвост і бегае па хаці (Каменка, Маз.).

ПАДГЕ́ЙСТРА II *ж.* падгерац. Падге́йстра злучаецца з шворнам, каб ён не пагнуўся (Грушаўка, Добр.). *Параўн.* падге́йсцер.

ПАДГЕ́ЙСЦЕР *м., тое, што* падгейстра II. Без падге́йсцяра нікуды не паедзеш (Неглюбка, Ветк.); Дастань мне новы падге́йсцер, бо стары згубіўся (Бабовічы, Гом.).

ПАДГІНА́ЦЬ *незак., крав.* падрубліваць. А шчэ ж і тоя плацця падгіна́ць трэба (Кавака, Браг.).

ПАДГЛА́ДЖВАЦЬ *незак.* пагладжваць, лашчыць. Падгла́джваць трэба парасёнка, каб не баяўся хазяіна (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДГНЁТ *м.* груз (*для адціскання сыру*). Палажы падгнёт на сыр (Неглюбка, Ветк.)

ПАДГУ́ЗАК *м.* частка (*збруі*). Прынясі мне падгу́зак на каня (Неглюбка, Ветк.).

ПАДГУМЕ́ННЕ *н.* прыгуменне. Схадзі на падгуме́нне і прынясі мяшок (Неглюбка, Ветк.).

ПАДДАБРЫ́ЦЦА *зак.* паддобрыцца. Паддабры́ўся

во Мікіта, а яна, дурная, і паверыла (Хізы, Ветк.) *Параўн.* пад'ехаць, падлізацца, падлябедзіцца.

ПАДДА'ЦЬ I *зак.* падбавіць (*пары*). Трэба болей пары паддáць (Кавака, Браг.); Паддáй пары ў парылку (Тураў, Жытк.+Піркі, Браг.).

ПАДДА'ЦЬ II *зак.* выпіць (*гарэлкі*). А наш Іван паддáў ужо (Забалацце, Раг.).

ПАДДЗЕ'ЎКА *ж.* 1. паддзёўка. Паддзéўка добра на паказцы вісіць (Рафалаў, Браг.); Надзень паддзéўку, а то будзе халодна ў дарозе (Заспа, Рэч.); Надзень гэту паддзéўку, на дварэ такі мароз (Белы Пераезд, Петр.). *Параўн.* пóддзеўка *ў 1 знач.;* 2. спадніца (*сподняя*). Каб спадніца ляжала красівей, надзявалі паддзéўку (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Параўн.* паддзёлка, паддзявáнка, пóддзеўка *ў 2 знач.,* пóддзіўка.

ПАДДЗЁЛКА (паддзёўка) *ж., тое, што* паддзéўка *ў 2 знач.* Унізу паддзёлка абшывалася ў кружавы (Раманавічы, Гом.); Насця, падай мне паддзёўку (Чырвоная Буда, Добр.). *Параўн.* паддзявáнка *ў 2 знач.,* пóддзеўка *ў 2 знач.,* пóддзіўка.

ПАДДЗЁРЖКА *ж.* заколка, шпілька *(для валасоў)*. На твае косы толькі і нада паддзёржка (Капань, Рэч.).

ПАДДЗЯВА'НКА *ж.* 1. безрукаўка. Паддзявáнку надзень, цяплей будзе (Рафалаў, Браг.); 2. *тое, што* паддзéўка *ў 2 знач.* Мне маці на вяселле аддала паддзявáнку сваю, з брыжыкамі (Кавака, Браг.) *Параўн.* паддзёлка, пóддзеўка *ў 2 знач.,* пóддзіўка.

ПАДДО'НКА *ж., рыб.* вуда *(спецыяльная)*. Паддóнка — ета калі на провалаку цапляюць некалькі кручкоў і з камнем закідаюць на ваду. У нас багата хто паддóнкай рыбу ловя (Дубраўка, Добр.).

ПАДДУБЕ'ШКА *ж., бат.* паддубовік. Паддубéшка — цвёрды, бальшы, шэры грыб (Беразнякі, Петр.); Паддубéшак я не люблю, несмачныя (Баравікі, Светл.). *Параўн.* паддýбнік.

ПАДДУ'БНІК *м., бат., тое, што* паддубéшка. Паддýбнік пахож на дабрак, толькі светлы. Расце боляй лі дубоў. Толькі цапніcь за яго, адразу і пасінея (Ліпнякі, Лоеўск.); Ля хаты е паддýбнікі, абабкі, рыжкі (Холмеч, Рэч.); Ходзем тудэю, там паддýбнікоў того году росло багато (Ст.-Высокае, Ельск.).

ПАДДЫЛДЫ'КНУЦЬ *зак., тое, што* падаткнýць. Ка-

лі б яна не паддылды́кнула, ніякай ругані не было б (Крупка, Маз.).

ПАДДЫ'МНІК *м., бат.* падтыннік. Падды́мнік ад срыванага жывата п'юць (Холмеч, Рэч.).

ПАД'Е'СЦІ *зак.* паесці. Нада чаго-ліба пад'е́сці (Неглюбка, Ветк.); Захацелася пад'е́сці, ды няма чаго (Халочча, Чач.).

ПАД'Е'ХАЦЬ *зак., тое, што* паддабры́цца. Пад'е́хала так, што і не падступішся (Піркі, Браг.).

ПАД'ЁМКА I *ж.* чапяла. Патэльню гарачую трэба браць пад'ёмкай (Зладзін, Маз.); Пад'ёмкай бяры, а то рукі апарыш (Насовічы, Добр.). *Параўн.* патляя́.

ПАД'ЁМКА II *ж.* ліфт. Была ў дачкі, дык паднімалась і апускалась с пятага этажа над пад'ёмцы (Шырокае, Б.-Каш.).

ПАДЖАНІ'ШНІК *м.* старшы дружка (*жаніха*). Паджані́шнік — ета найпярвейшы таварыш жаніха (Быч, Карм.); А паджані́шнік яго красівы (Стаўбун, Ветк.).

ПАДЖО'ГА *ж.* падпалка. Без паджо́гі дровы не гараць (Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* падпа́л.

ПАДЖЫ'ЎШЫ *прым.* пажылы. Такая была гордая, нікога не прызнавала, а пасля выйшла за паджы́ўшага хлопца (Быч, Карм.).

ПАДЗАГНЕ'Т *м.* выемка (*у печы пад прыпекам*). Скавараду, міскі пастаў у падзагне́т. Падзагне́ты завешваюцца (Хізы, Ветк.). *Параўн.* падзагне́тніца, падпры́пек, падпры́печак.

ПАДЗАГНЕ'ТНІЦА *ж., тое, што* падзагне́т. Падзагне́тніца — ета ямка пад загнетам (Палессе, Чач.). *Параўн.* падпры́пек, падпры́печак.

ПАДЗАДА'ЦЦА *зак.* паправіцца, растаўсцець. Ён прыйшоў з салдат, падзада́ўся і пайшоў работаць (Піркі, Браг.).

ПАДЗА'ПАР *прысл.* падрад, запар. Ён з'ядае ўсё падза́пар (Лучыцы, Петр.).

ПАДЗЕ'ЖКА *ж.* вопратка (*падыспад*). Я ўсягда адзяю Віцю падзе́жку, штоб ён не прастыў (Крупейкі, Лоеўск.).

ПАДЗЕ'ЛЛІВЫ *прым.* шчодры. Ён чалавек падзе́лліві, паследнім дзеліцца (Бабовічы, Гом.).

ПАДЗЁННІК *м.* 1. падпасак (*падзённы*). Пастуха наймалі, а падзённіка давалі па чарзе (Гарадзец, Раг.). *Параўн.* падпа́свіч, падпа́січ; 2. падзёншчына. Хадзіла

к памешчыку прама на ўвесь падзённік (Баравікі, Светл.).

ПАДЗІ'ВАК (падзівок) *толькі адз., міф.* урокі, сурокі. Напаў падзівок на чалавека (Махнавічы, Маз.). *Парайн.* падзіў.

ПАДЗІ'Ў *м., тое, што* падзівак. Што рабілася са мною! Прыйшла я да бабкі, а яна кажа, што падзіў, і палячыла (Дуброва, Петр.).

ПАДЗО'ЛІЦА *ж.* падзол. Падзо́ліца там, нічога не родзіць (Забалацце, Раг.).

ПАДЗО'Р *м.* прасціна *(з карункавай аблямоўкай, вышыўкай)*. У Ганны падзо́р дужа красіва вышыты (Апанасаўка, Гом.); Падзо́р засцілаецца на кравацъ пад пакрывала так, штоб кружава было відаць (Майскае, Жлоб.). *Парайн.* падзо́рнік.

ПАДЗО'РНІК *м., тое, што* падзо́р. Падзо́рнік памірэжаны красівымі ўзорамі (Пянчын, Б.-Каш.+ Загор'е, Чач.).

ПАДЗЬ I *ж., бат.* падзь. Падзь салодкая, но мёд плохі. Па́дзі много на лісцях (Дубраўка, Добр.).

ПАДЗЬ II *ж.* упадзіна. У нас за сялом падзь ёсць (Бабовічы, Гом.).

ПАДЗЯЛЁНКА *ж.* грыб (*накшталт зялёнкі*). У падзялёнкі верх чарнаваты, а корань адрэжаш, ён пачынае зелянецъ (Бярэзнікі, Петр.); Падзялёнкі такія, як зялёнкі (Баравікі, Светл.).

ПАДЗЯЦІ'НІЦЦА *зак.* здзяцінець. Ён падзяці́ніўса ўжэ на старосць (Дарашэвічы, Петр.).

ПАДКАБЛУ'ЧЫЦЬ *зак.* закаціць *(вочы)*. Пена з роту, вочы падкаблу́ча і на чатырох паўзе (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДКАЛО'ТКА (паткало́тка) *ж., кулін.* булён *(падкалочаны)*. Вылі падкало́тку свінні, бо ена прапала ўжэ (Піркі, Браг.+Залессе, Чач.; Заходы, Лельч.; Грушаўка, Нар.). *Парайн.* падко́латка.

ПАДКА'МЕНКА *ж., заал.* падкаменшчык. Ета палявая пташка, а кубло падка́менкі будзе на зямлі, ля камня (Вялікае Поле, Петр.); У нас водзяцца падка́менкі і лугавыя, і палявыя (Ямпаль, Рэч.).

ПАДКА'ПЫВАЦЬ *незак.* капаць бульбу (*выбарачна*). Калі прыезжаюць ка мне з горада, дык падка́пываю бульбу найкрупней (Піркі, Браг.). *Парайн.* падма́цаваць.

ПАДКАПЫ′ТНІК *м.* капыток. На адной назе карова два падкапы́тнікі зламала (Дубраўка, Добр.).

ПАДКЛА′СЦІ *зак.* падшыць. Падкладзі́ ліству (Камунар, Б.-Каш.).

ПАДКЛЕ′ЙКА *ж., шав.* паднарад. У чобатах шчэ прыклейваецца падкле́йка к галянішчы (Раманавічы, Гом.+Быч, Карм.). *Параўн.* паднара́дка.

ПАДКО′ЛАТКА *ж., тое, што* падкало́тка. Падко́латкі сёння не варыла (Уваравічы, Б.-Каш.).

ПАДКО′РНЫ *прым.* падкарэнны. Сёлета багата клапоў падко́рных развялося, у лесе пад дрэвамі аж чырвона ад іх (Кароткавічы, Жлоб.)

ПАДКО′СНІК (патко́снік) *м.* 1. каснік. Я ўплятала ў косы падко́снік. Ето вам не нада, стрыжаным (Дубраўка, Добр.); 2. пасма *(лёну)*. Цяпер патко́снікі ўжо не ўплятаюць у косы (Грушаўка, Добр.).

ПАДЛА′ДЖВАЦЬ *незак.* браць *(мёд)*. Мы падла́джваем мёд некалькі разоў у год (Забалацце, Раг.).

ПАДЛА′ДЗІЦЦА *зак.* удацца. Мне падла́дзілася сахару ўзяць (Быч, Карм.).

ПАДЛАКО′ТНІК *м., тое, што* падако́нніца. Пакладзі на падлако́тнік у той хаці (Марозавічы, Б.-Каш.); Усе падлако́тнікі старыя сталі (Іскра, Чач.). *Параўн.* падва́лак, падло́га *ў 3 знач.*, паду́шка *ў 3 знач.*

ПАДЛА′СІЦА *ж., заал.* ласка. Падла́сіца хітрая, ніяк не выслядзіш яе (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* падла́сціца.

ПАДЛА′СКА *ж.* карова *(падласая)*. Пайду сваё падла́ску заганю ў хлеў (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАДЛА′СЦІЦА *ж., заал., тое, што* падла́сіца. Як падла́сціца пад каровай пабегае, дык нядобра карове (Аравічы, Хойн.).

ПАДЛЕ′ГЧЫ *зак.* накапаць бульбы (*выбарачна*). Баба пашла падле́гчы маладой бульбы (Баравікі, Светл.). *Параўн.* падма́цаць.

ПАДЛЕ′ІЦЬ *зак.* падліць. Ён падле́іў вады карове (Славань, Светл.).

ПАДЛЁТУХ *м.* падлетак. Я ж ёй кажу: «Не гуляй з етым падлётухам», дык ні слухае (Хізы, Ветк.). *Параўн.* падро́стак *у 1 знач.*, по́длетак, по̀драсцень.

ПАДЛЁТЫШ *м., заал.* птушаня. Падлётыша біць нельга (Каранёўка, Гом.). *Параўн.* по́дляцень.

ПАДЛІ′ВА *ж., кулін.* падліўка. Катлет напякла, асталась падлі́ву здзелаць (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ПАДЛІ'ЗА *аг.* ліслівец. Косцік наш падліза самы настаяшчы: к усім падліжацца (Іскра, Чач.); У мене дачка падліза добрая (Каравацічы, Рэч.+Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* падлізнік.

ПАДЛІЗА'ЦЦА *зак. тое, што* паддабрыцца. Падлізацца нада ўмець, не кажды падліжацца (Халочча, Чач.+ + Іскра, Чач.; Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* падлябедзіцца.

ПАДЛІ'ЗНІК *м., тое, што* падліза. А гэты ўвесь у бабу пайшоў. Вельмі ж вялікі падлізнік, падліжацца ўсюдах (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАДЛО'БІСТЫ *прым.* пануры. Яна такая злая, падлобістая (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДЛО'ГА *ж.* 1. падлога. У нашай хаце пакрашана падлога (Гардуны, Добр.); Нада падлогу памыць (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* памост *у 2 знач.;* 2. *тое, што* падвалка. Нада ўжо новыя падлогі ставіць пад мост (Быч, Карм.). *Параўн.* падмоснік; 3. *тое, што* падаконніца. Столькі вады збіраецца на падлозе (Быч, Карм.). *Параўн.* падвалак, падлакотнік, падушка *ў 3 знач.*

ПАДЛУ'БНІК *м.* прыстасаванне *(у ткацкім станку).* Вяроўкі ў падлубнік пускай (Харомцы, Акц.).

ПАДЛЮ'КА *аг., лаянк.* чалавек (*подлы*). Узяў, падлюка, у мяне грошы і не аддаў (Дубраўка, Добр.).

ПАДЛЯБЕ'ДЗІЦЦА *зак., тое, што* паддобрыцца. Так ужо да яго падлябедзілась (Баравікі, Светл.).

ПАДЛЯШЧО'ЎКА *ж., заал.* падлешчык. І лешчоў спаймаў, і падляшчовак (Холмеч, Рэч.).

ПАДМА'НІВАЦЦА *незак.* дражніцца. Не трэба з мене подманівацца (Бялёў, Жытк.).

ПАДМАХНУ'ЦЬ *зак., перан.* падпісаць. Падмахні, будзя што і табе (Востраў, Раг.).

ПАДМА'ЦАВАЦЬ *незак., тое, што* падкапываць. Ужо маладую бульбу я даўно падмацаваю (Стаўбун, Ветк.); Бульбу падмацуюць у юлі (Чкалава, Гом.).

ПАДМА'ЦАЦЬ *зак., тое, што* падлегчы. Трэба бульбу маладую падмацаць (Забалацце, Раг.); Мамулька, хоць на супчык падмацай бульбы (Ст. Буда, Б.-Каш.); Сённі ўжо маладыя бульбы падмацала (Хізы, Ветк.+ +Пянчын, Б.-Каш.).

ПАДМЕ'ЦЦЕ *н.* снег *(апошні).* Падмецце саўсім чорнае (Лучын, Раг.) *Параўн.* падскробак *у 3 знач.*

ПАДМО′ВІЦЬ *зак.* падгаварыць. Падмо́вілі яе дзеўкі і хлопцы, то яна й пайшла (Пясчанікі, Жытк.).

ПАДМО′СНІК *м., тое, што* падва́лка. Увесь падмо́снік грыбок з'еў (Апанасаўка, Гом.); Ад іх танцаў аж падмо́снікі калыхаліся (Бабовічы, Гом.); Пад падмо̀снікамі раней стаялі штандары з дзерава, а цяпер з кірпіча (Быч, Карм.+Карма, Добр.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш; Піркі, Браг.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Раманавічы, Гом.; Славань, Светл.; Халочча, Чач.; Хізы, Ветк.; Хутар, Светл.). *Параўн.* падлѐга *ў 2 знач.*

ПАДМО′СТ *м.* пограб *(у хаце)*. Падмо̀ст у хаце, а падвал у сенцах (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* падмо̀сце.

ПАДМО′СЦЕ *н., тое, што* падмо́ст. У нас падмо̀сце і ў адной хаце, і ў другой (Хізы, Ветк.+Капань, Рэч.; Мормаль, Жлоб.; Чырвоная Дуброва, Рэч.).

ПАДМУ′РАК (подму́рок) *м.* выступ *(каля печы)*. А ты скач на подму́рок, а тады на печ (Бялёў, Жытк.).

ПАДМЫ′Ў *м.* месца *(дзе вада падмывае бераг)*. Скора падмы́ў падбярэ і тыя дзераўцы на берагу (Янова, Ветк.); Маці паласкала бяллё каля падмы́ву (Івакі, Добр.); Там сільныя подмы́вы берагоў (Бялёў, Жытк.); На левым беразе падмы́ваў зусім няма (Кароткавічы, Жлоб.); У падмы́вах многа ракаў водзіцца (Багданавічы, Карм.+ Норкаўшчына, Карм.).

ПАДМЯША′ЦЬ *зак., с/г, тое, што* падбіць. Нада падмяша́ць капусту (Багданавічы, Карм.) *Параўн.* пасе́чкаць.

ПАДНАВЕ′С *м.* павець. Усю восень цыбуля вісела пад паднаве́сам (Суткоў, Лоеўск.).

ПАДНАВІ′ЦЬ *зак.* падмяшаць (*цеста*). Потым паднаўлю́ я яго: мукі падсыплю, памяшаю (Палессе, Чач.).

ПАДНАРА′ДКА *ж., шав., тое, што* падкле́йка. Вопытны масцер адразу падклеіць паднара́дку (Багуцічы, Ельск.).

ПАДНЕ′БАК *м.* скляпенне (*у печы*). Падне́бак пачысцілі ўвесну (Ст. Рудня, Жлоб.). *Параўн.* паднябе́нне *ў 2 знач.*

ПАДНЕ′БНІК (паднёбнік) *м.* прыстасаванне (*у ткацкім станку)*. Падне́бнік баўтаўся высока ўверсе (В.-Стралкі, Раг.); Пакацёлкі прымацавалі да паднёбнікаў (Івакі, Добр.); У паднёбнікі ўсажуюцца палкі і насажуюцца качолкі з зарубачкамі (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* пане́біч, пане́бнік, панёбніца.

ПАДНЕ'СЦІ *зак.* падняць *(на рогі)*. Ета карова, брат ты мой, таго й глядзі, што паднясе́ (Залессе, Чач.).

ПАДНО'ГАЦЬ *м.* пазногаць. Вубірала ўчора картоплі, то пазадзіраліся паднѐгці (Тураў, Жытк.).

ПАДНО'ЖНІК *м.* палавік. Пайшлі вытрусім з табой еты паднѐжнік (Бялёў, Жытк.);/ручнік *(на якім стаяць маладыя перад алтаром)*. Сваха падсцілае палаценца пад ногі маладым, тады ставяць іх на еты паднѐжнік (Раманавічы, Гом.+Піркі, Браг.).

ПАДНЯБЕ'ННЕ *н.* 1. *анат.* паднябенне. Чагось баліць паднябе́нне (Марозавічы, Б.-Каш.); Гарачай бульбінай паднябе́нне спаліла (Кароткавічы, Жлоб.+Тураў, Жытк.); 2. *тое, што* падне́бак. У моёй печы трэба строіць пуднебе́нне, ужэ багато повупадало цэглы (Заходы, Лельч.+Меркулавічы, Чач.).

ПАДО'БІЦЬ (подѐбіць) *зак.* спадабаць, палюбіць. Мою Аню вэльмі ены подо́білі (Грушаўка, Нар.).

ПАДО'ДНІКІ *толькі мн.* кальсоны. Хоць бы падо́днікі зняў, іх муць трэба (Каменка, Маз.). *Параўн.* падшта́нікі.

ПАДО'Л I *м.* падол *(плацця)*. Зімой як золіш плацця на рацэ, дык усей падѐл абмерзня (Барталамееўка, Чач.+Пянчын, Б.-Каш.; Раманавічы, Гом.; Р.-Каменева, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.); /прыпол. Шла паўз сад, у падо́л трохі падалак назбірала (Кірава, Браг.). *Параўн.* падо́лак, пе́лена́ *ў 1 знач.*

ПАДО'Л II *м.* рэчышча. Вунь куды павярнуў падол той ракі (Навасёлкі, Петр.+Багданавічы, Карм.); /месца на беразе (*дзе мыюць бялізну*). Бабы з бяллём пайшлі на падо́л па лугу (Дзям'янкі, Добр.+Хізы, Ветк.); /нізіна (*на лузе*). Я лён свой разаслала на падо́лі, ці добра будзя? (Быч, Карм.).

ПАДО'ЛАК *м., тое, што* падо́л I. Запецкала ў агародзе ўвесь падо́лак (Баравікі, Светл.+Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* пе́лена́ *ў 1 знач.*

ПАДО'ЛКІ *толькі мн.* урочышча. Коней на начлег пагналі ў падѐлкі, на вялікую траву (Бялёў, Жытк.).

ПАДО'НАК *м.* адонак. Пад сена з дубцоў падѐнак ложым (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДО'ННЕ *н.* пласт сена *(ніжні)*. Карова наелась падѐння і здохла (Шылавічы, Б.-Каш.).

ПАДО'ПЛЕКА *ж., тое, што* падапле́ка. У старых усе рубашкі з падѐплекай (Капань, Рэч.+Майскае, Жлоб.).

ПАДО'РВАНЫ *прым.* падарваны. Работаў на цяжкай рабоце і быў падо́рваны (Забалацце, Раг.).

ПАДПАВЕ'ЦЦЕ *н.* падпавець, павець. Схадзі ў падпаве́цце, там дровы пасечаныя (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* по́дпавець, прыкле́так.

ПАДПА'Л *м., толькі адз., тое, што* паджо̀га. Увесь падпа́л пад дажджом вымак (Марозавічы, Б.-Каш.+Кароткавічы, Жлоб.; Ручаёўка, Лоеўск.).

ПАДПА'ЛАК *м.* перапечка. Глядзі, каб падпа́лак не падгарэў (Хобнае, Хойн.); А етыя падпа́лкі мы пячэм на скавародкі перад агнём (Аравічы, Хойн.+Гноеў, Хойн.; Заходы, Лельч.). *Параўн.* падпа́льванік, по̀дпалак.

ПАДПАЛАТНЯ'НКА *ж., тэкст.* навой. Куды палатно навіваюць, дак ета падпалатня́нка (Каравацічы, Рэч.). *Параўн.* падпалацённік, палаце́ннік.

ПАДПАЛАЦЁННІК *м., тое, што* падпалатня́нка. Падпалацённікам накачуяць палатно (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* палаце́ннік.

ПАДПА'ЛЬВАНІК *м., тое, што* падпа́лак. Падпа́льваннік добрэ высох (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* по̀дпалак.

ПАДПАРАСЁНАК *м.* падсвінак. Падпарасёнак харошы, але не гладкі (Хізы, Ветк.). *Параўн.* по́цвінак.

ПАДПА'СВІЧ *м., тое, што* падзённік *у 1 знач.* Стары я ўжо, дык сын мой добры падпа́савіч, памагае мне (Халочча, Чач.); Еты год няма падпа́савіча, а той год цэлых два было (Хізы, Ветк.); Пастуху плацяць людзі, а падпа́савічу пастух, як з ім дагаворыцца (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* падпа́січ.

ПАДПА'СІЧ *м., тое, што* падзённік *у 1 знач.* Мой хлопец ужо добры падпа́січ (Дубраўка, Добр.); Часта пастух пасе без падпа́січа (Багданавічы, Карм.); Калісь було па некалькі падпа́січаў у нашага пана (Калінін, Хойн.+ Асарэвічы, Браг., Юравічы, Калінк.). *Параўн.* падпа́свіч.

ПАДПА'СЦІ *зак.* трапіцца. Дарога можа падпадзе́, паедзеце і прывязеце (Быч, Карм.).

ПАДПАТАЛО'ЧНАЕ *н., толькі адз.* пачастунак цеслярам (*калі пакладуць бэлькі*). Ужо і падпатало̀чнае папілі (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* патало́чнае.

ПАДПА'ХА *ж.* паха. Моцна забалела падпа́ха мая пасля работы (Асінаўка, Чач.). *Параўн.* падпа́шша, пах, паха́, па́хва.

ПАДПА'ШША *ж., тое, што* падпаха. У падпа́шшы рэжа плацце (Камунар, Б.-Каш.). *Парайн.* пах, паха́, па́хва.

ПАДПЕ'ЧЧА *н.* падпечак. Кот наш прывык у падпе́чча лазіць (Пакалюбічы, Гом.); Раней у падпе́ччы сядзелі куры зімой (Кароткавічы, Жлоб.+Асінаўка, Чач.; Іванаўка, Хойн.; Марозавічы, Б.-Каш.; Хізы, Ветк.; Цешкаў, Нар.).

ПАДПЛЕ'ТАНКА *ж.* швайка. Так націснуў, што зламалася падпле́танка (Вуглы, Нар.+ Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* падпля́та́лка, падпля́тка, по̀дплетанка, по́дплетка.

ПАДПЛІТА'НІК *м.* блін (*з канопляй і смятанай*). На скавароднік насыплем тоўчанай каноплі, пяком, аблiем смятанай і ядзім добрыя падпліта́нікі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДПЛО'ТНІЦА (потпло̀тніца) *ж., іран.* распусніца. Ох ты, потпло̀тніца, бегі ўжэ, жджэ цебе (Макарычы, Петр.).

ПАДПЛЯТА'ЛКА *ж., тое, што* падпле́танка. На ідзі нажом выраж падпліята́лку (Холмеч, Рэч.); Падплята́лкай пляцём лапці (Бабовічы, Гом.). *Парайн.* падпля́тка, по́дплетанка, по̀дплетка.

ПАДПЛЯТА'ННЕ *н.* падплёт. Падплята́нне крэпка дзелаеш, каб жа не працёрлася (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАДПЛЯ'ТКА *ж., тое, што* падпле́танка. Спляцеш спачатку лапці спіцамі, а потым ужо даплятаеш падпля́ткай (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* падплята́лка, по̀дплетанка, по́дплетка.

ПАДПО'РНІК *м.* крэсла. Мы прывыклі к лаўкам, нашто нам тыя падпо́рнікі за пяць рублёў (Яланы, Светл.).

ПАДПО'ЎНЯ *ж.* фаза *(месяца)*. Падпо́ўня сёння на двары (Холмеч, Рэч.+Ламавічы, Акц.).

ПАДПРЫ'ПЕК *м., тое, што* падзагне́т. Пастаў, дзед, чыгун у падпры́пек (Кароткавічы, Жлоб.); Пусты гарлач стаіць у падпры́пеку (Залессе, Чач.); Падпры́пекі ў кожнай печы ў нас ё (Багданавічы, Карм.+Калінічы, Нар.). *Парайн.* падзагне́тніца, падпры́печак.

ПАДПРЫ'ПЕЧАК *м., памянш. да* падпры́пек. Падпры́печак такі маленькі, што туды гаршкі не памяшчаюцца (Церахоўка, Добр.); У сваёй печы я падпры́печка не зрабіла (Забалацце, Раг.+ Навінкі, Калінк.). *Парайн.* падзагне́тніца, падпры́пек.

ПАДПУ'ЗЗЕ *н.* падчарэўе. І падпу́ззе харошае, калі

свіння ўкормлена (Хізы, Ветк.); А сала з падпўззя не зжуеш (Дубраўка, Добр.); Адрэж падпўззе да ў хату занясі (Холмеч, Рэч.+Неглюбка, Ветк.).

ПАДПУ'ЗІЧ *м.* папруга *(частка вупражы)*. І сядзёлка, і падпўзіч, і церазсядзельнік, і крылы ў нас свае е (Піркі, Браг.). *Параўн.* падпўзнік.

ПАДПУ'ЗНІК *м., тое, што* падпўзіч. Падпўзнікам перавязалі каня (Хізы, Ветк.).

ПАДПЯЛЯ'СЫВАЦЬ *незак.* падпяразваць. Ты павужай падпялясывай (Піркі, Браг.).

ПАДРАБІ'ЦЬ (пудробіць) *зак., міф.* сурочыць. Нашай карові пудробілы і вона цэлый месяц не давала молока (Грушаўка, Нар.).

ПАДРАДЗІ'ЦЦА *зак.* 1. падахвоціцца, паабяцаць. Падрадзілася Анюта бульбу капаць і няма (Хальч, Гом.). *Параўн.* памéцца; 2. панадзіцца, унадзіцца. Падрадзіўся бегаць у сад (Камсамольскае, Рэч.).

ПАДРА'ПАЦЬ *зак.* пагрэбці. Штоб ім кіпці паадсыхалі, як яны падрáпалі грады (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДРА'ЦЬ *зак.* паскубці (*пер'е*). Подушкі хочаце, а подрáць пер'е неколі (Дарашэвічы, Петр.).

ПАДРАШЭ'ТНІК *м., бат.* махавік. Падрашэтнікі жаранькія, дзірачкамі, трохі да маслюкоў падобныя (Баравікі, Светл.).

ПАДРО'Б (подрóб) *м., бат.* грыб (*ядавіты*). Вісыпай свої подрòбы ў ведро (Ст.-Высокае, Ельск.).

ПАДРО'СТ *м.* падлесак. Гэты год подрóст добрэ ўзяўса росці (Бялёў, Жытк.); Па рэдкам бару расце малады падрóст (Майскае, Жлоб.).

ПАДРО'СТАК *м.* 1. *тое, што* падлётух. Во, ужо і Грышкаў хлапец падрóстак (Хізы, Ветк.) *Параўн.* пòдлетак, пòдрасцень; 2. дрэва (*маладое*). Не падрастуць падрóсткі ў лесе — мала ім сонца ад старых дрэў (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДРУ'Б *м.* падруба. Ужо гатоў падрўб, на душы стала весялей (Хізы, Ветк.+Амельна, Раг.; Багданавічы, Карм.; Кароткавічы, Жлоб.; М.-Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* пóдруб.

ПАДРУДЗІ'ЦЬ *зак.* падфарбаваць (*валасы ў карычневы колер*). Мая Светачка падрудзіла ўзяла косы (Піркі, Браг.).

ПАДРЫ'ПАЦЬ *зак., іран.* пабегчы. А куды ж ты падрыпала? (Баравікі, Светл.).

ПАДРЭ́ЗАЦЬ *зак.* 1. падрэ́заць (*валасы*). Цяпер жа дзеўка як падрэ́жа валасы, дык галава што цалбан які круціцца (Касцюкоўка, Гом.); Падрэ́зала етакія доўгія косы! (М. Аўцюкі, Калінк.); Хвасты мне трохі падрэ́ж (Камунар, Б.-Каш.); 2. *перан.* падмыць (*бераг*). Падрэ́зала хлеў на беразе (Хізы, Ветк.).

ПАДРЭ́СЦІ *зак.* падрасці. Як падрэ́с трохі, так і на службу пайшоў (Піркі, Браг.).

ПАДСАБІ́ЦЬ *зак.* дапамагчы. Скапаю сваю бульбу, да і Зіне нада падсабі́ць (Крыўск, Б.-Каш.).

ПАДСАБЛЯ́КА *м., тое, што* павало́ка. Вунь падсабля́ка ўжо ваду панёс (Баравікі, Светл.). *Параўн.* прылёп, прыту́ла.

ПАДСА́КА *ж., рыб.* падхватнік. Падса́ка бальшая такая, з жалезнай сеткі (Ручаёўка, Лоеўск.); Вазьмі вунь падса́ку, прынясеш рыбы на вячэру (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* паўк.

ПАДСАЛАВЕ́Й *м.* птушка (*накшталт салаўя*). Мы сёння папаслухалі падсалаўя́ (Ямпаль, Рэч.).

ПАДСА́ЧЫК І *м., рыб., памянш. да* падса́ка. Мы больш налавілі падса́чыкам, чым ты навудзіў (Багданавічы, Карм.).

ПАДСА́ЧЫК (потса́чык) ІІ *м.* пінжак. Надзень потса́чыка, а то прастудзішся (Макарычы, Петр.).

ПАДСВЕ́Т *м., рыб.* ліхтар. Ноччу рыбу ловіш і падсве́т бярэш з сабою (Бабовічы, Гом.).

ПАДСЕ́К *м., цясл.* счэс (*у нізе бервяна*). Зробіш падсе́к і глядзі — бервяно к бервяну як прыстала (Кароткавічы, Жлоб.+Багданавічы, Карм.).

ПАДСЕ́КЦІ *зак.* параніць. Адну нагу падсе́клі на фронце, потым другую (Баравікі, Светл).

ПАДСІЛКАВА́ЦЦА *зак.* падмацавацца. Ідзі падсілку́йся, галодны ж (Піркі, Браг.).

ПАДСІ́НЬКА *ж.* сінька. А тая падсі́нька, дзеўкі, у чуланчыку, вось ключ ад яго (Марозавічы, Б.-Каш.); У каравашніка купіла пяць пакецікаў падсі́нькі (Палессе, Чач.); Падсі́ньку ўкінь жа, не забудзься (Кавака, Браг.)

ПАДСКРО́БАК (падскрэ́бак) *м.* 1. хлеб (*з рэшткаў цеста*). Падскрэ́бак прыгарэў у печы, забулась я на яго (Іванаўка, Хойн.); Мае малыя дзеці вельмі любілі падскро́бак (Любань, Б.-Каш.). *Параўн.* падскрэ́біш, паскро́бак, паскро́бка, паскрэ́бак, паскрэ́біш, пашкрэбнік, пера-

пе́чачак, перапі́чка; 2. дзіця *(апошняе)*. Ён у нас падскро́бак, дак шкода ж вельмі (Дарашэвічы, Петр.); Я ў сям'і была паскро́бкам (Шылавічы, Чач.). *Парайн.* пасле́дыш; 3. *тое, што* падме́цце. Падскро́бак растаў у марці (Ухаў, Ветк.).

ПАДСКРЭ'БІШ *м., тое, што* падскро́бак *у 1 знач.* Цеста для падскрэ́біша не хапіла (Уваравічы, Б.-Каш.). *Парайн.* паскро́бак, паскро́бка, паскрэ́бак, паскрэ́біш, пашкрэ́бнік, перапе́чачак, перапі́чка.

ПАДСКУ'РНІК *м., заал.* авадзень. На кароў напалі падску́рнікі (Ямпаль, Рэч.).

ПАДСО'СНІК *м., бат.* грыб. Падсо́снік — ета такі карычневы грыб, падобны на баравік (Бярэзнікі, Петр.).

ПАДСТА'ЎКА *ж.* 1. падстаўка *(пад вулей)*. К дзераву прыбіваецца падстаўка, а на ее вулей ставіцца (Холмеч, Рэч.). *Парайн.* памо́ст *у 1 знач.;* 2. *груб.* нага. Убіры падста́ўкі, а то разваліўся, як у бані (Вітлін, Раг).

ПАДСТРЫ'ЖКА *ж.* стрыжка. У Гомель падстры́жку паедзіць дзелаць (Улукаўе, Гом.).

ПАДСУ'ЧЧА (падсу́ччэ) *н.* канат. На падсу́ччы паднялі якар уверх (Дарашэвічы, Петр.).

ПАДСЦЕ'ЛЬНІК *м.* насціл *(на сані)*. Людзей павязеш, палажы на сані падсце́льнік (Насовічы, Добр.). *Парайн.* падсці́л *у 2 знач.,* пасце́льнік.

ПАДСЦЁЛ *м.* подсціл. Жыта змалоціцца, салома астанецца на падсцёл карові (Дарашэвічы, Петр.+Багуцічы, Ельск.). *Парайн.* падсці́л *у 1 знач.*

ПАДСЦІ'Л *м.* 1. *тое, што* падсцёл. Ужо ўвесь падсці́л выйшаў для свіней (Дуброва, Петр.); А чоловек ён нікудышні, за хозяйством не глядзіць, подсці́л і той не можа змяніць (М. Аўцюкі, Калінк.); 2. *тое, што* падсце́льнік. Хазяін зрабіў падсці́л на сані (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* пасце́льнік.

ПАДСЦІ'ЛКА *ж., шав.* вусцілка. Падсці́лку вырэзваем са старых валенак ды ложым у сапагі, каб ямчэй было (Хізы, Ветк.). *Парайн.* по̀днязь.

ПАДТАВА'РНІК *м.* лесаматэрыял (*для сплаву*). На плыт можна многа нагрузіць падтава́рніку (Баравікі, Светл.).

ПАДТА'РКАВАЦЬ (падта́ркуваць) *незак.* церці. На тарочку картоплі подта́ркуем (Бялёў, Жытк.).

ПАДТАРНО'ЎКА *ж.* хустка *(невялікая)*. Учора сабе падтарно̀ўку новую купіла (Каменка, Маз.).

ПАДТА'ША *ж., тое, што* падпаве́цце. Зараз пачці што ні ў каго німа падта́ш, зараз усе дзелаюць сараі, каб худобі цяплей було (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* по̀дпавець, прыкле́так.

ПАДУДУ'КАЦЬ *зак., тое, што* пабалбата́ць. Мне шчэ з ім трэба падуду́кацць (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* пагаманіць *у 1 знач.,* пакугі́кацць, пацубе́нькацць.

ПАДУ'ЖАЦЦА *зак.* памерацца сіламі. Давай паду́жаемся з табой (Н. Гута, Гом.).

ПАДУ'ЖАЦЬ *зак.* 1. адолець, асіліць. Давай аб заклад, што я яго паду́жаю (Хальч, Гом.); Хоць Пятро меншы, а паду́жаў Змітра (Шарын, Ельск.); 2. паправіцца, паздаравець. Я ўжо думала, што ніколі не паду́жаю— так цяжка хварэла (Запясочча, Жытк.).

ПАДУЗО'РНІК *м., спец.* шляк. Красіво ў вас вязаны падузо̀рнік (Дарашэвічы, Петр.); Усе падузо́рнікі дачка сама вушывала (Грушаўка, Нар.).

ПАДУ'СТА *ж., заал.* подуст. Галкі пастаўлены на паду́сту (Ломыш, Хойн.).

ПАДУ'ЧКА *ж., мед.* эпілепсія. У нашага суседа паду́чка, дак такія страшныя прыпадкі бываюць (Баравікі, Светл.).

ПАДУ'ШАЧКА I *ж., памянш. да* паду́шка *ў 1 знач.* Паду́шачку дай, дзетка, палажу пад галаву (Піркі, Браг.); Для дзяцей дзелаюць маленькія паду́шачкі (Косаль, Карм.).

ПАДУ'ШАЧКА II *ж.* назва танца. Дзеўкі любілі паду́шачку танцаваць (Халочча, Чач.).

ПАДУ'ШКА *ж.* 1. падушка. Без паду́шкі вельмі мулка спаць (Забалацце, Раг.); Вон у Просі паду́шкі як горы стаяць (Косаль, Карм.+ Бабовічы, Гом.); 2. частка воза. Паду́шка ставіцца ў задок павозкі, калі збіраюцца ў выезд (Насовічы, Добр.); У возі ўжо старыя паду́шкі (Чабатовічы, Б.-Каш.); 3. *тое, што* падако́нніца. На паду́шцы роза стаіць у банцы (Піркі, Браг.); Для ўсіх вакон шырокія паду́шкі зрабіў (Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* падва́лак, падлако́тнік, падло̀га *ў 3 знач.*

ПАДУ'ШЧАНІК *м.* навалачка. Надзену на падушку кужэльны паду́шчанік (Харомцы, Акц.).

ПАДХАЛІ'М *м., зневаж.* ліслівец *(нізкі, нікчэмны).* Ён жа, кажуць, такі падхалі́м (Баравікі, Светл.).

ПАДХВА'ТНЫ I *прым. зручны.* Сакера падхва́тная, я бяру ў лес яе (Запясочча, Жытк.). *Параўн.* пахва́тны.

ПАДХВА'ТНЫ II *прым.* запальчывы. У міне сын падхва́тны, у каго ён удаўся? (Башыца, Б.-Каш.).

ПАДХЛЯ'БІСТЫ *прым.* перахлябісты. Такі ж ужэ падхля́бісты, зусім жывата няма (Грушаўка, Добр.).

ПАДЦІКАВА'ЦЬ *зак.* падпільнаваць. Нада падцікава́ць Мар'ю, адкуль яна сена носіць (Асінаўка, Светл.); Падціку́й, калі адчыняць краму, хлеба няма ў нас (Заспа, Рэч.+Гарадзец, Раг.; Прудок, Калінк.; Пясчанікі, Жытк.).

ПАДЦІ'РКА *ж.* кавалак палатна. Абізацільна карову нада падмыць і падці́ркай выцерць дойкі (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ПАДЦЯ'Г *м., тое, што* падво̀д. А тут ужэ падця́г ідзе (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* падця́гванне, падыма́нне.

ПАДЦЯ'ГВАННЕ *н., тое, што* падво̀д. У нас калісь усе песні пелі з падця́гваннем (Баравікі, Светл.). *Параўн.* падця́г, падыма́нне.

ПАДША'ПКА *ж.* ніжняя частка шапкі грыба. Ой, якая чорлівая бувая подша́пка ў грыба (Баравое, Лельч.); Зусім гнілыя падша́пкі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАДШТА'НІКІ *толькі мн., тое, што* падо̀днікі. І нагавіцы, і падшта́нікі — усе з чыстага палатна, з белага (Багуцічы, Ельск.); А дзед усё малодзіцца, ні хоча падшта́нікі зімой надзіваць (Барталамееўка, Чач.+ Кавака, Браг.).

ПАДШЧА'МЛІВАЦЬ *незак.* пабольваць. Сённі падшча́млівае жывот, але трошкі луччай (Быч, Карм.).

ПАДШЫБНУ'ЦЬ *зак.* падкінуць. Хлопцы як падшыбну́ць ды падшыбну́ць, вышэй за дзерава ляціш (Агароднп, Добр.).

ПАДЫ'МАК *м., мед.* грыжа. Цегала адна дровы, а цепер палы́мак лечыць трэба (Клясаў, Петр.).

ПАДЫМА'ННЕ *н., тое, што* падво̀д. Весь вечар пелі старынныя песні без падыма́ння (Баравікі, Светл.). *Параўн.* падця́г, падця́гванне.

ПАДЫМА'ЦЬ *незак.* 1. падымаць (*што-н.*). Я сена ношку падыма́ю (Ручаёўка, Лоеўск.); 2. падбіраць *(лён)*. Падыма́ць лён усёй сям'ёй выходзім (М. Аўцюкі, Калінк.); Лён падыма́юць, калі ён выліжаўся (Літвінавічы, Чач.).

ПАДЫСПА'НЬ (падыспа́н) *м.* назва танца. Падыспа́нь у нас пасці не танцовалі (Бялёў, Жытк.); І падыспа́н на вечарынках гулялі (Баравікі, Светл.).

ПАДЫХО'ДЖЫ *прым.* элегантны. А табе гэтая кохтачка падыхо̀джая (Стаўбун, Ветк.).

ПАД'ЯДА'ЦЬ *незак.* наядацца. Ён пад'ядáе ого як, дак зато ж бач які (Холмеч, Рэч.+Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.).

ПАД'ЯЛДЫ'КАВАЦЬ *незак., тое, што* падбукрóйваць. Ты мяне не пад'ялды́кавай, я не гарачы (Быч, Карм.).

ПАЖА'РКА *ж., бат.* грыб. Пажáркі растуць велікія, но яны неўкусные (Ручаёўка, Лоеўск.+Бабовічы, Гом.). *Парайн.* пажáрніца *ў 2 знач.*

ПАЖА'РНІЦА *ж., бат.* 1. пажарніца. За Пецявым ляском пажáрніцы багата, нада туды кароў пагнаць (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); 2. *тое, што* пажáрка. Смажаныя пажáрніцы ўкусныя (Холмеч, Рэч.).

ПАЖАРЫ'ШЧА *н.* пажарышча. На пажары́шчы пастроілі новы дом (Бабовічы, Гом.).

ПАЖЛУ'КЦІЦЬ *зак., перан.* выпіць. Не ўсю яшчэ пажлýкціў гарэлку (Крыўск, Б.-Каш.).

ПАЖМА'КАЦЬ (пожмáкаць) *зак.* пажаваць. Я яму пакідала зелле, а яно ўжо ўсё пажмáкало (Грушаўка, Нар.).

ПАЖЫ'ЛЫ *прым.* пажылы. Дзядзька Іван пажы́лы ўжо (Чацвярня, Жлоб.).

ПАЖЫЎЛЕ'ННЕ (пожыўлéнне) *н.* ежа, пажыва. Дасць бог лето, то ўсё ё: то яблык, то ягада — для чалавека пажыўлéнне (Бялёў, Жытк.).

ПАЗА'ДНЫ *прым.* недабраякасны *(пра зерне)*. Плахое зерне пазáднае (Неглюбка, Ветк.+Хізы, Ветк.).

ПА'ЗАЛАК *м.* шчолак. Бяруць попел, параць кіпетком і палучаецца пáзалак. Засыпала ніткі пáзалкам у чыгуне і ў печ паставіла (Каравацічы, Рэч.) *Парайн.* пáзалкі, пазóлак, пазóлкі, пазóлы, перазóлкі.

ПАЗАЛЕ'ТАШНІ *прым.* трохгадовы. Пазалéташняе лета іх хата чыста згарэла (Піркі, Браг.).

ПА'ЗАЛКІ *толькі мн., тое, што* пáзалак. Вылі пáзалкі на гарод (Заспа, Рэч.); Як памокне пража ў пáзалках, становіцца бялейшай (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* пазóлак, пазóлкі, пазóлы, перазóлкі.

ПАЗАНІ'ЎВАЦЬ *зак.* высахнуць. Уся вада на агародзе пазаніўвала (Піркі, Браг.).

ПАЗАПІНА'ЦЬ *зак.* запяць. Дык хоць газетамі пазапінáйце вокны (Піркі, Браг.).

ПАЗА'ЎТРА *прыс.* паслязаўтра. Еслі петух схаваў

нагу ў пер'е, то заўтра ці пазаўтра будзе холадна (Ручаёўка, Лоеўск.). *Параўн.* пазаўтраму.

ПАЗА'ЎТРАМУ *тое, што* пазаўтра. Пазаўтраму прыедзе Антось (Хвойнае, Хойн.).

ПАЗАШЧАПЛЯ'ЦЬ *зак.* пазашпільваць. Пазашчапляй усе гузікі (Насовічы, Добр.).

ПАЗВА'НІК *м.* чалавек *(запрошаны на вяселле)*. Пазваць трэба пазванікоў (Харомцы, Акц.).

ПАЗГА'РТАЦЬ *зак.* пазносіць. Паклала на падолі палотнішчы, а вецяр пазгартаў у рэчку (Быч, Карм.).

ПАЗДАРО'ЎКАЦЦА *зак.* прывітацца. Бачыш, зазнаўся, ня хоча і паздароўкацца (Быч, Карм.); Ён ніганьбітны, прыйдзе й за руку паздароўкаецца (Пясчанікі, Жытк.).

ПАЗЕ'МКА *ж.* суніца. Хадзіця сюды, тут паземак багата (Агародня, Добр.).

ПАЗМІРА'ЦЬ *зак.* паўміраць. Так патрохі і пазміралі ўсе (Піркі, Браг.).

ПАЗНА'ЦЦА *зак.* пазнаёміцца, пасябраваць. Хочацца пазнацца з ёй (Холмеч, Рэч.); Як былі малы — пазналісь, а як выраслі — расстались (Касцюкоўка, Гом.).

ПАЗО'ЛАК *м., тое, што* пазалак. Вулі еты пазолак (Кавака, Браг.). *Параўн.* пазалкі, пазолкі, пазолы.

ПАЗО'ЛКІ *толькі мн., тое, што* пазалак. Золяць сарочкі, сціраюць, складаюць у жлукту без дна, потым у цэбер і заліваюць, а пазолкі выліваюцца (Піркі, Браг.); Налівай ваду гарачую, штоб пазолкі булі добры (Махнавічы, Маз.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.). *Параўн.* пазалкі, пазолак, пазолы, перазолкі.

ПАЗО'ЛЫ *толькі мн., тое, што* пазалак. Цішэй бегай, пазолы ні разлі (Бярэзнікі, Жытк.). *Параўн.* пазолкі.

ПАЗУБА'ЧЭЙ *прысл.* хутчэй. Пазубачэй ешце, на работу спозніцесь (Піркі, Браг.).

ПАЗУ'БІЦЦА *зак.* прарасці. Пазубіліся ўжэ мае гуркі (Харомцы, Акц.).

ПАЗЫВА'ТЫЯ *толькі мн.* давераныя асобы, якія запрашаюць на вяселле. Вунь пазыватыя прышлі ад Максіма (Хутар, Светл.+Гарывада, Рэч.).

ПАЗЫ'РЫЦЬ *зак.* папільнаваць. А вы добрэ пазырце коней ад град (Дзвіжкі, Ельск.).

ПАЗЫ'ЧКА *ж.* пазыка *(чаго-н.)*. Я ў позычкі хлеба пойду зараз, бо ў лаўку не прывезлі (Грушаўка, Нар.).

ПАЗЯВА'ЦЦА *незак.* пазяхацца. Нешта пазява́ецца мне пасля ўчарашняга (Неглюбка, Ветк.).

ПА'ЙКА *ж.* частка, доля, участак. Пакуль выцярэбіла сваю па́йку лёну, рукі забалелі (Быч, Карм.); У гэтым годзе ўсе кармавыя буракі пабілі на па́йкі (Баравікі, Светл.+Марозавічы, Б.-Каш.; Пучын, Браг.). *Парайн.* пля́ніца.

ПАКАЗА'ЦЕЛЬНЫ *прым.* указальны *(палец)*. Надзень персцень на паказацельны палец (Піркі, Браг.).

ПАКАЗЛАВА'ЦЬ *зак., зневаж., тое, што* павы́пуліць. Вочы паказлава́ў па яблаку. Чаго ты тыя безі паказлава́ў? (Дубраўка, Добр.).

ПАКАЛО'МЧЫЦЬ *зак.* скамячыць. Сядзі асцярожна, а то пакало́мчыш новую спадніцу (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* паклы́чыць, пако́мшыць.

ПАКАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. пабяліць. Пакалі́ць сцены трэба, ды няма калі (Пясчанікі, Жытк.+Тураў, Жытк.). *Парайн.* пама́заць; 2. запэцкаць. Перайшла вуліцу і пакаліла боты (Перароў, Жытк.).

ПАКАЛЫХА'ЦЦА *зак.* патанцаваць. А ты б пошла ў клуб, паколыха́лась (Бялёў, Жытк.).

ПАКАЛЯ'КАЦЬ *зак.* паразмаўляць. Праходзь, садзісь. Пакаля́каем аб чым-небудзь (Ніўкі, Добр.).

ПАКАМЕ'ЧАНЫ *прым.* скамечаны. Куды ты надзела пакаме́чанае плацце (Бабовічы, Гом.).

ПАКА'МІСЬ *прысл.* пакуль. Хай пабудзе пака́місь у нас (Перарост, Жытк.).

ПАКАМО'ШЫЦЬ *зак.* паблытаць. Пакамо́шыла ўсё, цяпер не разбяру што да чаго (Буйнавічы, Маз.+Запясочнае, Маз.).

ПАКАНА'ЦЬ *зак.* памучыцца. Пакана́ў трохі і памёр (В. Нямкі, Ветк.).

ПАКАСТО'РЫЦЬ (покосто́рыць) *зак.* адбяліць *(у хлорнай вапне)*. Бяллё покосто́рыш, оно тако чыстае стане (Бялёў, Жытк.).

ПАКАТЫ' *толькі мн.* прыстасаванне *(для пагрузкі лесу)*. Штоб падняць бервяно на воз, трэба палажыць пакаты́ (Дубраўка, Добр.). *Парайн.* по́кат II.

ПАКАЦЁЛ *м.* кацёлка *(сланечніка)*. Скруці сабе пакацёл, а то заснеш за каровай (Маркавічы, Гом.); У нас такія пакатлы́ ўрадзіліся (Кабанаўка, Жлоб.+Саўгасная, Б.-Каш.; Чарнейкі, Рэч.). *Парайн.* плёшка.

ПАКАЦЁЛКА *ж., ткацк.* кацёлка. Пакацёлкі падыма-

юць костачкі, штоб ніты былі вышай (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; Каравацічы, Рэч.; Кароткавічы, Жлоб.; Ліпляны, Лельч.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Сівенка, Ветк.; Тонеж, Лельч.).

ПАКАЦІ'ЦЦА *зак., перан.* упасці. Ішла, ішла і пакацілась на дарозі (Піркі, Браг.). *Параўн.* паляцéць *у 3 знач.*

ПАКІДА'Ч *м.* мужчына *(разведзены)*. Такая дзеўка, а вышла замуж за пакідачá (Піркі, Браг.+Аравічы, Хойн.).

ПАКІДА'ЧКА *ж.* жанчына *(разведзеная)*. Яе дзеўка пакідáчка. Як узяў ён пакідáчку з дзіцём, дык і жызні ў іх няма (Піркі, Браг.).

ПАКЛА'ДЛІВЫ (поклáдлівы) *прым.* памяркоўны. Сыны ў мяне булі поклáдлівыя, уважыцельныя (Аравічы, Хойн.).

ПАКЛЕ'СКА *ж.* плыт *(невялікі)*. Па нашай рэчцы часта плавалі паклéскі (Баравікі, Светл.).

ПАКЛЁМКАЦЬ *зак.* пайсці. Куды ты паклёмкаў, дома будзь (Піркі, Браг.). *Параўн.* памандравáць, патрóпаць.

ПАКЛІ'МКАЦЬ *зак.* папрацаваць *(абы-як)*. Давайце трохі паклíмкаем да й дамоў (Палессе, Чач.).

ПА'КЛЫ *толькі мн., груб.* валасы. Сядзь ды пáклы свае расчашы (Барталамееўка, Ветк.). *Параўн.* пéйсы *ў 1 знач.*

ПАКЛЫ'ЧЫЦЬ *зак., тое, што* пакалóмчыць. Яны паклы́чылі ўсю пасцелю (Палессе, Чач.). *Параўн.* пакóмшыць.

ПАКО'МШЫЦЬ *зак., тое, што* пакалóмчыць. Пакóмшыла ўсё плацце, нераха (Антонаўка, Добр.). *Параўн.* паклы́чыць.

ПАКО'ПІШЧА *н.* месца *(дзе стаяла капа)*. Трэ іці падгрэбаць пакóпішча. Сходзім на пакóпішча, там шчэ сена трохі е (Бялёў, Жытк.).

ПАКРАВА' *толькі мн., рэл.* пакровы. На пакравá мой дзед радзіўся (Бярэзнікі, Петр.). *Параўн.* пакрóва.

ПАКРАПІ'ЦЬ *зак.* залатаць. Пакрапí мне штаны (Піркі, Браг.+Антонаў, Ельск.).

ПАКРО'ВА *ж., тое, што* пакравá. Прыдзе пакрóва і зямлю пакроя (Дубраўка, Добр.); У пакрóву чым-небудзь пакрыя зямлю: ці лістам, ці снегам (Багуцічы,

Ельск.+Бялёў, Жытк.; Гарывада, Рэч.; М. Аўцюкі, Калінк.; Хутар, Светл.).

ПАКРО'ПІЦЬ *зак.* пакрапіць. Трэба пакро́піць жука трохі (Дарашэвічы, Петр.).

ПАКРЫ'ВЕЦ (покры́вец) *м., бат.* пакрывец. Кажуць, што покры́вец добрэ помогае от крываўкі (Падворак, Лельч.).

ПАКРЫ'ЎКА *ж.* накідка. Седні пачала пакры́ўкі плесці (Будкі, Нар.). *Параўн.* пакры́шка.

ПАКРЫ'ШКА *тое, што* пакры́ўка. Цюлевыя пакры́шкі з магазіна, а самі вышываныя дзелалі (Карма, Добр.); У яе на пакры́шках узор дужа красівенны (Апанасаўка, Гом.+Азяраны, Раг.; Аравічы, Хойн.; Асарэвічы, Браг.; Баравікі, Светл.; Барталамееўка, Ветк.; Бялёў, Жытк.; Загор'е, Чач.; Кароткавічы, Жлоб.; Косаль, Карм.; Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.; Смалегаў, Нар.).

ПАКРЫШЫ'ЦЬ *зак.* пашынкаваць *(капусту)*. Ці яны самі пакры́шаць капусту? (Сямёнаўка, Рэч.).

ПАКУГІ'КАЦЬ *зак., тое, што* пабалбатаць. Сабраліся пакугі́каць, даўно не бачыліся (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* пагаманіць *у 1 знач.,* падуду́каць, пацубе́нькаць.

ПА'КУЛЛЕ *зборн.* атрэп'е. Па́кулле такоя грубая, з яго павады ўюць (Чарнейкі, Рэч.). *Параўн.* па́трапкі, патро́пкі, патрэ́п'е, патрэ́пкі, пачо́скі.

ПАКУМІ'ЦЦА *зак.* стаць кумамі. Ці ж не пара нам з табой пакумі́цца? (Касцюкоўка, Гом.); У трыццаць восьмым годзе пакумі́ліс мы з Іванам (Баравікі, Светл.).

ПАКУРА'ЦІЦЦА *зак., тое, што* пагусінець (пагусяне́ць). Другі раз ад холаду цела аж пакура́ціцца (Піркі, Браг.+Ламавічы, Акц.).

ПАКУ'ШТАЦЬ *зак.* выпрабаваць яйка на моц. Паку́штай ета яйцо, мабуць, крапчэйшае (Грушаўка, Добр.).

ПАЛА' *ж.* 1. крысо. Пала́ к пале́, а чалавек да чалавека хіліцца (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); Нада гузікі прышыць к пале́, а то ад ветру разлятаецца (Бялёў, Жытк.+ +Рафалаў, Браг.; Усохская Буда, Добр.); 2. стрэшка *(над стогам)*. Пад пало́й стог сухі быў (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* пракла́дзіна.

ПАЛАВІ'НКІ *толькі мн.* 1. бульба *(адвараная палавінкамі)*. На вячэру зварыла палаві́нкі, дак у рот ніхто не ўзяў (Восаў, Светл.). *Параўн.* паро́нка *ў 1 знач.,* пару́нкі, пасалёнка, пастая́ннікі; 2. *тое, што* паві́нкі *ў 2 знач.* На зіму мы паставілі кадушку палаві́нок (Галоў-

чыцы, Нар.+Асінаўка, Чач.; Заходы, Лельч.; Любань, Б.-Каш.).

ПАЛАВІ'ННЕ *н.* мякіна. Раньшай шмат палавіння аставалася (Піркі, Браг.).

ПАЛАВІ'ННІК *м.* палавіна бервяна *(распілаванага ўздоўж)*. Там жа ляжаць адны палавіннікі (Халочча, Чач.+Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* палавіншчык, палаўня́к.

ПАЛАВІ'НШЧЫК *м., тое, што* палавіннік. Вунь у нас ёсць некалькі палавіншчыкаў (Забалацце, Раг.). *Параўн.* палаўня́к.

ПАЛАЗНІ'ЦА *ж.* след *(санны)*. Мабуць, важкі воз праехаў, бо палазніцы глыбокія (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* палазня́.

ПАЛАЗНЯ' *ж., тое, што* палазніца. Палазня́ гэта яшчэ свежая (Бабовічы, Гом.).

ПА'ЛА'НКІ I *толькі мн.* адыходы *(пры апаланні круп)*. Етыя пала́нкі пойдуць свінням (Быч, Карм.); Кабану свайму мы калі па́ланак падсыплем, калі чаго (там жа).

ПАЛА'НКІ II *толькі мн.* начоўкі *(для апалання круп)*. Нада пала́нкі круп прапалаць (Васільеўка, Добр.); Вазьмі пала́нкі і папалай проса (Быч, Карм.+Літвінавічы, Чач.). *Параўн.* пала́ннік.

ПАЛА'ННІК *м., тое, што* пала́нкі II. Поўны пала́ннік насыпала грэчкі мне (Астрагляды, Браг.).

ПАЛА'ТКІ *толькі мн.* 1. палок *(ля печы, у лазні)*. Дзеўкі, лезьце на пала́ткі ды папарцесь добра (Кароткавічы, Жлоб.); На пала́тках спіцца лепш, на печы горачэ (Гарадзец, Раг.+Сівенка, Ветк.); 2. вышкі. У Андрэя поўныя пала́ткі сена (Дабрынь, Ельск.); Пала́ткі ямчэй з жэрдак, вецер ходзя, хоць прасушвае (Хізы, Ветк.); Сена на пала́тках ужо мала, а зіма яшчэ не канчаецца (Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* пала́ці *ў 1* і *2 знач.,* палаць I, паталóк *у 1 знач.*

ПАЛАТНО' *н.* 1. тканіна *(саматканая)*. У мяне столькі многа палатна́. Я і цяпер усё тку. Цяпер мала ткуць. Усё ёсць у магазінах (Крупейкі, Лоеўск.); Хоць нябеляная, хоць суравоя, а багата наткала палатна́ (Раманавічы, Гом.); Добрая пагода сёння, добра выбеліваць палатнó (Р.-Каменева, Лоеўск.); 2. частка пілы. Палатнó заржавела і ручкі шатаюцца, хіба гэта піла? (Суткоў, Лоеўск.+ Засінцы, Ельск.; Піркі, Браг.); 3. перапонка

(*плавальная*). Прабіла качка на нешта палатно́ на назе (Ліпляны, Лельч.). *Парайн.* палаце́нца *ў 2 знач.*

ПАЛАТНЯ'НКА *ж.* хустка (*палатняная*). У мяне тады багата было палатня́нак (Аравічы, Хойн.).

ПАЛАЎНЯ' *ж.* дошка (*на падлогу*). Було многа палаўне́й, дзе ж яны дзеліся? (Баравікі, Светл.). *Парайн.* пальніца, памасніца.

ПАЛАЎНЯ'К *м., тое, што* палаві́ннік. Палаўнякі нада дзе ў вугал скласці (Халочча, Чач.). *Парайн.* палаві́ншчык.

ПАЛАЦЕ'ННІК *м., тое, што* падпалатня́нка. Прывяжы ніткі к палаце́нніку і заткай іх (Кірава, Жлоб.). *Парайн.* падпалацённік.

ПАЛАЦЕ'НЦА *н.* 1. ручнік. Падай палаце́нца выцерцісь (Р.-Каменева, Лоеўск.); Я яшчэ даўно наткала палаце́нцаў, дак яны і цяпер у мяне ёсць (Крупейкі, Лоеўск.). *Парайн.* паціра́ха, паціра́ч; 2. *тое, што* палатно́ *ў 3 знач.* У качак на нагах палаце́нцы, каб добра плаваць (Вуглы, Нар.).

ПАЛА'ЦІ *толькі мн.* 1. *тое, што* пала́ткі *ў 1 знач.* Сабрала б ты ўжэ цета плацця да памула, а то поўныя пала́ці (Навінкі, Калінк.); На пала́цях добра зімой спаць, цёпла (Баравікі, Светл.); У бані на пала́цях парацца (Неглюбка, Ветк.+Славань, Светл.); 2. *тое, што* пала́ткі *ў 2 знач.* Іван, памажы зацягнуць сена на пала́ці (Карма, Добр.).

ПАЛАЦЦЁ *н., с/г* поліва. Яно відна, дзе тваё палаццё, а дзе маё (Пeрароў, Жытк.). *Парайн.* пало́нне, пало́цце.

ПАЛА'ЦЬ I *ж., тое, што* пала́ткі *ў 1 знач.* На пала́ці занята, там храпе Івась (Глушкавічы, Маз.). *Парайн.* пала́ці *ў 1 знач.*

ПАЛА'ЦЬ II *незак.* палаць (*зерне*). Сягодні нам трэба жыта пала́ць і вецір узяўся харошы (Зялёныя Лукі, Гом.); Жыта веялі, пала́лі, падсявалі (М. Аўцюкі, Калінк.).

ПАЛЕ'НА *н.* 1. палена. Хоць бы адно пале́на дроў было на дворы (Бабовічы, Гом.); Прынясі шчэ поле́н пяць дроў (Грычынавічы, Жытк.); У печы добра тапіць сухімі пале́намі (Кароткавічы, Жлоб.); 2. хвост (*ваўка*). Ваўчугу падстрэліў во з такім пале́нам (Халочча, Чач.+ +Стаўбун, Ветк.).

ПАЛЕ′ТКУ *прысл.* летам. Я ета шчэ палётку купіў (Засінцы, Ельск.).

ПАЛЕ′ТНІК *м.* сезоннік. Пойдзеш к пану раней, наймешся ў палётнікі (Быч, Карм.).

ПАЛЁНКА *ж.* цэгла *(абпаленая)*. Раней печ лажылі з сырца, а цяпер з палёнкі (Дубраўка, Добр.).

ПА′ЛІК *м., шав.* пройма. Не дзелай вялікі па́лік (Баравікі, Светл.); Па́лікі ўжо здзелала (Р. Марымонава, Гом.).

ПАЛІКМАХЕ′РНЯ *ж.* цырульня. Палікмахе́рні ў нас німа, едзь у горад (Неглюбка, Ветк.).

ПАЛІТУ′РКА *ж., перан.* вокладка. Не кідай так, у кнігах новыя паліту́ркі (Віць, Хойн.); Тата, Ігнась у маёй кніжцы адарваў паліту́ркі (Вуглы, Нар.).

ПА′ЛКІ *прым.* горкі. Ох, які па́лкі яблык (Неглюбка, Ветк.).

ПАЛО′ЙКА *ж.* палова *(качана)*. Бач, усю пало́йку з'еў, прагаладаўшыся (Калінічы, Нар.+Грабаў, Петр.; Заспа, Рэч.; Хвойнае, Хойн.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* палу́стачка.

ПАЛО′ННЕ *н., тое, што* палаццё. Пало́ння будзя яшчэ на нядзелю (Пабеда, Ветк.). *Параўн.* пало́цце.

ПАЛО′СКАЦЬ *незак.* паласкаць. У нас ракі няма, а по канавах не пало́скаем (Бялёў, Жытк.).

ПАЛО′ССЕ *зборн.* кара *(ліпавая)*. Раней, бувало, надзярэш поло́сся да лапці і пляцеш. За товаром хорошэ ў лапцях ходзіць, так баба поло́ссе на лапці драла (Бялёў, Жытк.).

ПАЛО′ЦЦЕ *н., тое, што* палаццё. Пало́ццея ў тое лета было крэпка многа (Хізы, Ветк.). *Параўн.* пало́нне.

ПАЛУВО′ЗАК (паўво́зак) *м.* тачка. Гета ж хадзіла ў траву, то і прывезла палуво́зак свірэпкі (Стаўбун, Ветк.); Пішыці, дзеўкі, паўво́зак, а не воз (Баравікі, Светл.).

ПАЛУ′ДНАЦЬ *незак.* палуднаваць. Сядай з намі палу́днаць (Халочча, Чач.).

ПАЛУ′КАПАК *м.* бабка *(снапоў)*. Я нажынала па пяць палу́капкаў жыта (Ларышчава, Добр.).

ПАЛУКРО′ЎКА *ж.* сабака *(нечыстакроўны)*. Гэта не охотнічы сабака, а палукро́ўка (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАЛУМІ′САК *м.* міска *(неглыбокая)*. Налі, дзетка, баршчу вон у той палумі́сак, вам і хопіць на дваіх (Хізы, Ветк.); У палумі́скі добра разліваць халоднае (Залессе,

Чач.+ Запясочнае, Лельч.; Камаровічы, Петр.; Насовічы, Добр.; Новая Дуброва, Акц.). *Параўн.* паўміска.

ПАЛУНІ'ЦА *ж., бат.* ягада. Палуніцы і суніцы не адна і тая ж ягада. Палуніцы растуць на лугу красныя, схожыя на клубніку, толькі прадаўгаваценькія (Аравічы, Хойн.).

ПАЛУСА'ДНІК *м.* агародчык, кветнік. У палуса́дніку ў мяне кветкі растуць і кусты смародзіны (Ямпаль, Рэч.+Асінаўка, Чач.; Неглюбка, Ветк.; Пакалюбічы, Гом.; Суткоў, Лоеўск.).

ПАЛУСТАКА'ННІК *м.* чарка. Ціпер палустака́ннікамі тожа п'юць, але іх больш, чым калісь (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ПАЛУ'СТАЧКА *ж., тое, што* пало́йка. Палу́стачак качаноў накладаем у бочку і заліваем вадой (Грушаўка, Нар.).

ПАЛУ'ТАРКА *ж.* мера дроў *(паўтара метра)*. Палу́тарка ў два разы менш за сажэнь (Баравікі, Светл.); Рэжыш дровы на палу́таркі (Піркі, Браг.+М. Аўцюкі, Калінк.).

ПАЛЫ'ГАЦЬ *зак., іран.* паесці. Палы́гаў увесь боршч і мне не пакінуў (Дубраўка, Добр.).

ПАЛЫМЯ'НКА *ж., кул.* блін. Еж палымя́нкі во гарачыя (Зарубанае, Маз.).

ПАЛЬЗІ'ЦЕЛЬНА *прысл.* карысна. Пі, ета, гаворацць, пальзіцельна (Гадзілавічы, Раг.).

ПАЛЬНІ'ЦА *ж., тое, што* палаўня́. У сенцах пальні́ца падгніла пад самым парогам (Заспа, Рэч.). *Параўн.* памасніца.

ПА'ЛЬШЧЫК *м.* вугальшчык. Будзеш такі гразны, як па́льшчык, калі не хочаш вучыцца (Марозавічы, Б.-Каш.+Ручаёўка, Лоеўск.).

ПАЛЮ'ШКА *ж., кул.* булка. Сёння я палю́шкі буду, мусіць, пячы з ранку (Буйнавічы, Маз.).

ПАЛЯВА'ЦЬ *незак.* 1. паляваць. Мой чалавек яшчэ досвітку пайшоў палява́ць (Заспа, Рэч.); 2. бегаць *(аб жывёле)*. Мая свіння палюе, трэба да храка гнаць (Ямпаль, Рэч.); Нешта доўга мая карова ні палю́я (Каравацічы, Рэч.+ Аравічы, Хойн.; Бабовічы, Чач.; Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Дзям'янкі, Добр.; Забалацце, Раг.; Кароткавічы, Жлоб.; Навінкі, Калінк.; Ручаёўка, Лоеўск.; Хізы, Ветк.).

ПАЛЯВІ'К І *м., бат.* грыб. Палявік бела-шэрага ко-

леру. Хаця гэтага грыба ня бяры, ён ядавіты (Даманавічы, Калінк.).

ПАЛЯВІ'К II *м., устар.* дух *(палявы)*. Каб на цябе палявік напаў, бо вельмо ж ты ўжэ разумная (Баравое, Лельч.).

ПАЛЯНДРЫ'ЦА *ж.* паляндвіца. Паляндры́ца ета ат рабрыны тоўстая палоса мяса (Неглюбка, Ветк.). Забілі кабанчыка і насушылі паляндры́ц (Кавалі, Акц.).

ПАЛЯНІ'ЦА *ж.* баханка. Даўно ўжо паляні́ц не пекла, усе ў лаўцы хлеб купляю (Ямпаль, Рэч.). Вялікія ты паляніцы пячэш (Салтанаўка, Б.-Каш.);/булка *(якую пяклі на памінкі)*. Калісь чалавек памрэ, тады трэба пекці палені́цы (Холмеч. Рэч.); Палені́цы ўсегда на памінкі пеклі. Адну палені́цу неслі ў цэркву свецiць (М. Аўцюкі, Калінк.).

ПАЛЯНЯ'КА *ж.* палка. Прагані паляня́кай таго сабаку (Асінаўка, Светл.). *Параўн.* папіра́ха, па́пліска, па́плюсак, па́шыбак.

ПАЛЯЦЕ'ЦЬ *зак.* 1. паляцець. Во ўжо і качкі паляце́лі (Прудок, Калінк.); 2. *перан.* пайсці. Як толькі настае дзень, так і паляце́ла па хатах (Перароў, Жытк.); 3. *тое, што* пакацíцца. Ой, як паляце́ла, дык ногу зламала (Піркі, Браг.).

ПАМАГА'ЛЬНІК *м.* памагаты. Калі пачнецца песня, то пацягваюць памага́льнікі (Баравое, Лельч.).

ПАМА'ЗАЦЬ *зак., тое, што* пакаліць *у 1 знач.* Нада хату пама́заць к вялікадню (Пракапоўка, Добр.). Хату сёння пама́зала (Перароў, Жытк.).

ПАМАЛЕ'ЧКУ *прысл.* памаленьку. Я памале́чку пайду (Бялёў, Жытк.). А стары як там? — Памале́чку тэпае (Прудок, Калінк.).

ПАМАНДРАВА'ЦЬ *зак., іран.* пайсці. Мой сынок ужо пама́ндрава́ў (Хутар, Светл.). *Параўн.* патро́пацъ.

ПАМА'НЬВАЦЬ (пома́ньваць) *незак.* дражніць. Му яго пома́ньвалі, покуль ён вілку не схапіў (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* патыка́ць I *у 1 знач.*

ПАМАСНІ'ЦА *ж., тое, што* палаўня́. Памасні́цы парогу пагнілі (Пясчанікі, Жытк.); Ох, якія шырокія ў вас памасні́цы (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* пальні́ца.

ПАМА'ЎКІВАЦЬ *незак.* памоўчваць. Сядзі там і пама́ўківай, пакуль нічога ні спросяць (Хутар, Светл.).

ПАМЕ'Р (поме́р) *м.* плата *(за памол)*. Кажа, нада поме́р взяць (Дарашэвічы, Петр.).

ПАМЕ′ЦЦА *зак., тое, што* падрадзíцца *ў 1 знач.* Была й пам́елася, а дале назад (Гарадзец, Раг.).

ПАМІ′НКІ *толькі мн.* пачастунак *(пасля пахавання).* Праз тры дні траціны правім, праз шэсць тыдняў — шасціны, праз паўгода, год — памíнкі (Гарывада, Рэч.); Няхай ня сярдуе наш дзед на тым свеце, мы яму добрыя правім памінкі (Холмеч, Рэч.); Пасля пахавання правім абед, які называецца памíнкамі. Тут паляніцы дзелалі, канун (Касцюкоўка, Гом.+Баравікі, Светл.; Беразнякі, Петр.; М. Аўцюкі, Калінк.).

ПАМО′ЙКІ *толькі мн.* памыі. Вылі пам́ойкі на вуліцу (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАМО′Р *м., мед.* эпідэмія. Гэта ж такі пам́ор на людзей (Піркі, Браг.).

ПАМО′СТ *м. 1. тое, што* падст́аўка *ў 1 знач.* Дуплянкі ставяцца на хвораст, які і называецца пам́ост (Пярэдзелка, Лоеўск.); 2. *тое, што* падл́ога *ў 1 знач.* Трэба сённі пом́ост помуць, а то заўтра свята, а ў нас што робіцца тут (Замошша, Лельч.). Памыла пам́ост, змарылася, работы ля яго дужа багата (Крупка, Маз.+Аравічы, Хойн.; Бялёў, Жытк.; Навасёлкі, Петр.).

ПАМО′ЎКА *ж.* прымаўка. Да я гэтых пам́овак і ня ведаю (Бялёў, Жытк.).

ПАМЫ′ЙНІЦА *ж.* пасудзіна *(для памыяў).* Вынясь памы́йніцу і выллі ў яму (Башыца, Б-Каш.); Вылі памыі ў памы́йніцу (В. Нямкі, Ветк.); Вылі ў памы́йніцу, карові будзя (Жгунь, Добр.+Апанасаўка, Гом.; Буйнавічы, Маз.; Заспа, Рэч.).

ПАМЯ′КШЫЦЬ *зак.* змякчыць. Трэба памя́кшыць яблык, дак смашнейшы (Холмеч, Рэч.).

ПАМЯНУ′ЦЬ *зак.* напомніць. Памянí, якія казкі, дак раскажу тады (Баравікі, Светл.).

ПА′МЯТНЫ *прым.* злапамятны. Ну і па́мятны Васіль (Неглюбка, Ветк.).

ПАМЯЦЕ′ЛЬНІК *м.* дзяржанне *(мятлы).* Вазьмі памяц́ельнік, набі мятлу (Бабовічы, Гом.).

ПАМЯША′ННЕ *н.* вар'яцтва. Памяша́нне бывае ціхае і буйнае (Марозавічы, Б-Каш.); Яго ўжо і вазілі ў больніцу, таму што з ім было памяша́нне (Буйнавічы, Лельч.).

ПАНАЖЫ′ *толькі мн.* прылада *(ткацкая).* Панажы́ знаходзяцца ў нізе кроснаў (Піркі, Браг.; Каравацічы, Рэч.); Нялоўка ткаць, панажы́ высока падняты (Халочча, Чач.); Трэба зрабіць новыя панажы́, а то як увап'юцца

ў нагу, аж млосна робіцца (Загор'е, Чач.); А ты ўсё ніяк не можэш навучыцца наступаць на панажы́ (Замошша, Жытк.+ Бабовічы, Гом.; Баравікі, Светл.; Будкі, Нар.; Кароткавічы, Жлоб.; Ліпляны, Лельч.; Марозавічы, Б.-Каш.; Прудок, Калінк.).

ПАНАНІ'ЧЫВАЦЬ *зак.* панашываць. Ёй пананíчывала ж тады багата чаго (Піркі, Браг.).

ПАНАПА'СВАЦЬ *зак.* напасвіць. Кароў так панапáсвала, што ледзь ідуць (Запясочча, Жытк.).

ПАНАРА'Д *м.* 1. скат. З гораду прывезлі панарáдаў для калёс (Забалацце, Раг.); 2. ткацкі станок. Панарáд паставіла, дык усю хату заняў (Нісімкавічы, Чач.); Я купіла ўвесь панарáд к ставам (Сівенка, Ветк.); Трэба панарáд увесь свой са столі дастаць да паставіць кросны (Каравацічы, Рэч.); Мой панарáд забрала сваха (Кірава, Жлоб.+Будкі, Нар.; Быч, Карм.; Дубраўка, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Пярэдзелка, Лоеўск.).

ПАНАРО'ЎКА *ж.* звычка. У яго такая панарóўка (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ПАНАРЫ'ЦА *ж., мед.* панарыцый. І адкуль толькі ета панары́ца ўзялася? (Цярэшкавічы, Гом.).

ПАНЕ'БІЧ *м., тое, што* паднéбнік. Вельмі ж вусоко ты повесіла понéбіча (Тонеж, Лельч.). *Парайн.* панéбнік, панёбніца.

ПАНЕ'БНІК *м., тое, што* паднéбнік. Міхайло, забі гвоздзікі ў брус, павесь на гвоздзікі шнурочкі і павесь панéбнік (Ліпляны, Лельч.). *Параўн.* панéбіч, панёбніца.

ПАНЕ'НКА I *ж.* 1. дзяўчына *(прыгожая)*. Глянь, якая паненка пайшла (Велін, Рэч.); Ты красівая, як панéнка (Любань, Б-Каш.); 2. гультайка. Во панéнка, дзелаць нічога не хоча (Забалацце, Раг.); Падумаеш, панéнка! Здзелаеш і жывая астанешся (Краўцоўка, Гом.).

ПАНЕ'НКА II *ж., бат.* кветка. Панéнка цвіце маленькімі цвяточкамі, краснымі і белымі (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* панíч.

ПАНЕ'СЦІ *зак.* зацяжараць. Зноў яна панéсла, і тое ж саўсім малое (Лучыцы, Петр.).

ПАНЁБНІЦА *ж., тое, што* паднéбнік. Панёбніца якаясь нізручная (Халочча, Чач.). *Параўн.* панéбіч, панéбнік.

ПАНІКА'ЦЬ *незак.* заглядваць. Чаго ты там панікáеш, заходзь (Запясочнае, Маз.); Не панікáй куды ні след, недобра так рабіць (Буйнавічы, Маз.).

ПАНІ'КЛІВЫ *прым.* блізарукі. У Анюты дачка такая паніклівая (Асінаўка, Светл.). *Параўн.* паніклы.

ПАНІ'КЛЫ *прым., тое, што* паніклівы. О, ён паніклы ўжо, газет зусім не можа чытаць (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАНІМА'ТНЫ *прым.* разумны, дасціпны. Ён панімáтны хлапчук і ў навуцы, і ў рабоці (Прудок, Калінк.); Ёсць там панімáтныя дзеці, но ўсё ж клас слабы (Валокі, Хойн.).

ПА'НІЎКА *ж.* палонка. Паласкала плацце ў пáніўцы (Быч, Карм.). *Параўн.* пéлька.

ПАНІ'ЦІЦЦА *зак.* пабуяць. Бульба ў цяні паніцілась (Забалацце, Раг.).

ПАНІ'Ч *м., бат., тое, што* панéнка II. Паніч уецца па тычках ці нацягнутых нітках (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); Абвілі панічы́ хату, не відна нічога (Дубраўка, Добр.+ +Аравічы, Хойн.).

ПА'НКА *ж., бат.* корань *(аеру)*. Пáнка вельмі добра пахня (Неглюбка, Ветк.).

ПАНКА'ЦЬ *незак.* калыхаць. Панкáць будзеш, то і спаць будзе. Колькі не панкáю, а ён усё плача (Кабанаўка, Жлоб.).

ПА'ННА *ж.* гатунак ігруш. Пáнна смашная груша (Прудок, Калінк.); Ох і ўродыла цэй год пáннаў багата, аж галле гнецца. Як будзеш нэсты пáнны, усе ў хаду забяруць (Грушаўка, Нар.).

ПАНПУ'ШКА *ж.* клубок *(нітак)*. Мне не хапае трох панпýшак. У лаўку прывезлі вялікія панпýшкі нітак (Асінаўка, Чач.).

ПАНТЫ'КАЛЬ *м.* пантофель. Панты́клі адзень ды і хадзі па хаце, а то ногі памерзнуць (Грабаў, Жытк.).

ПАНЧО'ШКА (пончóшка) *м., бат.* грыб. Колісь селішчэ було, а сёгонні толькі пончóшкі позросталі (Стара-Высокае, Ельск.).

ПА'ПА I *м.* бацька. Садзіцеся і вы, пáпа, з намі абедаць (Кавака, Браг.), Пáпа, калі мы будзем касіць траву? (Краўцоўка, Гом.).

ПА'ПА II *м., дзіцяч.* хлеб. Сярожка, на з'еш пáпу (Вуглы, Нар.). *Параўн.* пáпачка.

ПАПАВЯРНА'ЦЬ *зак.* перавярнуць. Я папавярнáю стаканы і пайшла (Піркі, Браг).

ПАПАДГАРА'ЦЬ *зак.* падгарэць. Пападгарáў хлеб мой сёння (Рудзянец, Рэч.).

ПАПАЛАВІ'ННІК *аг.* п'яніца. Ужо даўно вывеліся ў

нашых краях і алкаголікі і папалаві́ннікі (Грушаўка, Нар.). *Парайн.* п'янчужка.

ПАПАЛАСКА'ЦЦА (пополоска́цца) *зак.* палазіць. У мене сегодні ўночы хтось у градах пополоска́ўся, не одного чорнабріўца не осталось (Грушаўка, Нар.).

ПАПАПЕ'РЫЦЬ *шматкр.* пабіць. Што ні гнаў, што ні гнаў — і ні ўвагнаў карову. Так папапе́рыў, што ўся ў пісягох стала (Пясчанікі, Жытк.).

ПА'ПАРАТНЫ *прым., бат.* папаратнікавы. Па́паратны ліст усё роўна як кветка (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАПАРЭ'ЧТВАЦЬ *незак.* рагатаць. Ты чаго ідзеш і папарэ́чтваеш? (Хобнае, Хойн.).

ПАПАСЫНКАВА'ЦЬ *зак.* пасынкаваць. Урэмя памідоры папасынкава́ць (Сямёнаўка, Рэч.).

ПА'ПАЧКА *м., памянш. да* папа II. Людачка, еш па́пачку з малаком (Хальч, Гом.).

ПАПЕ'РАД *прысл.* спачатку. Папе́рад памый белае, а потым чорнае (Ніўкі, Добр.).

ПАПЁЛАК *м.* выжарына. Добрае проса ўрадзілася на папёлку (Вуглы, Нар.).

ПАПІРА'ХА *ж., тое, што* паляня́ка. Я папіра́хай як трэснуў па сцяне, от напужаўся ён (Узнаж, Рэч.). *Парайн.* паплі́ска, паплю́сак, па́шыбак.

ПАПІХА'ЙЛА *аг., зневаж.* чалавек *(якім кожны папіхае)*. Етакі жаніх, папіха́йло нейкае (Пясчанікі, Жытк.); Як жа ж цяжка жыць з гэтым папіха́йлам (Гарадзец, Раг.).

ПАПЛАЎНЫ' *прым. да* поплаў. Сена *(з поплаву)*. Капы тры паплаўно́га сена назбіраецца (Ст. Буда, Б.-Каш.).

ПАПЛАШЫ'ЦЬ *зак.* пагоршыць. Нам жа ж вайна паплашы́ла (Піркі, Браг.).

ПАПЛІ'СКА (паплі́цка) *ж., тое, што* паляня́ка. Хоць бы паплі́ску ўзяў, а то ідзеш з голымі рукамі (Пясчанікі, Жытк.); Ён як сварыўся, дак паплі́скай біўся (Холмеч, Рэч.); Як даў паплі́цкаю па нагах, аж страшна стала (Махнавічы, Маз.). *Парайн.* папіра́ха, паплю́сак, па́шыбак.

ПАПЛУ'ТАНЫ *прым.* паблытаны. Такія ж ніткі паплу́таныя, анічога не разбярэш (Холмеч, Рэч.+Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.).

ПАПЛУТА'ЦЦА *зак.* паблукаць. Пайду ў лес, паплута́юсь за ягадамі (Грушаўка, Нар.).

ПА´ПЛЮСАК *м., тое, што* паляня́ка. Вырубай некалькі па́плюскаў і пастаў у воз, каб сена не раз'ехалася (Забалацце, Раг.). *Параўн.* папіра́ха, папліска, па́шыбак.

ПАПО´К *м.* ступа. У папо́к сыплюць проса (Дубраўка, Добр.).

ПАПО´НКА *ж.* хустка. Вазьмі з сабой папо́нку (Славань, Светл.).

ПАПО´РАЦЦА *зак.* ухадзіцца. Папо́райся за мяне сёння, бо я паеду ў горад (Запясочнае, Маз.).

ПАПРА´ДКІ (попра́дкі) *толькі мн.* вячоркі. Вулляно, ходзем на попра́дкі (Бярэзнікі, Жытк.).

ПАПРА´НІК *м., кул.* пернік. Даўно я ўжэ не пекла папра́нікаў з мёдам (Маркавічы, Гом.); Хадзем тай папра́нікаў возьмем да хоць наядомсь (Палессе, Чач.).

ПАПРА´ТКА *ж.* вопратка, сукенка. Ой і харошая ж у цябе папра́тка (Неглюбка, Ветк.).

ПАПРЫСКА´ЛА (папрыска́ло) *н., хім.* дэзадаратар. Трэба ў магазіне папрыска́ло купіць (Бялёў, Жытк.).

ПАПРЫ´ШЧЫЦЦА *зак.* пакрыцца *(прышчамі)*. Нешта ліцо папры́шчылося (Пясчанікі, Жытк.).

ПАПУ´РСКАЦЬ (попу́рськаць) *зак.* апырскаць. Му сёння яблыні ўсе попу́рськалі (Бялёў, Жытк.).

ПАПУ´ША *ж.* звязка *(тытунёвых лісцяў)*. Пазычыў папу́шу табакі (Неглюбка, Ветк.); Папу́ш дваццаць на зіму нагатаваў, каб было чаго курыць (Заспа, Рэч.); Вісіць з таго ўрэмя ў мяне некалькі папу́шаў табаку (Піркі, Браг.).

ПАПЯРО´ЎКА *ж.* гатунак яблыкаў. Папяро́ўкі ў нашым садзе вельмі багата (Грушаўка, Нар.).

ПАПЯРО´ЧКА *ж.* града *(папярочная ў канцы загона)*. Папяро́чку дзелаюць там, дзе конь не даходзіць (Марозавічы, Б.-Каш.+Ламавічы, Акц.).

ПАРАВА´Н *м.* шырма. Трэба новы парава́н у хаце павесіць (Хойнае, Хойн.).

ПАРАВІ´ЧНЫ *прым.* параконны (*воз*). У паравíчны воз запрагаюць пару коней (Аравічы, Хойн.).

ПАРАДЗІ´ЛЛЯ (породзі́лля) *ж.* парадзіха. Породзі́лля ўжэ ходзіць на работу (Азяраны, Жытк.). *Параўн.* параду́ха, паро́духа.

ПАРАДУ´ХА *ж., тое, што* парадзі́лля. Параду́ху выпісалі з больніцы на восьмы дзень (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* паро́духа.

ПАРАЖНЁМ *прысл.* паражняком. Назад мы ехалі паражнём (Холмеч, Рэч).

ПА'РАНІНА (па́рыніна) *ж.* папар. Па́раніна зарасла пустазеллем (Вуглы, Нар.). На па́раніне лежаў ешчэ снег (Пагоннае, Хойн.). Па́рыніну кідаюць, штоб поля паддыхнула (Літвінавічы, Чач.). *Параўн.* па́рніна, парыня́.

ПА'РАНКА *ж.* 1. бульба *(вараная ў мундзірах)*. Адвярні, Ева, па́ранку ў карыта ды і стань над ею, каб насмарку не было (Глушкавічы, Маз.). *Параўн.* паро́нікі, паро́нкі *ў 1 знач.;* 2. корм *(запараны)*. Па́ранка астыла, можна несьці карове (Прудок, Калінк.). *Параўн.* паро́нкі *ў 2 знач.*

ПАРАНУ'ЦЬ *зак.* штурхнуць. Маруся, пад бок парану́, гуляць ідзі (Быч, Карм.).

ПА'РАСЛЯ' (порасля́) *ж.* лес *(хваёвы)*. У гэтым годзе вельмі добра растуць грыбы ў параслья́х (Багуцічы, Ельск.); хвойнік *(малады)*. Па́расля большое поле заняла (Неглюбка, Ветк.); На порасль́ю пойду браць грыбцы (Дарашэвічы, Петр.).

ПА'РАСЦЕНЬ *м.* гузак. Пасля ўдару велікі па́расцень вырас (М. Аўцюкі, Калінк.).

ПАРАСЯ'ТНІЦА *ж.* свінаматка. Чыясь парася́тніца водзя дзесіць парасят (Залессе, Чач.). *Параўн.* паро́са.

ПАРАТАВА'ЦЬ *зак.* выратаваць. Ой, дохтар, парату́й майго сынка (Стаўбун, Ветк.).

ПАРАХНО' *н.* парахня. Парахно́ гэта нікуды не гожа ўжо (Бялёў, Жытк.).

ПАРАЧУКІ' *толькі мн.* людзі (*якія жывуць па-над ракой*). Адкуль ён — не знаю, а ето парачукі́ (Аравічы, Хойн.).

ПАРАЯВА'ЦЬ *зак.* пажыць *(раскошна)*. Парае́е яна за ім, калі пойдзе замуж за яго (Крыўск, Б.-Каш.).

ПАРВА'ТЫ *прым.* парваны *(аб адзенні)*. Пайду ў капуснік, дык я надзела парва́тае адзенне (Харомцы, Акц.).

ПА'РГАБНЯ' *ж., тое, што* паграбі́шча. На па́ргабне ляжалі кросны (Копань, Рэч.); Куры на паргабне́ нясуцца (Апанасаўка, Гом.). *Параўн.* паграбні́к, паграбні́шча.

ПАРДО'Н *м.* адпачынак. Мардуеся бес пардо́ну дзень пры дні (Быч, Карм.).

ПАРЖА'К *м., тое, што* падса́чык II. Паржа́к свой новы бацьку падарыў (Хальч, Ветк.). *Параўн.* пужа́к.

ПАРНАТА′ *ж., толькі адз.* парнасць. У такой парнаце́ вой работаю (Палессе, Чач.).

ПА′РНІНА *ж., тое, што* па́раніна. Мы сваё поле пакінулі на па́рніну (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* парыня́.

ПАРНІЧО′К *м.* суп *(малочны)*. Раніцой вельмі добра паесці парнічо́к (Бялёў, Жытк.).

ПАРНУ′ЦЦА *зак.* выцяцца. Вон такі вісокі, дэк колы нэ ідэ, то заўсегда парнэ́цца (Грушаўка, Нар.).

ПАРНУ′ЦЬ *зак.* схавацца, знікнуць. Некуда Вася парну́ў, як мыш у норку. Быў тоненькі лёд, пабеглі дзеці, і адзін парну́ў пад лёд (Любань, Акц.).

ПАРО′Г *м.* 1. брус *(пад дзвярыма)*. Зрабілі нейкі высокі паро́г, дык дзіцяці цяжка пералезці (М. Аўцюкі, Калінк.); 2. бэлька *(над дзвярыма)*. З паро́гаў вада сцякае на двор (Крынкі, Рэч.); 3. месца каля печы *(дзе стаяць вілкі, качарга)*. Пастаў вілкі ў паро́г (Хізы, Ветк.); 4. месца, дзе вада ракі падае. Як пападзешся ў паро́г, дык занясе ў мора (Норкаўшчына, Карм.).

ПАРО′ДУХА *ж., тое, што* парадзі́лля. Паро́духу прывезлі, трэба схадзіць атведаць (Дуброва, Петр.). *Парайн.* параду́ха.

ПАРО′НІКІ *толькі мн., тое, што* па́ранка *ў 1 знач.* Цяпер паро́нікі толькі для вінігрэта вараць (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Парайн.* паро́нкі *ў 1 знач.*

ПАРО′НКА *ж., тое, што* палаві́нкі *ў 1 знач.* Хадзі з намі паро́нку есці (Азяраны, Раг.); На вячэру наварыла паро́нку (Хвойнае, Хойн.). *Парайн.* паро́нкі *ў 2 знач.,* пару́нкі, пасалёнка, пастая́ннікі; 2. *тое, што* па́ранка *ў 2 знач.* Дзеўкі, я прыгатавала паро́нку, а вы свінне выліцце (Дарашэвічы, Петр.).

ПАРО′НКІ *толькі мн.* 1. *тое, што* па́ранка *ў 1 знач.* Паро́нкі ў печы пагараць, а яна ўсё стаіць, не нагаворыцца (Аляксандраўка, Калінк.). *Парайн.* паро́нікі; 2. *тое, што* палаві́нкі *ў 1 знач.* Паро́нкі зварыліся, і я сцерла кашай і затаўкла салам (Новая Дуброва, Акц.). *Парайн.* паро́нка *ў 1 знач.,* пару́нкі, пасалёнка, пастая́ннікі; 3. буракі *(распараныя з цыбуляй)*. Буракі з цыбуляй ставім у дух, у печ і атрымліваюцца паро́нкі (Кароткавічы, Жлоб.); 4. булён. Налі паро́нак у міску (Заходы, Рэч.); 5. бульба *(смажаная)*. Паро̀нкі на скаварадзе стаяць, злазь есці паро́нкі (Неглюбка, Ветк.).

ПАРО′СА *ж., тое, што* парася́тніца. Паро́са цэлы дзень не адходзіла ад сваіх дзетак (Багданавічы, Карм.).

ПАРО'ЯК *м.* рой *(які адыходзіць на чацвёрты дзень)*. А калі адыходзіць пароя́к, то ўжэ пароящца і гібнуць пчолы (Баравікі, Светл.).

ПАРПЛІ'ЦА *ж.* шворан *(жалезны ў жорнах)*. Трэба пастроіць парпліцу ў жорнах, а то саўсім разламалася (Калінічы, Нар.). *Парайн.* паўпліца, паўпры́ца.

ПАРТАВА'Я *прым.* цэнтральная *(дарога)*. Тут блізка няма партаво́й дарогі (Быч, Карм.).

ПАРТА'ЧЫЦЬ *незак.* псаваць. Ні нясі ты ёй шыць, парта́чыць усё (Чырвоны Маяк, Гом.).

ПАРТНЫ' *прым.* ільняны. У партно́й спадніцы летам добра хадзіць, ні жарка (Р.-Барталамееўская, Чач.); Адных партны́х пасцілак у мяне пяць ляжыць (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ПАРУ'БЕЛЬ *ж.* сякера. Ён купіў сабе новую пару́бель (Баравікі, Светл.). *Парайн.* по́рубель.

ПАРУКА'ЦЦА *зак.* прывітацца *(за руку)*. Памый руку, тады ўжо парука́емся (Быч, Карм.).

ПАРУ'НАВАЦЬ *незак.* бегаць. Карначыкі выскачылі і пару́нуюць (Палессе, Чач.).

ПАРУ'НКІ *толькі мн., тое, што* палаві́нкі *ў 1 знач.* Сёння на вячэру пару́нкі з агуркамі салёнымі (В. Слабодка, Петр.). *Парайн.* паро́нка *ў 1 знач.,* паро́нкі *ў 2 знач.,* пасалёнка, пастая́ннікі.

ПАРУ'ЧНІК *м.* сваяк *(маладой на вяселлі)*. Пару́чнік ідзець за маладой і гарэлку нясець. Ён сундук нявесты выкупляе і маладых (Палессе, Чач.).

ПАРХ (парш) *м., мед.* парша. Ну і парх у яго (М. Аўцюкі, Калінк.). У яе быў парш на галаве (Забалацце, Калінк.).

ПАРЦЕ'ЕЦ *м.* партыйны. Мой муж парце́ец ужо пяць гадоў (Антонаўка, Добр.).

ПАРЦІ'НА *ж.* адзенне *(льняное)*. Няхай парці́на ў шкапу ляжыць, ні чапай усяго разам (Гогалеў, Калінк.).

ПАРЦЯ'К *м.* спадніца *(льняная)*. Колісь я была дзеўкай, гэта быў мой любімы парця́к (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* парця́нік, парця́на.

ПАРЦЯ'НА *ж., тое, што* парця́к. Таня насіла шчэ парця́ну ў школе, а цяпер у вузкіх плаццях ходзяць (Нісімкавічы, Чач.). *Парайн.* парця́нік.

ПАРЦЯ'НІК *м., тое, што* парця́к. З палатна шыем парця́нік (Забалацце, Раг.). *Парайн.* парця́на.

ПАРША′ *ж.* хвароба *(пладовых дрэў)*. Паршу́ і дуст не бярэ (Гарывада, Рэч.).

ПАРШУК *м.* прышч. Некі паршу́к сеў у мене на мордзі (Бярэзнікі, Жытк.).

ПАРШЫ′ВЫ *прым., перан.* карослівы, недабраякасны. Зародзілі картоплі ды паршы́вые (Верасніца, Жытк.).

ПАРЫЖО′ВАНЫ *прым.* паралізаваны. Ён ужо даўно парыжо́ваны ляжыць (Дарашэвічы, Петр.).

ПАРЫ′ЛА *ж., бат.* вятроўнік. Пары́ла расце ў лесе, на балоце, цвіце белым цветам (Гармавічы, Жлоб.).

ПАРЫНЯ′ *ж., тое, што* па́раніна. За той хатай у нас парыня́ (В. Нямкі, Ветк.). *Парайн.* па́рніна.

ПАРЫПА′ЦЬ *незак.* ныраць. Русалка да праз мора ўцекла, на дно парыпа́ла, у дзеўкі праўды пытала (Піркі, Браг.). *Парайн.* па́ркаць.

ПАРЫ′СК *м.* 1. паркаль. Пары́ск красны цвяцісты куплялі для сарахванаў і дзецям на плацці (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Парайн.* пярка́ль; 2. хустка *(паркалёвая)*. Абапні пары́ск еты, а то на вуліцы холадна (Зладзін, Маз.).

ПАРЫ′СКАВЫ *прым.* паркалёвы. Дай мне пары́скавы платок (Стралкі, Раг.). *Парайн.* перкалёвы.

ПАРЭ′НДЖА *ж., рыб.* сетка *(рыбацкая)*. Ён тады парэ́нджу ўзяў у суседа ды й пайшоў на возера (Бялёў, Жытк.).

ПАРЭ′НЦЫ *толькі мн.* парэнчы. Парэ́нцы ўжо старыя (Неглюбка, Ветк.).

ПАРЭ′ПАЦЦА *зак.* патрэскацца. У мяне ногі парэ́паліся (Неглюбка, Ветк.).

ПАРЭ′СЦІ *зак.* 1. вырасці. Чатырнаццацера дзетак було і ўсе парэ́слі (Піркі, Браг.); 2. прарасці. Бульба парэ́сла, нада перабраць (Ліцвінавічы, Карм.).

ПАС I *м.* кавалак *(сала)*. Сала разразаюць на пасы́ і соляць (Баравікі, Светл.).

ПАС II *м.* шнур *(у швейнай машыне)*. Спаў пас з машыны і разарваўся на кускі (Хізы, Ветк.).

ПАС III *м.* плыт. Па рэчцы плылі пасы́ (У. Дубня, Лельч.). *Парайн.* плут, пляце́нь I *у 2 знач.*

ПАСА′ГА *ж.* пасаг. Ціпер ужо без паса́гі хлопцы бяруць, самі за дзеўкай бегаюць (Хізы, Ветк.).

ПАСА′Д I *м.* абрад *(вясельны)*. Як каравай дзеляць, тады ета паса́д,— маладой расплятаюць касу, куксу дзелаюць (Ліпнякі, Лоеўск.).

ПАСА′Д II *м.* рад снапоў *(на таку для малацьбы цэ-*

*пам)*. За раніцу пяць паса́даў зьбілі (Дзвіжкі, Ельск.); На таку ляжала тры паса́да саломы (Баравікі, Светл.); На паса́д клалі сто снапоў у два рады, каласы з каласамі, а камялькі з камялькамі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАСА′Д III *м.* будынак *(для абмалочанага збожжа)*. Паса́даў у вёскі было багата (Ларышчава, Добр.).

ПАСАДЗІ′ЦЬ *зак.* 1. насадзіць. Чарвека пасажу́, наплюю на его, а потом вуду закідаю (Холмеч, Рэч); 2. расставіць. Трэба перш снапы пасадзі́ць на жэрдкі (Бабовічы, Гом.).

ПАСА′ДКА *ж.* 1. пасадка. Здалёк відаць гэта паса́дка (Баравікі, Светл.); 2. саджанцы. Сёлета Іван прывозіў паса́дкі, дак пасадзілі на гары (Насовічы, Добр.).

ПАСА′ДНЫ *прым.* авёс *(для кармлення каня ў дарозе)*. Астаўся паса́дны авёс (Неглюбка, Ветк.).

ПАСАДО′ВІЦЬ *зак.* пасадзіць *(курыцу на яйкі)*. Зараз есць маленькія кураняткі, пасадо́віла курачку, яны і вывелісь (Грушаўка, Нар.).

ПАСАЖЫ′РКА *ж.* аўтобус. Пасажы́рка не прыйшла, зноў на дамбу трэба ісці галасаваць (Аравічы, Хойн.); Да Рэчыцы на пасажы́рцы паедзем, а далей поездам (Ямпаль, Рэч).

ПАСАЖЫ′РНЫ *прым.* пасажырскі. Тут усяго два пасажы́рных поезда ідуць (Піркі, Браг.).

ПАСАЛЁНКА *ж., толькі адз., тое, што* палаві́нкі *ў 1 знач.* Сёння будзем варыць пасалёнку (Барталамееўка, Ветк.). *Парайн.* паро́нкі *ў 2 знач.,* пару́нкі.

ПА′САХЛІ *толькі мн.* каноплі *(пустыя)*. Уперад па́сахлі растуць, а патом каноплі (Махнавічы, Маз.). *Парайн.* прадзе́льныя.

ПАСВЕ′Т *м.* лучнік. Даўней буў пасве́т у хаці, той було цёмна, а ціпер у нас елекрычнасць, той відно (Махнавічы, Маз.).

ПА′СВІСКА *ж., тое, што* паго́н. З самага рання мой чоловек погнаў кароў на па́сviску (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* па́ста.

ПАСВЯЦО′НІЦА *ж., бат.* вярба *(белая)*. Пасвяцо́ніца расце на лугах каля рэчкі (Пярэдзелка, Лоеўск.).

ПАСЕ′І *толькі мн.* вотруб'е. Высып пасе́і ў ражку карові (Калінічы, Нар.). *Парайн.* пух II.

ПАСЕ′СТРА *ж.* сястра *(дваюрадная)*. Мы з пасе́страй пойдзем да маёй сяброўкі (Падрачыцкае, Лоеўск.). *Парайн.* пасёстра.

ПАСЕ́ЎНЫ *прым.* насенны. Асобенна храніцца пасе́ўная бульба (Стаўбун, Ветк.).

ПАСЕ́Ч *зак.* пабіць *(градам)*. Такі град быў, усё пасе́к (Баравікі, Светл.).

ПАСЕ́ЧКАЦЬ *зак., тое, што* падбіць. Пайду ў гарод картоплі пасе́чкаю (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* падмяша́ць.

ПАСЁСТРА *ж., тое, што* пасе́стра. А мая пасёстра жыве ў тым баку вёскі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАСІ́ЛЫ *толькі мн.* каромысла. Вёдры я нясла на пасі́лах (Камаровічы, Петр.).

ПА́СКА I *ж.* паласа *(паперы)*. Па́ску адрэзала шырокую, акно трэба заклеіць (Гармавічы, Жлоб.).

ПА́СКА II *ж.* 1. вялікдзень. На па́ску і булкі пяклі, і яйцы красілі (Беразнякі, Петр.); 2. булка *(велікодная)*. Людзі з другіх сёл з'язжаліся у цэркаў паскі свяціць (Бабовічы, Гом.).

ПАСКІПА́ЦЬ *зак.* пашчапаць *(дровы)*. Паскіпаем дровы на дробныя, паткладом смалячок пад ніз і гарыць (Палессе, Чач.).

ПАСКРО́БАК (патшкро́бак, пашкро́бак) *м., тое, што* падскро́бак *у 1 знач.* На паскро́бак трохі асталося цеста (Меркулавічы, Чач.); Патшкро́бак пячэцца скарэй, чым вялікі хлеб (Залессе, Чач.); Мая бабка не пече пашкро́бка (Галоўчыцы, Нар.). *Параўн.* падскрэ́біш, паскро́бка, паскрэ́бак, паскрэ́біш, пашкрэ́бнік, перапе́чачак, перапі́чка.

ПАСКРО́БКА *ж., тое, што* падскро́бак *у 1 знач.* Я заўсёды, як маці хлеб пякла, любіла паскро́бку есці (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* падскрэ́біш, паскро́бак, паскрэ́бак, пашкро́бак, пашкрэ́бнік, перапе́чачак, перапі́чка.

ПАСКРЭ́БАК *м., тое, што* падскро́бак *у 1 знач.* Я ек не робіла закваскі, то паскрэ́бак пекла на бумазі ў печы (Заходы, Лельч.). *Параўн.* падскрэ́біш, паскро́бак, паскро́бка, паскрэ́бушкі, паскрэ́біш, пашкрэ́бнік, перапе́чачак, перапі́чка.

ПАСКРЭ́БІШ *м., тое, што* падскро́бак *у 1 знач.* Маленькі паскрэ́біш палучыўся (Калінічы, Нар.). *Параўн.* падскрэ́біш, паскро́бак, паскро́бка, паскрэ́бак, пашкрэ́бнік, перапе́чачак, перапі́чка.

ПАСЛЕ́Д (после́д) *м.* мякіна. Збожжа штось було дрэнна, многа после́ду асталоса (Дарашэвічы, Петр).

ПАСЛЕ′ДЫШ *м., тое, што* падскробак *у 2 знач.* Ванька ў сям'і самы паслéдыш (Палессе, Чач.).

ПА′СМА (пáсьма) *ж.* колькасць *(30)* нітак у аснове. У пáсме бяруць дзесяць раз па тры ніткі. Перавязваюць пáсмы шнуркамі (Хізы, Ветк.); У пáсме дзесяць чыслінак (Каробкавічы, Жлоб.); Одна пáсьма — гето дзесяць раз по тры ніткі (Грычынавічы, Жлоб.).

ПАСМА′ЧЫЦЬ (посмáчыць) *зак.* заправіць *(страву).* Салом надо боршч посмáчыць (Грушаўка, Нар.); У городзе цыбуля, вы яе посмáчце смятанай і ідзіце (Будкі, Нар.).

ПАСМЕ′ТНІК (посмéтнік) *м.* сметнік. Загрэбі посмéтніка. На посмéтніку куры грабуцца (Грушаўка, Нар.).

ПАСНАТА′ *ж., толькі адз.* посніца, нішчымніца. Ні суп, а паснатá: і скалка ня блісне (Дубраўка, Добр.).

ПАСНЯ′К *м., зборн., кул.* хрушчы. К сяту паснякý трэба напекці (Старая Рудня, Жлоб.).

ПАСО′К *м.* насок *(лапця).* Ой, які ж ты пасóк зрабіў, амаль да паловы ступні (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПА′СТА *ж., тое, што* пагóн. Хіба ета пáста, ад яе коні ногі не пацягнуць (Б.-Крушынаўка, Раг.). *Параўн.* пáсвіска.

ПАСТАВА′ЦЬ *незак.* пасвіць. Цяпер ні старые, ні малые не хочуць паставáць скот (Піркі, Браг.).

ПАСТАВЫ′ *прым. да* пост, песня *(якую спявалі ў пост).* Паставы́я песні пелі мы, калі посціліся (Баравікі, Светл.); Паставы́я песні пеюць пасля масленкі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПА′СТАЛКА *ж.* прыстасаванне *(у калодзе для адкладвання мёду).* Дастань пáсталку, паглядзім мёд (Багданавічы, Карм.).

ПАСТАЛЫ′ (посталы́) *толькі мн.* 1. лапці *(скураныя).* За адзін вечар тата пашыў дзве пары пасталóў (Холмеч, Раг.); 2. лапці *(лыкавыя).* Добрыя пасталы́ дзелалі колісь з лазовага лыка (Чырвоная Буда, Добр.); Богато посталóв за дзень ты наплёў (Будкі, Нар.). *Параўн.* пастýлі, пахлапні́.

ПАСТАНАВІ′ЦЬ I *зак.* выбраць. Думалі, думалі і пастанавíлі за брыгадзіра Івана (Пясчанікі, Жытк.).

ПАСТАНАВІ′ЦЬ II *зак.* пабудаваць. Яны ж яшчэ пазалетась пастанавíлі сабе хату (Пясчанікі, Жытк.).

ПАСТАРО′НКІ *толькі мн.* пастронкі. Ой-ей, конь пастарóнкі парваў, што ета рабіць (Дубраўка, Добр.).

ПАСТА′ЦЬ (поста́ць) *ж.* 1. загон, паласа *(жыта)*. Раней кожны калгаснік сеяў на сваім агародзе поста́ць (Навасёлкі, Петр.).; 2. месца *(жняі, касца на паласе)*. Раз узяла етаю поста́ць, так нечага дарма суяціца (Быч, Карм.). *Парайн.* по́стаць *у 2 знач.*

ПАСТАЯ′ЛКА *ж.* 1. малако *(пракіслае)*. Налі сабе пастая́лкі ў кружку (Слабодка, Ветк.). *Парайн.* пастая́ўка.; 2. смятана. Мама, дай пастая́лкі (Неглюбка, Ветк.).

ПАСТАЯ′ННІКІ *толькі мн., тое, што* палаві́нкі *ў 1 знач.* Хутка садзіся есці, а то пастая́ннікі ўжо астылі (Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* паро́нка *ў 1 знач.,* паро́нкі *ў 2 знач.,* пару́нкі, пасалёнка.

ПАСТАЯ′ЎКА *ж., тое, што* пастая́лка *ў 1 знач.* Дзеўкі, выпіце хоць пастая́ўкі (Быч, Карм.).

ПА′СТВА *ж.* 1. выпас *(кароў)*. Ну й па́ства ж сёння была цяжкая, штоб яе прах (Халочча, Чач.); 2. плата *(пастуху)*. Пастух збірае па́ству, калі адпасе жывёлу (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАСТО′ПАК *м.* атопак. І ад пастала застаецца толькі пасто́пак (Баравікі, Светл.); Занесла пасто́пкі ў хлеў (Р.-Марымонава, Гом.). *Парайн.* пато́пак.

ПАСТРАХА′ЦЦА *незак.* баяцца. Так ужо пастраха́лась кароўку купляць (Піркі, Браг.); Маю Надзю сваталі, дык пастраха́лася ісці, маладая шчэ (Піркі, Браг.).

ПАСТРО′ІЦЬ (постро́іць) *зак.* адрамантаваць. Постро́ю колесо і поедзем у Загурье (Бялёў, Жытк.); Аддай Аркадзю сапагі, а ён табе іх пастро́е (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАСТУ′ЛІ *толькі мн., тое, што* пасталы́. У пасту́лях узімку хадзіла (Піркі, Браг.). *Парайн.* пахлапні́.

ПАСТУХО′ВА СУМКА (пасту́шная сумка) *бат.* стрэлкі. Пасту́шная сумка пад платамі расце на гародах, яна, як сумачкі (Дубраўка, Добр.); А на маём гародзі німа пастухо́вай сумкі (Пучын, Браг.).

ПАСТЫЛЮ′ЖНЫ *прым., зневаж.* надакучлівы, назойлівы. Ідзі ты, пастылю́жны (Неглюбка, Ветк.).

ПАСУ′ДНІК *м.* шафа *(для пасуды)*. Пасу́днік свой я ўжо даўно выкінула (Бабовічы, Гом.).

ПАСУ′НУЦЦА *зак., зневаж.* пайсці *(паволі)*. Ужо пасу́нуўся ён са двара (Навасёлкі, Петр.).

ПА′СУШ *м.* рамка *(без мёду)*. Калі шчэ рамку пчолы не запоўнілі мёдам, то ета і будзе па́суш (Піркі, Браг.).

ПАСУ'Ш *ж.* трава *(няскошаная)*. Сяголета амаль не засталося пасу́шы (Хвойнае, Хойн.).

ПАСХНІ'ЦЬ *зак.* пасохнуць. Уся трава ўжэ пасхніла (Піркі, Браг.).

ПАСЦЕ'ЛЛЮ *прысл.* нерухома. Гадоў дзесяць ляжала пасце́ллю, а вось паднялась (Баравікі, Светл.).

ПАСЦЕ'ЛЬ *ж.* 1. бялізна *(пасцельная)*. У суботу пасце́ль нада змяніць (Багданавічы, Карм.); Сягодні я памыла ўсю пасце́ль (Быч, Карм.); 2. рэчы *(пасцельныя)*. Я люблю мяккую пасце́ль (Косаль, Карм.); 3. насціл. У бабра пасце́ль з мяккай кары (Ліцвінавічы, Карм.).

ПАСЦЕ'ЛЬНІК *м.* 1. *тое, што* падсце́льнік. Пасце́льнік ложыцца на сані на вязы, штоб не правальвацца (Хізы, Ветк.); Сядзіце ціха на пасце́льніку, а то парвеце адзенне (Любань, Акц.); На пасце́льнікі кладуць сена, каб мягчэй было ехаць (Багуцічы, Ельск.); 2. насціл *(пад снапы)*. Нада намасціць пасце́льнік (Гармавічы, Жлоб.); 3. рашотка *(у павозцы)*. Кагда-та пасце́льнік плялі з лазы, а цяпер іх няма (Дубраўка, Добр.); 4. сяннік *(з саломы, сена)*. А пасце́льнікі былі з саломы, з сена ў нас раней (Аравічы, Хойн.).

ПАСЦЕ'ЛЬНІЦА *ж.* жанчына *(якая вязе пасцель маладой)*. Скажы пасце́льніцам, штоб неслі пасцель (Махнавічы, Маз.).

ПАСЦІ' (пасты́) *незак., іран.* сцерагчы. А Воўка вас пасэ́? (Грушаўка, Нар.).

ПАСЦІЛА'ЦЬ *незак.* сушыць *(бялізну на траве)*. Пасціла́ць бяллё на муражку трэба (Чачэрск).

ПАСЦІЛУ'ХА *ж., толькі адз., бат.* спарыш. Пасцілу́ху і кукурузные косы ад почек п'юць (Холмеч, Рэч.).

ПАСЫНО'К *м., бат.* парастак. Калі ты дажджэшся тых пасынка́ў? (Грушаўка, Добр.).

ПАСЫНЧО'ВАЯ *прым.* прыёмная *(дачка)*. Не дай боже такой пасынчо́вое, ек у мене. Зроду слова доброго от ее не чула (Бярэзнікі, Жытк.).

ПА'СЫР *м.* штангенцыркуль *(для вымярэння таўшчыні)*. Ідзі пашукай там па́сыр у струментах (Халочча, Чач.).

ПАСЯ'Г *м.* след *(крывавы ад удара)*. У каровы ўся спіна ў пася́гах (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* пісю́га, піся́г, піся́га.

ПАСЯДРЫ'ЦЬ *зак.* пастарэць. Пасядры́ліся ўжо, а розуму, што напляваў хто (Саўгасная, Б.-Каш.).

ПАСЯРО′ДКУ *прысл.* у круг. Сабрала ўсіх баб пасяро́дку (Быч, Карм.).

ПАСЯЧЫ′СЯ *зак.* папсавацца. Былі платкі новыя, ды вот пасяклі́ся. Ляжалі доўга (Быч, Карм.).

ПАТАЛА′НІЦЬ *зак.* пашанцаваць. Яму і там патала́ніло (Любань, Акц.). *Параўн.* пашэ́ндзіць.

ПАТАЛА′ШКАЦЬ *зак.* скруціць. Я поперу по-старыкоўскі да ў качалкі патала́шкаю і ўсё (Бялёў, Жытк.).

ПАТАЛО′К *м.* 1. *тое, што* палаткі *ў 2 знач.* Мы лазім на патало́к па сена (Крынкі, Рэч.). *Параўн.* пала́ці *ў 1 знач,* пала́ць I; 2. столь. Учора белілі патало́к (Кароткавічы, Жлоб.); 3. частка рамачнага вулля. Здымі з вулля патало́к (Баравікі, Светл.).

ПАТАЛО′ЧНАЕ (патало́шнае) *н., толькі адз., тое, што* падпаталочнае. На патало́шнае збіраецца і радня (Кароткавічы, Жлоб.).

ПАТАПЕ′ЧА (патопе́ча) *ж.* багна. За лесом віднелася патапе́ча (Дарашэвічы, Петр.); Не хадзі ў той бок, там патопе́ча (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* плаў I, прэлішча.

ПАТА′ПЦЫ *толькі мн., кул.* цура. А я пата́пцы люблю больш усяго (Грабава, Жытк.); Пата́пцы я роблю, як пошчу. У пост не ем скоромного (Заходы, Лельч.).

ПАТАРА′НІЦЬ *зак., перан.* панесці. Схвацяць яе, уверцюць і патара́нілі ў машыну (Быч, Карм.).

ПАТАСКУ′ХА *ж., зневаж., тое, што* пабягу́ха. Яна такая патаску́ха, покуль усё сяло ні абойдзе, у печы не падпальвае (Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* падво́руха, паха́тніца, паха́тняя, паха́туха.

ПАТКА′ННЕ *н.* ніткі *(у чаўнаку для ткання).* От добрэ, нідзе патка́нне не цягне (Будкі, Нар.).

ПАТКАРЭ′ТНІК *м., заал.* назва птушкі. Паткарэ́тнік водзіцца пад вываратнямі і нясецца на пяць яечак (Лядцы, Светл.).

ПАТЛЯЯ′ *ж., тое, што* пад'ёмка I. Бяры скавараду патляёю (Глушкавічы, Маз.).

ПАТНІ′К *м.* гунька. Вазьмі там патні́к і накрый каня (Дзям'янкі, Добр.).

ПАТО′ПАК *м., тое, што* пасто́пак. А мы пато́пкі ў печ кідалі (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПАТО′С *м.* пласт *(сена).* Сена трэба лажыць пато́самі (Хізы, Ветк.).

ПА′ТРАПКІ *толькі мн., тое, што* па́кулле. Па́трапкі каравачніку аддаюць (Хізы, Ветк.); Сённі трэба спрасці кудзелю з па́трапак (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* патро́пкі, патрэ́п'е, патрэ́пкі, пачо́скі.

ПАТРАПЯ′НАЯ *прым.* недабраякасная *(пра нітку з атрэп'я)*. Патрапя́ныя ніткі па валовым хвасту (Баравікі, Светл.).

ПАТРА′ЎКА *ж.* 1. зацірка. Можа і сёння наварыла б патра́ўкі, як учора (Красная Ніва, Хойн.); 2. булён *(мясны)*. Ставяць ваду, мяса ўкінуць, муку расціраюць — вось і патра́ўка (Холмеч, Рэч.); Зварыла патра́ўкі з цяляціны (Асінаўка, Светл.); 3. суп *(з мукой і ягадамі або грыбамі)*. Учора ў цешчы патра́ўкаю аб'еўся (Астрагляды, Браг.); 4. халадзец. Занясі патра́ўку ў пограб (Вялікі Бор, Хойн.).

ПАТРО′НА *ж.* патрон. Без патро́ны ружжо страляць не будзе (Хізы, Ветк.).

ПАТРО′ПАЛА *аг., толькі адз., асудж.* чалавек *(неахайны)*. Ну чаго ты ходзіш як патро́пала (Баравікі, Светл.).

ПАТРО′ПАЦЬ *зак., іран., тое, што* памандрава́ць. Яна ўжо патро́пала да аўтобуса (Баравікі, Светл.). *Параўн.* паклёмкаць.

ПАТРО′ПКІ *толькі мн., тое, што* па́кулле. Патро́пкі мы не выкідвалі, бо яны нужныя нам (Піркі, Браг.); Атлятаюшчы лён — гэта і ёсць патро́пкі (Баравікі, Светл.); Патро́пкі пралі чераз две неделі (Пагоннае, Хойн.). *Параўн.* па́трапкі, патрэ́п'е, патрэ́пкі, пачо́скі.

ПАТРУПЕ′ХНУЦЬ *зак.* струхлець. Дзерава ўжо ўсё патрупе́хла (Неглюбка, Ветк.).

ПАТРУ′ХЛЫ *прым.* трухлявы. Патру́хлая радзіска тады, калі доўга сядзіць у зямлі (Дарашэвічы, Петр.).

ПАТРУША′НКА *ж., кул.* зельц. Патруша́нку зробім сягоння (Грабава, Жытк.).

ПА′ТРЫШЫЦЬ *зак., мед.* аперыраваць. Па́трышылі яе ў больніцы (Быч, Карм.).

ПАТРЭ′П'Е *н., тое, што* па́кулле. З патрэ́п'я прадуць дзяругі, мяхі (Забалацце, Раг.). *Параўн.* па́трапкі, патро́пкі, патрэ́пкі, пачо́скі.

ПАТРЭ′ПКІ *толькі мн., тое, што* па́кулле. Пасля апрацоўкі льну застаюцца патрэ́пкі (Дарашэвічы, Петр). *Параўн.* па́трапкі, патро́пкі, патрэ́п'е, пачо́скі.

ПАТРЭ'СВАЦЦА *незак.* падскокваць. А я бег да патрэ́сваўся і ўпаў з кабулкі (Бялёў, Жытк.).

ПАТЫКА'ЦЦА *незак.* 1. дражніцца. Патыка́юцца, сабраўшыся, хіба вучацца? (Пясчанікі, Жытк.); 2. з'яўляцца. З етага часу штоб ты тут не патыка́ўся (Тульгавічы, Хойн.).

ПАТЫКА'ЦЬ I *незак.* 1. *тое, што* пама́ньваць. Не патыка́й сабаку, бо ўкусіць (Асінаўка, Светл.); 2. папракаць. Што ты мне патыка́еш етым (Мормаль, Жлоб.).

ПАТЫКА'ЦЬ II *незак., тое, што* паганя́ць III. Стань усім патыка́ць, без галавы астанісься. Дзіцёнку патыка́ць не нада (Хізы, Ветк.).

ПАТЫ'ЛАК *м.* патыліца. Паты́лак саўсім разбілі (Бабовічы, Гом.).

ПАТЫРЧА'КА *ж.* ражон. Нельга стаць на нагу: на патырча́ку распароў (Салаўёў, Б.-Каш.).

ПАТЭ'ПАЦЬ *зак.* пайсці. Мой малы ўжо патэ́паў (Млынок, Ельск.).

ПАЎВАЛО'КА *ж.* мера зямлі *(0,9 га)*. Скасіла паўвало́ку травы (Гармавічы, Жлоб.); Паўвало́кі зямлі засеялі жытам (Івакі, Добр.).

ПАЎГО'ДДЗЕ *н.* памінкі *(праз паўгода)*. Максім, сёння ж паўго́ддзе па Івану (Неглюбка, Ветк.).

ПАЎДЗЕЛАВЫ' *прым.* лес *(другога гатунку)*. Паўдзелавы́ лес дае багата адходаў (Засінцы, Ельск.). *Параўн.* паўстро́й.

ПАЎДЗЁН *м.* паўдня. Паўдзён — гэта калі дванаццаць часоў дня (Піркі, Браг.).

ПАЎДУШО'ЎКА *ж.* паласа *(засеянага збожжа)*. Паўдушо́ўку пасея і стоміцца (Дубраўка, Добр.).

ПАЎЗАГО'Н *м., толькі адз.* палавіна загона. Шчэ паўзаго́на, і будзя вспахана ўся плошча (Стаўбун, Ветк.).

ПАЎЗУ'Н *м.* 1. вазон. У мяне ёсць паўзу́н, прыдзі вазьмі (Забалацце, Раг.). *Параўн.* паўзункі́; 2. дзіця *(якое не ходзіць)*. А ўнучак мой доўга не хадзіў, думала, паўзу́н (Холмеч, Рэч.).

ПАЎЗУНКІ' *толькі мн., тое, што* паўзу́н *у 1 знач.* Паўзункі́ ёсць простыя і бархатныя (Дубраўка, Добр.).

ПАЎЗУ'ЧНІК *м., бат.* гарлянка. Добрае лякарства паўзу́чнік (Дарашэвічы, Петр.).

ПАЎ'К *м., тое, што* падса́ка. У нас у канаве толькі паўко́м добра рыбы ўзяць можна (Бялёў, Жытк.).

ПАЎКВА′РТА *ж.* мера вадкасці (¼ *літра*). Купіў паўкварты гарэлкі (Багданавічы, Карм.).

ПАЎМІ′СКА *ж., тое, што* палумісак. У нас няма паўміскі (Галоўчыцы, Нар.).

ПАЎНАДЗЕ′ЛА *н., толькі адз.* палавіна надзела. У каго паўнадзела было, дак шчытай, што гатовы старэц, бо есці не будзе чаго (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* паўрэзка.

ПАЎПАВЕ′СМА *ж.* пасма *(лёну 5 жмень)*. Прыйшла ка мне, дак я пазычыла ёй паўпавесму ільну (Баравікі, Светл.).

ПАЎПЛІ′ЦА *ж., тое, што* парпліца. Такая добрая жалезная паўпліца, што камень вельмі лёгка круціцца (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* паўпрыца.

ПАЎПРУ′ГА *ж.* папруга. Сядзьце, бо зараз дам паўпругі (Дзвіжкі, Ельск.).

ПАЎПРЫ′ЦА *ж., тое, што* парпліца. Паўпрыца рэгуліруе камні: зажымае, каб мяльчэй малоць і адпускае, каб буйней (Меркулавічы, Чач.); От, каб ты, выскачыла паўпрыца (Неглюбка, Ветк.); Паўпрыцу рабілі жалезную (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* паўпліца.

ПАЎПУ′РАК *м.* мера сыпкіх цел *(20 кг)*. У мяшку засталося паўпурак жыта (Бярозкі, Браг.).

ПАЎРО′З *м.* матуз, абора. Пашыла хвартух з доўгімі паўрозамі (Харомцы, Акц.); Прышый паўрозы к хвартуху (Бабровічы, Калінк.); Падай мне, унучак, паўроз, трэба лапця падвязаць (Каменка, Маз.). *Парайн.* паўроза, поўраз, поўразка.

ПАЎРО′ЗА *ж., тое, што* паўроз. Найдзі якую-небудзь паўрозу мяшок завязаць (Асінаўка, Светл.). *Парайн.* поўраз, поўразка.

ПАЎРО′ЗЫ *толькі мн.* махры. Не адрывай паўрозы з рушніка (Паганцы, Светл.).

ПАЎРЭ′ЗКА *ж., тое, што* паўнадзела. Засталося пасеяць паўрэзкі. Паўрэзкі мы ўжо прааралі (Забалацце, Раг.).

ПАЎСА′К *м.* світка. Мне пашылі новы паўсак (Аравічы, Хойн.); Надзень свой паўсак (Махнавічы, Маз.).

ПАЎСІ′ШНАЯ *прым.* паўсішная сарочка, жаночая кашуля *(з вышытымі рукавамі)*. Старыя бабы і цяпер носяць паўсішныя сарочкі, а ў нас, маладзейшых, ужо няма іх (Дубраўка, Добр.).

ПАЎСТРО'Й *м., тое, што* паўдзелавы́ *(лес)*. Калі паўстро́й сукаваты, ён ідзе на дровы (Бялёў, Жытк.).

ПАЎСЦЕ'ННЕ *н., толькі адз.* запечча. Паклала я чоботы ў паўсце́нне (Бялёў, Жытк.).

ПАЎТАРА'ЧКА *ж.* 1. дошка *(таўшчынёю ў 2 см)*. Якімі добрымі паўтарачкамі накрыў ты, браце, хлеў (Аравічы, Хойн.); 2. прылада *(для вымярэння плошчы)*. Дзве паўтара́чкі складаюць адзін сажэнь (Баравікі, Светл.); 3. бутэлька *(1,5 л)*. Паўтара́чку алею купіла ўчора (Піркі, Браг.).

ПАЎЦЯГЛА' (паўцягло́) *н., толькі адз.* мера плошчы *(0,5 га)*. У нашай цёткі было паўцягла́ зямлі (Ларышчава, Добр.).

ПАЎЧАЦВЁРТКА *ж.* чвэрць *(надзелу)*. Паўчацвёрткі былі неаднолькавымі для кожнай хаты (Баравікі, Светл.).

ПАЎШУ'РКІ *толькі адз.* мера дроў. Пакралі нашы дровы, пакуль мы прыехалі забіраць, асталося толькі паўшу́ркі (Ларышчава, Добр.). *Параўн.* паўшуро́нак.

ПАЎШУРО'НАК (паўшаро́нак) *м., тое, што* паўшу́ркі. Мы яшчэ толькі паўшуро́нак дроў склалі; Хоць бы які паўшаро́нак дроў завесці (Баравікі, Светл.).

ПАХ *м., тое, што* падпаха́. Пад па́хам несець пінжак, жарка таму што (Піркі, Браг.). *Параўн.* падпа́шша, паха́, па́хва.

ПАХА' *ж., тое, што* падпаха́. Плацце пад пахо́ю цеснае (Асінаўка, Чач.).

ПАХА'ТНІЦА *ж., тое, што* пабягу́ха. Такая паха́тніца ена була, без рубашкі хадзіла, а на другіх гразь ліла (Холмеч, Рэч.); Тае паха́тніцы ніколі дома не застанеш (Будкі, Нар.). *Параўн.* падво́руха, патаску́ха, паха́тняя, паха́туха.

ПАХА'ТНЯЯ *ж., тое, што* пабягуха́. А паха́тняя ўжэ зноў адправілася (Тульгавічы, Хойн.). *Параўн.* падво́руха, патаску́ха, паха́тніца, паха́туха.

ПАХАТРАВА'ЦЬ *зак.* патынкаваць. Возьмуць пахатру́юць і глінай залепяць (Быч, Карм.).

ПАХА'ТУХА *ж., тое, што* пабягу́ха. Тая паха́туха покуль усё сяло ні аббяжыць, у печы не падпальвае (Прудок, Калінк.). *Параўн.* падво́руха, патаску́ха, паха́тніца, паха́тняя.

ПА'ХВА *ж., тое, што* падпаха́. Под па́хвою села некая магула (Тураў, Жытк.). *Параўн.* падпа́ша, пах, паха́.

ПАХВА′ТНЫ *прым., тое, што* падхва́тны I. Ета ж кружка такая пахва́тная для мяне, я яе табе ні атдам (Леніна, Хойн.).

ПАХВАЦІ′ЦЬ *зак.* зразумець. То яны не пахваці́лі, што дзед гаварыў (Піркі, Браг.).

ПАХІ′СЦІЦЬ *зак.* украсці. Як у мяне ё, я ніколі не пахі́шчу (Палессе, Чач.).

ПАХЛАПНІ′ *толькі мн., тое, што* пасталы́ *ў 2 знач.* Шчэ сама насіла пахлапні́, на капыл плеценыя. То мой бацька плёў шчэ пахлапні́ (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* пасту́лі.

ПАХМА′РВАЦЬ *незак.* хмарыць. Пахма́руе, можа будзе дожж, а то печэ крэпка (Баравікі, Светл.).

ПАХМЕ′ЛКІ *толькі мн.* частаванне *(пасля хрэсьбін).* Ну, трэба ж яшчэ ўсіх пазваць на пахме́лкі (Халочча, Чач.).

ПАХНЮ′ЧЫ *прым.* смярдзючы. Удод — пахню́чая птушка (Ліцвінавічы, Карм.).

ПАХО′ДЗІЦЬ *незак., безасаб.* здаецца. Пахо́дзіць, Максім учарась буў у нас, не памятаю добра (Буйнавічы, Лельч.).

ПАХРУ′ПАЦЬ *зак.* пахрумстаць. На, пахру́пай скарынку (Крыўск, Б.-Каш.).

ПАХУДА′ЦЬ (поху́длаць) *зак.* пахудзець. Пахуда́ў за нядзелю, як былінка стаў (Холмеч, Рэч.); Гэта яна поху́дла, раней поўненька была (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* перапа́сціся.

ПАХУЛІ′ЦЬ *зак.* даручыць. Пахулі́ў мне бацька сад сцерагчы (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ПАХУТРАВА′ЦЬ *зак.* забіць. Глядзі, як ён пахутрава́ў вокны (Піркі, Браг.).

ПАХУ′ЧКА *ж., бат.* мацердушка. Молодые дзеўкі колісь паху́чку клалі за пазуху (Падворак, Лельч.).

ПАХУ′ЧЫКІ *толькі мн.* кветкі *(з прыемным пахам).* На розных травах цвяткі па-рознаму пахнуць. Іх у нас і называюць паху́чыкамі (Хізы, Ветк.).

ПАЦ *м.* пацук. От па́цоў раней не було спокою (Дзяржынск, Лельч.).

ПАЦЕЛЮ′ПАЦЬ (пацялю́паць) *зак.* папаласкаць. Пацелю́пай іх трохі дай выкручвай (Займішча, Добр.); Пацялю́пай рушнікі ў пельцы (Харошаўка, Добр.).

ПАЦЕРАБІ′ЦЬ *зак., перан.* паесці. Пацерабі́ў усе канфеты (Шылавічы, Б.-Каш.).

ПАЦЁГНУЦЬ *зак.* пацягнуць. Куды пацёг лісапету? (Камаровічы, Петр.).

ПАЦІРА́НКА *ж.* рэч *(згубленая)*. Найдзя паціра́нку і абізацяльна аддасць (Быч, Карм.).

ПАЦІРА́ХА *ж.* 1. ануча *(для мыцця падлогі)*. Выкінь паціра́ху ў сенцы (Гноеў, Хойн.); 2. *тое, што* палаценца *ў 1 знач.* Падай мне чыстую паціра́ху (Славань, Светл.). *Параўн.* паціра́ч.

ПАЦІРА́Ч *м., тое, што* палаце́нца *ў 1 знач.* Паціра́ч вісіць вон у вуглу, а ён некаю анучаю выціраецца (Гогалеў, Калінк.). *Параўн.* паціра́ха *ў 2 знач.*

ПА́ЦІТО́К *м.* падсітак. А ты бяры паціто́к ды прасей муку (Глушкавічы, Лельч.); Схадзі да Марылі і прынясі па́ціток муку прасеяць (Лучыцы, Петр.). *Параўн.* по́дсевачак, по́ціток.

ПАЦО́ПАНЫ *прым., іран.* дурнаваты. А ён пацо́паны і не разбіраецца, што я на яго глядзець ненавіжу (Хвойнае, Хойн.); У Марылі расце хлопчык пацо́паны (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* прыхло́пнуты, прышало́пкаваты.

ПАЦУБЕ́НЬКАЦЬ *зак., тое, што* пабалбата́ць. Пасядзі яшчэ, пацубе́нькаем трохі (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* пагаманíць *у 1 знач.,* падуду́каць, пакугíкаць.

ПАЦУЧАНЯ́ *н., памянш. да* пацук. Пабач, сколькі тут пацучаня́т, цэлэ семейство (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* пацучо́нак.

ПАЦУЧО́НАК *м., памянш. да* пацук, *тое, што* пацучаня́. Знайшлі гняздо з пацучо́нкамі (Забалацце, Б.-Каш.).

ПАЦУЧЫ́ХА *ж.* самка *(пацука)*. Ты пабач, сабака паймаў пацучы́ху дай дражніцца з ёю, як кот з мышкаю (Аравічы, Хойн.).

ПАЦЦЯ́ЖКА *ж.* церассядзельнік. Без паццяжкі не запражэш каня (Перароў, Жытк.). *Параўн.* перасядзе́льнік.

ПАЦЫКА́ЦЬ *незак., тое, што* патыка́ць *у 1 знач.* Мама, мяне дзеці пацыка́юць, ня можна на вуліцу выйсці (Хвойнае, Хойн.).

ПАЦЫ́РКАЦЬ *зак.* падаіць. Пакуль я пацы́ркала карову, то ўжо выгарэла ў печы (Перароў, Жытк.).

ПАЦЯ́Г *м.* цягнік. Конь у нас быў за пацяг, усюды на ім едзеш (Быч, Карм.).

ПАЦЯГА́НКА *ж.* 1. паўкажушак. Дзед наш калісь пацяга́нку ўсё насіў (Холмеч, Рэч.); 2. аблямоўка *(у ка-*

*жуху)*. Пацяга́нку можна з етага куска здзелаць (Р. Марымонава, Гом.); 3. вопратка *(на падкладцы з аўчыны)*. Мая етая пацяга́нка ўжэ сто гадоў жывець (Вышамір, Рэч.).

ПА́ЦЯ́ПНІК *м.* маладняк *(лес, кусты)*. Па́цяпнік — гэта кусты і тоненькія дрэўцы (Засінцы, Ельск.); Паця́пнік у нас мелкі лес (Піркі, Браг.).

ПАЧА́ВЕЦЬ *зак.* раздавіць. Не лажы банку, бо пача́віш грыбы (Грушаўка, Нар.).

ПАЧАРЭ́ЖНЯ *ж., толькі адз.* чарга *(гнаць кароў)*. Жануць у нас па пачарэ́жні кароў (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* пу́та.

ПА́ЧАСНЫ *прым.* пачаскавы. У цібе ёсць па́часныя ніткі? (Стаўбун, Ветк.).

ПА́ЧКА *ж.* запалкі. Не забудзь па́чак узяць (Слабада, Ветк.).

ПАЧКА́ *ж., анат.* нырка. Гэты хлопчык пачка́мі сільна балеў (Піркі, Браг.).

ПАЧО́ПКА *ж.* восілка. Толькі стала ваду набіраць, а пачо́пка — рас да і адарвалася (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); Возьме кашэль за пачо́пку, і на плечы (Піркі, Браг.);/почапка *(на калысцы)*. Калыска вісючая, дак да яе прывязывалі вяроўку і называлі пачо́пка (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* по́чап, по́чапень.

ПАЧО́СКІ *толькі мн., тое, што* па́кулле. А пачо́скі ідуць у хату замест моху (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* па́трапкі, патро́пкі, патрэ́п'е, патрэ́пкі.

ПАЧТА́РКА (пошта́рка) *ж.* паштальён *(жанчына)*. Наша пачта́рка на пасёлку жыве (Дубраўка, Добр.); І чого ж ето пошта́рка два дні газет не подае? (Пухавічы, Жытк.).

ПАЧЫКІЛЬГА́ЦЬ *зак.* пакульгаць. Ён павярнуўся і пачыкільга́ў сабе (Пагоннае, Хойн.).

ПАЧЫКІ́РЫЦЬ *зак.* паесці. Гусі ўжо пачыкі́рылі ўсю бульбу (Шылавічы, Б.-Каш.).

ПАЧЫ́НА І *ж.* вясло. Дзе наша пачы́на? Хачу паехаць на лодцы пакатацца (Хізы, Ветк.).

ПАЧЫ́НА ІІ *ж.* вязка *(лазы)*. Насек на лугу трыццаць пачы́наў лазы (Ларышчава, Добр.).

ПАЧЫ́НАК І *м.* пачатак. Пачы́нак кіна ў дзесяць часоў (Баравікі, Светл.).

ПАЧЫ́НАК ІІ (почы́нок) *м., тэкст.* верацяно *(з пражай)*. За вечор цэлы почы́нок напрала (Грычынавічы,

Жытк.); На гэтым пачы́нку пража яшчэ не высахла (Багуцічы, Ельск.); Етых трох почы́нкоў на ўсе кросна хваціць (Тонеж, Лельч.). *Параўн.* пачы́нка.

ПАЧЫНІ'ЦЬ *зак.* выпатрашыць *(рыбу)*. Потым рыбу пачыніць трэба (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* пластáць.

ПАЧЫ'НКА *ж., тое, што* пачы́нак II. У пачы́нцы гэтай ніткі чорныя булі (Піркі, Браг.).

ПАЧЭ'КАЦЬ (почэ́кацъ) *зак.* пачакаць. Почэ́кай тут мяне, я зараз прыду (Лобча, Петр.).

ПАЧЭ'ПЛІЦЬ *зак.* прапасці. Усе яблыкі пачэ́плі тады (Бялёў, Жытк.).

ПАШКРЭ'БНІК *м., тое, што* падскрóбак *у 1 знач.* «На, унучак, з'еш пашкрэ́бнік» (Майскае, Жлоб.). *Параўн.* паскрóбка, паскрэ́бак, паскрэ́біш, перапе́чачак, перапі́чка.

ПАШТАВІ'К *м.* начальнік *(пошты)*. Паштаві́к казаў, што заўтра ні будзе на рабоці: паедзе ў горад (Азяраны, Раг.).

ПАШТА'Р (паштáрь, поштáр) *м.* паштальён. Паштáр пісьмы разносіць (Дубраўка, Добр.); Паштáрь у нас Вера (Неглюбка, Ветк.); Поштáр толькі раз прыносіць пошту, пасля обеду (Бялёў, Жытк.).

ПАШУМЕ'ЦЬ *зак., тое, што* паве́трыць. Куды ты ўжо пашуме́ла? (Хальч, Гом.).

ПА'ШЧЫКІ *толькі мн.* сківіцы. Прутком сунула ў зуб, затронула нерв і соскочылі пáшчыкі (Грушаўка, Нар.).

ПАШЧЫ'НА *ж.* рошчына. Пашчы́на тая ж самая закваска. Яна ўсё врэмя ляжыць у дзежцы (Хізы, Ветк.).

ПА'ШЫБАК *м., тое, што* паляня́ка. Мы б'ёмся камянямі, а яны ўсё пáшыбкамі, пáшыбкамі куляюць (Аляксандраўка, Калінк.). *Параўн.* папірáха, пáпліска, пáплюсак.

ПАШЫБА'ЦЬ *незак.* быць падобным. Аркадзь на бацьку пашыбáе (Заходы, Рэч.).

ПАШЫВА'ННЕ *н.* вышыўка. Яна прынесла на працу пашывáнне (Неглюбка, Ветк.).

ПАШЭ'НДЗІЦЬ (пошэ́ндзіць) *зак., тое, што* паталáніць. А нашай Марыне хоць на гэты раз, але пошэ́ндзіло добрэ здаць экзамены (Макарычы, Петр.).

ПАЯ'ВА *ж.* з'яўленне. Тады шчэй пая́вы не было машын (Палессе, Чач.).

ПАЯДЗІ'НКА *ж.* стрэльба *(аднаствольная)*. Я заўсёды з паядзі́нкай у лес хажу (Аравічы, Хойн.).

ПАЯ'РЫВАЦЬ *незак.* даіць. Трэба пайсці ўжо паярываць карову (Піркі, Браг.).

ПЕ'ЙСЫ *толькі мн., зневаж.* 1. *тое, што* паклы. Бач, распусціла свае пейсы (Паганцы, Светл.); 2. бакі. Хаця б пейсы пабрыў, а то сором так (Махнавічы, Маз.).

ПЕ'КАЛНЫ *прым.* да пекальніца. Да я табе січас пакажу пекалную дзежку (Маркавічы, Гом.).

ПЕ'КАЛЬНІЦА *ж.* дзежка *(для цеста).* Замесі ў пекальніцы цеста (Капань, Рэч.); Астатак цеста сашкрабалі і кідалі ў пекальніцы, каб рашчыніць хлеб у другі раз (Любань, Б.-Каш.).

ПЕКАНУ'ЦЬ (піканўць) *зак.* ударыць, выцяць. Захарышын зяць хацеў яе піканўць лапаткай (Быч, Карм.). *Параўн.* пілягнуць.

ПЕКЛАВА'ЦЦА *незак.* гараваць, бедаваць. Раней мы не жылі, а пеклаваліся (Быч, Карм.).

ПЕ'КУН *м., заал.* кулік. Пекун жыве на балоці, нясе толькі дзве яйцы (Мілевічы, Жытк.). *Параўн.* пекур.

ПЕ'КУР *м., заал., тое, што* пекун. Пекур вядзецца на балоце (Лядцы, Светл.); У балоці пекуроў цьма-цьмушча (Ліпляны, Лельч.).

ПЕКЯРЫ'ЦА (пекерыца) *ж.* пякотка. Пасля салодкага міне печэ пекерыца (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* печая.

ПЕ'ЛЕНА *ж., тое, што* падол І. Прынясла поўную пелену яблык (Вуглы, Нар.); Што ты ходзіш у спадніцы з парватай пеленой (Багуцічы, Ельск.). *Параўн.* падолак, пеляна *ў 1 знач.*

ПЕЛЬ *м.* 1. лагчына, канава. За школай пель е. Там зімой на каньках катаемся (Бялёў, Жытк.); 2. копанка. Тая пель ужо граззю зарасла, куды ж там купацца (Бялёў, Жытк.).

ПЕ'ЛЬКА *ж., тое, што* паніўка. Дзеці прарубілі на возеры пельку, а цяпер бойся, каб яны не ўляцелі туды (Тульгавічы, Хойн.). *Параўн.* пеля.

ПЕЛЮШО'К *м., кул.* клёцка. Якое ж ты нэмочі з'ела того горачого пелюшка, от бачыш, опарыла рота (Грушаўка, Нар.).

ПЕ'ЛЯ *ж., тое, што* пелька. Адам катаўся на каньках і ўваліўся ў пелю (Вуглы, Нар.).

ПЕЛЯНА' (пелена) *ж.* 1. *тое, што* падол І. Падняла пелену і бежыць, нібы чэрці ее носяць (Махнавічы, Маз.). *Параўн.* пелена, падолак; 2. палатно *(якім кума пакры-*

*вала дзіця пры абрадзе)*. Куме падалі пелену́ (Зенькавічы, Карм.).

ПЕЛЯНІ'ЦА *ж., кул.* цеста *(з пшанічнай мукі)*. Што мы захацелі, тое і зрабілі: із мукі пеляні́цу, а із дзеўкі маладзіцу (Ст. Краснае, Рэч.).

ПЕНЬКАМО'ЧЫШЧА *ж.* месца *(дзе мочаць пяньку)*. Пенькамо́чышча бувае кала возеру (Хізы, Ветк.).

ПЕ'НЬКІ *толькі мн.* апенькі. Пе́нькі дужа смачныя салёныя (М. Аўцюкі, Калінк.). Пе́нькі ў лесі на пнях растуць (Піркі, Браг.).

ПЕНЯ'ЦЦА *незак.* крыўдзіцца. Яна ўсё пеня́ецца, што матка не пусціла ў школу хадзіць (Палессе, Чач.).

ПЕ'ПАНКА (пе́пенка) *ж., сад.* пепін. Пасадзіў пе́панку ў канец гарода, да штось не расцець (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); Пе́пенка маленькая яблыка, але ўсю зіму ляжыць добра (Піркі, Браг.). *Параўн.* пуці́нка.

ПЕ'РА *ж.* плаўнік. Па баках у рыбы е пе́ра, а ззаду хвост (Замошша, Лельч.). *Параўн.* пер'е *ў 3 знач.,* пёркі, пёры *ў 2 знач.,* пёрышкі.

ПЕРАБА́РСА'ЦЬ *зак.* зацягнуць *(абору ў вушка лапця)*. Спыніся і перабарса́й аборы (Баравікі, Светл.).

ПЕРАБІВА'ЦЬ *незак.* акучваць. Цяпер перабіва́ю бульбу, а прыдзе ўрэмя — буду разганяць (Стаўбун, Ветк.).

ПЕРАБІРА'НКА *ж.* пакрывала *(саматканае)*. Матруна выткала перабіра́нку ў цветы і заслала яе на ложак (Бялёў, Жытк.).

ПЕРАБО'Р *м., муз.* адтуліна *(у жалейцы)*. Пальцамі бегае па перабо́рах, дуе ў дуду, так і іграе (Піркі, Браг.).

ПЕРАБО'РА *ж.* пояс *(рознакаляровы)*. А плацці шчэ насілі з перабо́рамі (Аравічы, Хойн.).

ПЕРАБРО'ДА *ж.* пералесак. Увечары вернуўся з перабро́ды (Піркі, Браг.). *Параўн.* пралёсак.

ПЕРАБРО'ДЗІЦЬ *незак.* пераходзіць *(уброд)*. Перабро́дзіла я рэчку, усю спадніцу змачыла (Аравічы, Хойн.).

ПЕРАБУ'ЦЬВЕЦЬ *зак.* згнісці. Гэта хата даўно пабудована, у ёй палены ўжэ перабу́цьвелі (Хвойнае, Хойн.).

ПЕРАВА'ЛНЫ *прым.* аблажны *(дождж)*. Калі дож то перастане, то зноў пойдзе, то кажуць, што ён перава́лны (Бабовічы, Гом.).

ПЕРАВАЛО'ЧЫЦЬ (переволо́чыць) *зак.* апрацаваць

*(грады)*. Пераволо́чыць трэба было грады, але ні було часу (Аравічы, Хойн.).

ПЕРАВАРО'Т *м., мед.* заварот *(кішак)*. Павезлі Маню ў больніцу, кажуць перавaро́т кішак (Клясаў, Петр.).

ПЕРАВЕ'ДАЦЦА *зак.* наведацца. Трэ поехаць пераве́дацца к мацеры (Бялёў, Жытк.); Пашла ў Турск да бацькоў пераве́дацца (Гарадзец, Раг.).

ПЕРАВЕ'СЦІ *зак., перан.* скалечыць, загубіць. Учора Іван прыяжжаў і забраў Віцьку, а я не магу супакоіцца, перавядзе́ ён яго, вось пабачыш (Хальч, Гом.).

ПЕРАВІВА'ЦЬ *незак.* перавязваць. Я ніколі бінтом ранку не перавіва́ю (Бялёў, Жытк.).

ПЕРАВО'ДЫХ *м.* перадышка. Як утоміцца, тады і перaво́дых робіць (Піркі, Браг.). *Параўн.* перады́х.

ПЕРАВЯ'ЗІНА *ж.* вянец зруба *(над вокнамі і дзвярыма)*. Ціпер вазьмём перавя́зіну, паставім яе на месца (Бабовічы, Гом.).

ПЕРАВЯ'ЗІЧ *м.* рушнік *(якім перавязваюць дружкоў жаніха)*. У Грышакоў перавя́зічы доўгія булі (Усохская Буда, Добр.).

ПЕРАВЯ'ЗЬМЫ *толькі мн.* апошнія вянкі зруба. Перавя́зьмы мы паклалі ўжо (Бабовічы, Гом.).

ПЕРАВЯСЛО' *н.* перавясла. Тры дні перавясло́ делала (Забалацце, Раг.); Марудна рабіць перавяслы́. *Параўн.* перамясло́.

ПЕРАГАВО'РШЧЫК (перагаво́рчык) *м.* перакладчык. Яны па-нашаму не разумелі, дык перагаво́ршчык гаварыў з імі (Грушаўка, Нар.); Немяц тут адзін быў, перагаво́рчык, па-руські ўмеў гаварыць (Піркі, Браг).

ПЕРАГО'НКА *ж.* медагонка. Пераго́нку трэба новую купіць (Холмеч, Рэч.).

ПЕРАДНЯ' *ж.* вяроўка *(для ўвязкі сена, саломы)*. Вазьмі перадню́ і ўмацуй сена (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* перадо́ўка, перядо́ўка.

ПЕРАДО'ЎКА (перядо́ўка) *ж., тое, што* перадня́. Прывяжы перадо́ўку, а то сена можна растрэсці (Дубраўка, Добр.); Воз уціснулі перядо́ўкай (Неглюбка, Ветк.).

ПЕРАДПЕ'ЧЧА *н.* прыпечак. Марусе, адстаў малако на перадпе́чча, каб не пабегла (Заходы, Лельч.); Пастаў гаршчок на перадпе́чча (Цешкаў, Нар.).

ПЕРАДЫ'Х *м., тое, што* перaво́дых. От зробіў перады́х на хвіліну і подводзіць далей (Бялёў, Жытк.).

ПЕРАЗО'ЛКІ *толькі мн., тое, што* пáзалак. Выкінь за хлеў перазóлкі, Іван (Гноеў, Хойн.). *Парайн.* пáзалкі.

ПЕРАКАЛАЦІ'ЦЬ *зак.* 1. перабудаваць. Хату толькі перакалацíлі, дак няма ніякага ні ўбору, нічога (Быч, Карм.). *Парайн.* пераліцкавáць; 2. перамяшаць. Трушанку вілкамі перакалáчваюць з сенам (Баравікі, Светл.).

ПЕРАКІ'НУЦЦА *зак.* пераўтварыцца. Царэва дочка перакíнулася на воўка і ўцякла (Грушаўка, Нар.).

ПЕРАКРУ'ТКА (парэ́крутка) *ж.* вузел. Закруціцца дзьве ніткі, станеш распраступаць парэ́круткі — парарвецца (Хізы, Ветк.).

ПЕРАКРЫ'Ж *м., толькі адз.* скрыжаванне. Перакры́ж вунь там, за Крупейкамі (Ручаёўка, Лоеўск.).

ПЕРАКРЫЖО'ЎТКА *ж.* перакрыжаванне. А жанка перакрыжóўтку здзелае ёлачкай і пайшла сабе (Кароткавічы, Жлоб.).

ПЕРАЛЕ'ТАВАЦЬ *зак.* пражыць лета. Паралéтаваў у сына, а на зіму дадому (Стараград, Раг.).

ПЕРАЛЕ'ТНІК *м., бат.* гарычка. У нас е толькі пералéтнік жоўты (Бялёў, Жытк.).

ПЕРАЛІ'НКА *ж.* вышыўка, узор. Старыя, старыя людзі насілі казак з пералíнкай (Любань, Акц.). *Парайн.* прычэ́лле ІІ, пярэ́тачка.

ПЕРАЛІЦКАВА'ЦЬ *зак., тое, што* перакалацíць *у 1 знач.* Пераліцкавáлі мы сёлета нашы сенічкі (Ворнаўка, Карм.).

ПЕРАЛО'ГА *аг.* нягоднік. У каго ён, паралóга, урадзіўся! (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* пералóжны *ў 2 знач.*

ПЕРАЛО'ГІ *толькі мн., мед.* эпілепсія. Ды як возьмуць яго пералóгі, і бяжыць па селішчу (Бялёў, Жытк.); Каб цябе пералóгі ўзялі! (Перароў, Жытк.).

ПЕРАЛО'ЖНЫ *прым.* 1. прыпадачны. У гэтай маладзіцы сын пералóжны (Бялёў, Жытк.); 2. *тое, што* пералóга. А ён, пералóжны, не прыйшоў (Перароў, Жытк.).

ПЕРАЛО'МА (перялóма) *ж.* пустата. На першым гумне салома, на другім — перялóма (Касцюкоўка, Гом.).

ПЕРАМАЛАДЗЕ'ЦЬ *зак.* памаладзець. Я ў гэтай кохтачке як перамаладзéла (Улукаўе, Гом.).

ПЕРАМЕ'Л (перемéл) *м.* мель. У нашай рэчцы е і перамéлы, купацца там не страшна, мелка (Піркі, Браг.); На перемéлах багато малькоў плавае (Дзяржынск, Лельч.).

ПЕРАМЕ'Я *ж.* брод. На перамéю ступай (Вуглы, Нар.).

ПЕРАМО'Т (перямóт, парамóт) *м.* памылка *(пры снаванні кроснаў)*. Не давяла да края — вось і перамóт, глядзець трэба (Кірава, Жлоб.); Не рабі больше перямóт (Неглюбка, Ветк.); Парамóт накладзець — адразае тады, каб не была лішняя (Хізы, Ветк.). *Параўн.* перамóта.

ПЕРАМО'ТА *ж., тое, што* перамóт. Вот здзелала перамóту, як яе цяпер развесці (Каравацічы, Рэч.).

ПЕРАМО'ЎЧКА *ж.* момант *(калі гончы сабака не падае голасу ў пагоні за зверам)*. Перамóўчка можа быць да тых пор, пакуль сабака не насцігне звера (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПЕРАМЯСЛО' *н., тое, што* перавяслó. Перамяслó круціш і кладзеш, кладзеш жменькамі, а потом звязваеш (М. Аўцюкі, Калінк.).

ПЕ'РАН (пéрун) *м.* пярун. Як дасць пéран у землю, дык аж страшна (Баравікі, Светл.); У гэтым годзе пéрун моцна стукнуў у кармакухню, абсмаліў яе, але не загарэлась (Заспа, Рэч.).

ПЕРАНЯ'НЬЧЫЦЬ *зак.* патрымаць *(у руках)*. Ты знаяш, колькі мы вёдзяр пераня́ньчылі (Быч, Карм.).

ПЕРАПА'СЦІСЯ *зак., тое, што* пахудлáць. Толькі нядзелю не буў дома, а як перапáўся (Тульгавічы, Хойн.).

ПЕРАПЕЛЯ'СЫ *прым.* рабы. Калі такое от рабое, цьмянае, дак кажуць на яго перапеля́сы (Ручаёўка, Лоеўск.).

ПЕРАПЕ'ЧАЧАК *м., тое, што* падскрóбак *у 1 знач.* Які вялікі астаўся перапéчачак (Піркі, Браг.). *Параўн.* падскрэ́біш, паскрóбак, паскрóбка, паскрэ́бак, паскрэ́біш, пашкрэ́бнік, перапíчка.

ПЕРАПІНА'ЦЬ (перэпінáць) *незак.* затрымліваць. Ужэ маладых перэпінáюць, пайшлі быстрэй, паглядзім (Грушаўка, Нар.).

ПЕРАПІ'ЧКА *ж., тое, што* падскрóбак *у 1 знач.* Астанецца цеста, куды яго дзяваць, возьміш і спячэш перапíчку (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* падскрэ́біш, паскрóбак, паскрóбка, паскрэ́бак, паскрэ́біш, пашкрэ́бнік, перапéчачак.

ПЕРАПЛА'ЎНАЯ : перапла́ўная серада *рэл.* серада *(велікоднага тыдня)*. Дзеці да перапла́ўнай серады не купаліся, бо бог пераплываў чераз ваду (Дубраўка, Добр.).

ПЕРАПЛЁТ I *м.* 1. рама *(аконная)*. Пераплёт і оконіцу мы покрасілі ў одзін цвет (Багуцічы, Ельск.); 2. край *(бёрда прадаўгаваты)*. Напрадзеш пражы на пераплёт (Стаўбун, Ветк.); 3. плецены передок *(у санях)*. На нашым вазку пераплёт буў высокі, са свежай лазы (Гарадзец, Раг.); Пераплёт добры ў Івана е (Баравікі, Светл.); 4. аснова лапця *(папярочная)*. Пераплёт я й сама ўмела рабіць (Баравікі, Светл.).

ПЕРАПЛЁТ II *м.* здарэнне *(непрыемнае)*. Ну і пабыла ж я ў пераплёце сёння (Саўгасная, Б.-Каш.).

ПЕРАПО'НКА *ж.* перапона *(у вуллі)*. Што б не абсоўваўся мёд, устаўляюць перапóнкі (Заходы, Лельч.).

ПЕРАПРА'ЦЬ *зак.* перамыць. Я ўсю бялізну перамула, перапрáла чысто (Аравічы, Хойн.).

ПЕРАПЯЛІ'ЦА (перапеліца) *ж.* перапёлка. Перапяліца по дванаццаць яяк нясе (Аравічы, Хойн.); Сеяла на полі я і бачыла перапеліцу (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* пóдпадка.

ПЕРАРО'СТАК *м.* дрэва *(старое)*. Вось гэты перарóстак даўно пара ўжо спіліць (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* перастáрак, перастóй.

ПЕРАРУ'БНЫ: перарýбная сцяна, сцяна *(што падзяляе хату на дзве палавіны)*. К вечару мы ўжо скончылі перарýбную сцяну (Амельна, Раг.); З хаты выкінулі перарýбную сцяну (Засінцы, Ельск.).

ПЕРАСА'ДНЫ *прым., зневаж.* абжорлівы. А еты перасáдны, яшчэ не набраўся (Тульгавічы, Хойн.).

ПЕРАСМЕ'ШКА *ж., заал.* перасмешнік. Перасмéшка прылетае як бероза зеленее (Ліпляны, Лельч.).

ПЕРАСМІХА'ЦЬ *незак., тое, што* патыкáць *у 1 знач.* Так ужо перасміхáлі да вытваралі сабраўшыса, бокі можна падарваць (Пясчанікі, Жытк.). *Парайн.* пацыкáць.

ПЕРАСО'Ў *м.* вешалка. Повесь на перасóў кохту, хай вона просохне (Тураў, Жытк.).

ПЕРАСТА'РАК *м., тое, што* перарóстак. На самым узгорку стаяў дуб-перастáрак (Багданавічы, Карм.). *Парайн.* перастóй.

ПЕРАСТО'Й *м., тое, што* перастáрак. Такі перастóй толькі на дровы і браць (Хізы, Ветк.). *Парайн.* перастáрак.

ПЕРАСТУПІ'ЦЬ *зак.* схадзіць. Перaступí да Марусі за мукой (Чырвоная Буда, Добр.).

ПЕРАСЫ'ПАЦЬ *зак.* адрамантаваць *(капітальна)*.

Прыдзецца хату перасы́паць, бо сусім павалілася (М. Аўцюкі, Калінк.); Перасы́пала хлявок, на мой век і хваціць (Суткоў, Лоеўск.); Дзядзько, мо трэба ўжэ забор перасы́паць? (Бялёў, Жытк.).

ПЕРАСЫ́ПКА *ж.* рамонт *(капітальны)*. У гэтым годзе нада нам перасы́пкай заняцца. Хата без перасы́пкі стаяла многа год (Чырвоная Буда, Добр.). *Параўн.* ператру́ска.

ПЕРАСЯДЗЕ́ЛЬНІК *м., тое, што* пацця́жка. Падцягні перасядзе́льнік (Хвойнае, Хойн.).

ПЕРАТРАІ́ЦЬ *зак.* пабаранаваць *(трэці раз)*. А мы ўжо на сваім полі даўноператраі́лі (Багданавічы, Карм.).

ПЕРАТРУ́СКА *ж., тое, што* перасы́пка. Калі дзерава згніе, то робяць перату́ску хаты (Хізы, Ветк.).

ПЕРАХЛЯ́БІСТЫ *прым.* худы. Вельмі перахля́бістага каня далі. Ці ж на ім даедзеш? (Прудок, Калінк.); Жонка ў яго перахля́бістая, сухотная (Узнаж, Рэч.).

ПЕРАХО́ДКА *ж., тое, што* пераме́я. Праз раку можна перайсці па перахо́дцы (Насовічы, Добр.); /кладка. Каб не ета перахо́дка, не перашла б на той бераг (Дубраўка, Добр.).

ПЕРАЦІ́НЫ *толькі мн.* памінкі. Пераціны ў нас дзелаюць праз тры дні (Хізы, Ветк.).

ПЕРАЦЯГНУ́ЦЬ *зак.* 1. перавезці. Хочуць за раз перацягну́ць усё сена (Быч, Карм.); 2. *перан.* стукнуць. Я табе як перацягну́, ты аж закруцішся (Паганцы, Светл.).

ПЕРВАРО́ДКА *ж.* кабыла *(першым жэрабем)*. Ету перваро́дку не трогайце, бо яна толькі сёдні ажарабілася (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* первача́тка, першажаро́бка, пярва́чка, пярша́тка.

ПЕРВАЦЁЛКА (первоцёлка) *ж.* карова *(першага ацёлу)*. Наша первацёлка дае па восем літраў (Дзям'янкі, Добр.); У нас дзве каровы: одна первоцёлка, другая ўжо старая (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* первача́тка, пярва́чка, пярво́сцінка, пярву́стка, пярву́сцінка, пярву́ха, пярву́шка, пярву́шчанка.

ПЕРВАЧА́ТКА *ж., тое, што* перваро́дка. Наша кабыла яшчэ первача́тка (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* першажаро́бка, пярва́чка;/*тое, што* первацёлка. Первача́тка мая чагось малака не дала (Вуглы, Браг.). *Параўн.* пярва́чка, пярво́сцінка, пярву́стка, пярву́сцінка, пярву́ха, пярву́шка, пярву́шчанка.

ПЕРВАШЫ́Б *м.* фіранкі, ручнікі нявесты *(якія вешаюць у хаце жаніха)*. Свахі тады вешаюць первашы́б і пяюць (Хальч, Ветк.).

ПЕ́Р'Е *зборн.* 1. лісце *(часнаку, цыбулі)*. Пе́р'я часнаку не ядуць (Забалацце, Раг.); У маёй цыбулі ўжо павылазілі пе́р'я (Баравікі, Светл.). *Параўн.* пе́рка, пе́ркі, пе́ры, пёры *ў 1 знач.,* пярына; 2. пер'я. Калі пе́р'я ў насыпцы многа, тады падушка добрая (Рудня, Чач.); 3. *тое, што* пе́ра. Пе́р'е для таго, каб плавала рыба (Хізы, Ветк.). *Параўн.* пёркі, пёры *ў 2 знач.,* пёрышкі.

ПЕ́РКА *ж., тое, што* пе́р'е *ў 1 знач.* Пайдзі нашчыпай пе́ркаў цыбулі (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* пе́ркі, пе́ры, пёры *ў 1 знач.,* пяры́на.

ПЕРКАЛЁВЫ *прым., тое, што* пары́скавы. На свята шылі перкалёвыя хвартухі (Харомцы, Акц.).

ПЕРКАЛЁЎКА *ж.* сарочка *(паркалёвая)*. А я сваю перкалёўку положыла і не ношу (Верасніца, Жытк.).

ПЕ́РКІ *толькі мн., тое, што* пер'е *ў 1 знач.* Ідзі нашчыпі пе́рак (Залессе, Чач.). *Параўн.* пе́рка, пе́ры, пёры *ў 1 знач.,* пяры́на.

ПЕ́РЦІ *незак., перан.* падаць, валіць. У нас зімой так прэ́ снег (Дарашэвічы, Петр.).

ПЕРЦЬ *незак.* праць *(бялізну пранікам)*. Пайдзём да ў два пранікі скоранька папя́ром (Барталамееўка, Ветк.).

ПЕ́РЧЫК *м.* край *(стала)*. А той спосіцель упаў на пе́рчык (Аравічы, Хойн.).

ПЕРШАЖАРО́БКА *ж., тое, што* перваро́дка. Першажаро́бка ажарабіла ажно двух лашат (Карчовае, Хойн.). *Параўн.* перва́ча́тка, пярва́чка.

ПЕ́РЫ *толькі мн., тое, што* пе́р'е *ў 1 знач.* Пе́ры часноку нікуды не рвеш (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* пе́рка, пе́ркі, пёры *ў 1 знач.,* пяры́на.

ПЕ́СЕЛЬНІК (пе́сяльнік) *м.* песеннік. Як запяе пе́сельнік песьню якую, дык усе тады падхватываюць, да гарна так (Піркі, Браг.); Ён жа такі пе́сяльнік (Лукі, Жлоб.). Параўн. пяву́н *у 2 знач.*

ПЕ́СЕЛЬНІЦА (пе́сяльніца) *ж.* песенніца. Яна ж добрая пе́сяльніца була (Баравікі, Светл.). *Параўн.* пяву́ння, пяву́ха.

ПЕ́СТА *аг.* пястун. Такая ўжо пе́ста, што і бульбы капаць не хоча (Нова-Мазалоў, Жлоб.).

ПЕ́СТУ́Н *м.* вушак. Забылася на пе́стун, ды як рэзнулася ў яго (Яновы, Ветк.); Песту́н — гэта канцы вуша-

коў, якімі вушак замацоўваецца з ніжнім бервяном (Багданавічы, Карм.).

ПЕ′ТАВАЦЦА *незак.* мучыцца, бедаваць, цяжка працаваць. Мне ўсё жыццё трэба пётаваццa, а ён толькі водку папівае (Шырокі, Б.-Каш.); Пётуюсь увесь свой век, а дабра не бачыла (Амельна, Раг.).

ПЕ′ТАЦЬ *незак.* біць. Сам на агарод пабег і давай пётаць яго (Палессе, Чач.).

ПЕ′ТРАЎКА *ж.* страва *(з курацiны)*. У печы стаіць вельмі смачная пётраўка, ешце (Паселічы, Хойн.).

ПЕ′ТРАХ *м.* страва *(са свіных трыбухоў)*. Маці сёння нагатавала пётраху свінога (Заспа, Рэч.).

ПЕ′ТРЫК *м.* божая кароўка. Вазьмі ў руку пётрыка і патрымай трошкі, потым жа выпусці (Багуцічы, Ельск.).

ПЕ′ТРЫЦЬ *незак.* разумець. Нічога ты не пётрыш (Узнаж, Рэч.); Во пень асінавы, нічога не чуе і ні пётрыць (Ветка, Рэч.).

ПЕТУШО′К (пятушóк) *м., бат.* касач. Петушкі́ етыя ў нас на палях рвуць свінням. Во ўчора я прынесла етых петушкóў пасцілку цэлую (Хізы, Ветк.); На кербіцкай канаве жоўценькія пятушкі́ зацвілі (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.+ Марозавічы, Б.-Каш.; Піркі, Браг.).

ПЕ′ЎНІК (пéўнык) *м., бат., тое, што* петушóк. Як-то пайшлі раз у лес, дык нарвалы шмат пéўнікаў і жоўтых, і сініх, і ўсякіх (Грушаўка, Нар.); Поглядзь, як пéўныкі прыгожа расцвілі. Чысты ковёр (Бялёў, Жытк.).

ПЕХАТО′М *прысл.* пехатой. Нам тогды подводы не далі, му й пойшлі пехотóм (Бялёў, Жытк.).

ПЕ′ХЦЕР *м., зневаж.* гультай. І ў каго ён толькі ўдаўся, такі пéхцер (Маньчыцы, Маз.). *Параўн.* пяхцéр.

ПЕ′ЧАВЫ: пéчавы венік, венік *(якім вымятаюць печ)*. Вазьмі пéчавы венік, вымяці печ (Бабовічы, Гом.).

ПЕ′ЧАНКА *ж.* бульба *(печаная)*. Развялі касцёр, напяклі пéчанкі, паелі і ляглі спаць (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* пячóнік, пячóнка II.

ПЕ′ЧАЯ *ж., тое, што* пекары́ца. Ек узела пéчая, нельга вытрымаць (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* печая́.

ПЕЧАЯ′ (пячая́) *ж., тое, што* пекары́ца. Пячая́ не дае мне жыць, вельмі пячэ (Хутар, Светл.); Не магу нічога есці, так пячая́ пякуць (Дуброва, Петр.). *Параўн.* пéчая.

ПЕЧУ′РЫ′ЦА *ж.* 1. *бат.* шампіньён. Печуры́цы па полю растуць, на сцёрні, як жыта сажнем (Дубраўка,

Добр.). Печу́рыцы растуць па паплавах, па полю, пада дном чорные (Піркі, Браг.). *Параўн.* пячу́рка, пячу́рыца.

ПЁРКА *ж., толькі адз., перан.* наганяй. Як далі пёркі, дак яна ўплач (Баравікі, Светл.).

ПЁРКІ *ж., тое, што* пе́ра. Плоткі, у якіх пёркі красные, называюцца краснапёркамі (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* пе́р'е *ў 3 знач.,* пёры, пёрышкі.

ПЁРЫ *толькі мн.* 1. *тое, што* пе́р'е *ў 1 знач.* Пёраў на карчу многа було (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* пе́рка, пе́ркі, пе́ры, пяры́на; *2 тое, што* пе́ра. У рыбы е пёры (Засінцы, Ельск.). *Параўн.* пе́р'е *ў 3 знач.,* пёркі, пёрышкі.

ПЁРЫШКІ *толькі мн., памянш. да* пёры *ў 2 знач.* Пёрышкі ў іх калючыя (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* пе́ра, пёркі, пёры.

ПІГА'РАК *м.* прыгар *(на бульбе).* Калі варылася бульба, я заўсёды з'ядаў сам піга́ркі (Амелькаўшчына, Хойн.); Паўкідай ты етыя піга́ркі (Пучын, Браг.).

ПІГА'РАЧКА *ж., памянш. да* пігарак. А ета што зверху бульба падгарыць, называецца піга́рачкі (Аравічы, Хойн.).

ПІГО'ЛІК *м.* чыгун. Есці я вару вунь у тым піго́ліку (Заходы, Лельч.).

ПІЗЫ' *толькі мн., кул.* галушкі, клёцкі *(бульбяныя).* Зрабі на сняданак пізы́ (Грушаўка, Нар.).

ПІКЛЯВА'НЫ *прым.* пытляваны. Спячы пікліва́нага хлеба (Цешкаў, Нар.). *Параўн.* пытлява́ны.

ПІЛАВА'ННЕ *н.* лесаматэрыял *(распілаваны).* Нада пілава́нне ў парадак прывесці (Халочча, Чач.+Каротка-вічы, Жлоб.).

ПІЛАВІ'НЫ *толькі мн.* апілкі. Пілаві́ны ня шкода, бяры хоць карзіну (Забалацце, Раг.). *Параўн.* пірса, пы́рса.

ПІЛАРА'МШЧЫК *м.* рабочы *(пiларамы).* Сённі пілара́мшчык не прыдзе, крэпка хворы (М. Аўцюкі, Калінк. +Вуглы, Нар.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Халочча, Чач.).

ПІЛІ'КАЦЬ *незак.* іграць *(на музычным інструменце).* Дзіўны такі хлопчык, усё б яму на скрыпцы пілі́каць (Бялёў, Жытк.+Марозавічы, Б.-Каш.).

ПІЛІ'ЛЬШЧЫК *м., заал.* пільшчык. Пілі́льшчыкам харчуецца сініца (Ліцвінавічы, Карм.).

ПІЛО'ВАШНЫ *прым.* распілаваны *(матэрыял).* На мост прывезлі піло́вашны лес (Засінцы, Ельск.+Каротка-вічы, Жлоб.; Халочча, Чач.; Чырвоная Буда, Добр.).

ПІЛЯГНУ'ЦЬ *зак., тое, што* пекануць. Аўлас, я табе па-харошаму кажу: атыйдзі, а то шчасака як пілягну́! (Быч, Карм.). *Параўн.* пля́снуць, пэ́мкнуць, пэ́рнуць.

ПІЛЯ'ЦЬ *незак.* пілаваць. Пайду на двор піляць дровы (Дубраўка, Добр.).

ПІ'ПАЧКА *ж.* птушка *(якая жыве ў зарасніках).* Дзеці палезлі ў чаромуху і знайшлі там піпачку (Кароткавічы, Жлоб.).

ПІ'ПЕН-ШАФРА'Н *м., сад.* гатунак *(яблык).* Піпен-шафра́н можа ляжаць да вясны (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПІ'ПКА *ж.* люлька. Смешны хлопіц Макараў: усігда ходзя з пустой піпкай, а табакі ў другіх пабіраіцца (Палессе, Чач.).

ПІРАЖО'К *м., бат.* спарыня. Гэта ж пасля вайны піражкі́ гэтыя збіралі ды ў магазін здавалі для лячэння (Багданавічы, Карм.); Калі ёсць піражкі́ — добры ўраджай будзе. З'явілася багата піражкоў (Забалацце, Раг.+ Ліцвінавічы, Чач.).

ПІРО'ЖКІ *толькі мн.* пруткі. Цяпер ўсё большэ піро́жкамі вяжуць (Дарашэвічы, Петр.).

ПІ'РСА *ж., тое, што* пілаві́ны. Пірса с-пад пілы сыплецца (Піркі, Браг.); Трэба падсушыць кашэль пірсы (Багуцічы, Ельск.); У хлеў на пудсціл прывезлі пірсу (Засінцы, Ельск.+Балакоўшчына, Хракавічы, Браг.). *Параўн.* пырса́.

ПІРШЧА'ТКА *ж.* пальчатка. Надзень піршча́ткі, на дварэ рукі адмерзнуць (Асінаўка, Чач.+ Нісімкавічы, Чач.).

ПІ'САНКА *ж.* яйка *(велікоднае).* У сыботу матка дастае чыгунок пісанак, а нам не дае да васкрысення (Бабовічы, Гом.); Калісь рабілі пісанкі ды ў біткі гулялі (Хутар, Светл.).

ПІСКЛЯНЯ' *н.* кураня. Трэба сваіх піскля́т пакарміць (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* пуляня́, пы́лька.

ПІСКУ'Н (піскуж) *м., рыб.* уюн. Он піскуно́ў голымі рукамі ловіць (Каранёўка, Гом.); Еты піску́ж жыве ў гразі (Хізы, Ветк.).

ПІСКУ'ХА *ж., толькі адз.* абрад, вячэра *(перад вадохрышчам).* Перад храшчэннем піску́ха была. Тожа ўсе скаромная ядзяць. Куццю на ету піску́ху вараць (Ліпляны, Лельч.); Усе браты і сёстры збіраліся на піску́ху ўвечары к бацьку да к матцы (Бабовічы, Гом.).

ПІСЮ'ГА *ж., тое, што* пася́г. Ат кнута пісю́гі пааставаліся (Дубраўка, Добр.+Грушаўка, Добр.). *Параўн.* пісяг, пісяга.

ПІСЯ'Г *м., тое, што* пася́г. На спіне ад дубца астаўся чырвоны піся́г (М. Аўцюкі, Калінк.); Сёння ўся карова ў піся́гах (Асінаўка, Светл.+ Гарадзец, Раг.; Тульгавічы, Хойн.). *Параўн.* пісюга, пісяга.

ПІСЯ'ГА *ж.* 1. *тое, што* пася́г. Зрабілі карові дзве піся́гі (Хізы, Ветк.). *Параўн.* пісюга, пісяг. 2. паласа. Чагосьці неба ў адных піся́гах сёння (Астрагляды, Браг.).

ПІТУ'ЛЯ *ж.* лямпа *(каганец)*. Па вечарах доўга пралі кудзелю і пры піту́лі (Крупка, Маз.).

ПІХАЎЁ *н.* дзяржанне *(у вілах)*. На палку такое піхаўё надзяюць на вілкі і стагі кідаюць (Барталамееўка, Ветк.).

ПЛАВО'К *м.* плывец. Ён добры плаво́к: усіх абагнаў (Харошаўка, Добр.). *Параўн.* плыва́к.

ПЛАЙМО'ТА *ж., зборн.* мноства. Плаймо́та гэтая столькі пяску панацягалі ў хату (Хальч., Ветк.).

ПЛАК *м.* плач. Цяпер плак адзін у хаці: дзеці і свае і чужыя (Быч, Карм.+ Іскра, Чач.).

ПЛА'КАЦЬ *незак., перан.* пацець *(пра вокны)*. Вокны пла́чуць у сырую пагоду (Хізы, Ветк.).

ПЛА'КСА I *аг.* дзіця *(плаксівае)*. Ну і пла́кса ж ты, а не дзіця (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПЛА'КСА II *аг.* плакун *(трава)*. Пла́кса і ў нашом лесі росце, але я яе даўно не бачыла (Бялёў, Жытк.+Саўгасная, Б.-Каш.).

ПЛАМЕ'ТА *ж., перан.* неслух, непаседа *(пра дзіця)*. Лазіць пад рукамі пламе́та ета, хоць бу трохі пасядзело (Каменка, Маз.).

ПЛАН *м.* надзел, сядзіба, участак. От уперат у нас буў большы план (Халочча, Чач.); У нас трыццаць сотак пла́ну (Зялёныя Лукі, Гом.); На гэтым пла́не мы пабудуем сабе хату (Багданавічы, Карм.+Бабовічы, Гом.; Дземяхі, Днестрын, Каравацічы, Рэч.; Кароткавічы, Майскае, Жлоб.; Насовічы, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.; Хізы, Ветк.; Чарняўскія Малынічы, Чач.). *Параўн.* плант.

ПЛАНАВА'ЦЬ *незак.* размахваць *(рукамі)*. Які-небудзь стары ідзе по дзярэўні, сам с собою розговарвае і рукамі плану́е (Бялёў, Жытк.).

ПЛАНІ′ДА *ж.* лёс. Такая ўжо іе планíда. Цыганка варажыла мне пра маю планíду (Палессе, Чач.).

ПЛА′НКА *ж.* накладка, нашыўка *(у кашулі)*. Плáнка трэба на баку, што б жа закрывала той разрэз (Хізы, Ветк.); На гэтай плáнцы нашыты ўзоры (Раманавічы, Гом.).

ПЛАНТ *м., тое, што* план. На гэты год зусім малы плант пад бульбу застаўся (Барталамееўка, Ветк.).

ПЛАСКО′ННЕ *н., зборн., бат.* маніцы. Пласкóнне выбяруць, намочуць, патруць, а потым прадаюць (Марозавічы, Б.-Каш.); У другіх людзей пласкóння было больш, чым каноплі (Калінін, Б.-Каш.+Піркі, Браг.). *Параўн.* пласкуны́, пласкуня́, плóскамкі, плóскань, плóскуні, пóскадні.

ПЛАСКУНЫ′ *толькі мн., тое, што* пласконне. Пласкуны́ рвуць, а потым рассцілаюць. А можна яшчэ і мачыць (Калінін, Хойн.). *Параўн.* пласкуня́, плóскамкі, плóскань, плóскуні, пóскадні.

ПЛАСКУНЯ′ *ж., тое, што* пласконне. Пласкуню́ збіраем мы ў аўгусце (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* пласкуны́, плóскамкі, плóскань, плóскуні, пóскадні.

ПЛАСКУ′ХА I *ж., рыб.* плотка. У венцер папала пласкýха (Макарычы, Петр.); Рыгор поўну торбу пласкýхі налавіў (Камаровічы, Петр.); У сетку налезла пласкýх. Ніякая рыба не гуляе сягонні, а толькі пласкýха наверсі (Ломыш, Хойн.+ Сямёнаўка, Раг.).

ПЛАСКУ′ХА II *ж., бат.* проса *(курынае)*. Як расцвіце пласкýха, дак як проса (Бабовічы, Гом.). *Параўн.* пласкýша.

ПЛАСКУ′ША *ж., тое, што* пласкуха II. Пласкýша расце на гародзе. Поўны гарод пласкýшы. Яна трохі на пырай пахожа, а трохі на проса (Дубраўка, Добр.); Як у мачлівы год, дак ад яе ня атбіцца, ат етай пласкýшы (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.+ Аравічы, Хойн.; Грушаўка, Дзям’янкі, Добр.; Неглюбка, Ветк.; Пучын, Браг.; Холмеч, Рэч.).

ПЛАСТА′ЦЬ *незак., тое, што* пачыніць. Рыбу перад вяленнем пластáюць (Дзям’янкі, Добр.).

ПЛАСЦІ′НА *ж.* бервяно *(распілаванае ўздоўж)*. З пласцíны капала смала (Чырвоная Буда, Добр.); С такіх сасон пласцíн пяць на хлеў будзя (Суткоў, Лоеўск.+

+ Майскае, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Хізы, Ветк.).

ПЛА'СЦІЦЬ *незак.* пластаваць. Будзем пла́сціць сена ў пласты (Дзям'янкі, Добр.).

ПЛАТ *м.* хустка. Дай, доча, мой плат накінуць на плечы (Будчына, Жлоб.).

ПЛАТО'К *м.* ручнік. Павязала б, Варка, платкі́ на бога, а то заўтра Мікола (Купейкі, Светл.).

ПЛАТО'ЧАК *м., памянш. да* платок, пялёнка. Загарні дзіця ў сухі плато́чак (Рафалаў, Браг.).

ПЛАЎ I *м., тое, што* патапеча. Не пайду я на той верцеб, яшчэ ў плаў не ўскочыў. Тады і рыба не трэба будзе (Аравічы, Хойн.); Па пла́ву і хадзіць можна, толькі як ідзеш, дак калышацца пад табою (Холмеч, Рэч.+ +Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* прэ́лішча.

ПЛАЎ II *м.* смецце *(плывучае)*. Плаў еты астаецца, калі вада спадае (Хізы, Ветк.+Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* по́плаў II.

ПЛА'ЎВАЦЬ *незак.* плаваць. Ты яшчэ пла́ўваць не навучыўся (Дзвіжкі, Ельск.).

ПЛА'ЎЕ *н.* балота. У пла́ўі чэрці водзяцца (Шкураты, Браг.).

ПЛА'ЦІВЫ *прым.* нямоцны, сеткаваты *(пра драўніну)*. З пла́цівай драўніны, якая зусім нямоцная, нельга што зрабіць (Багданавічы, Карм.).

ПЛА'ЦІНА *ж.* жэрдка *(з плоту)*. Пад заборам ляжаць пла́ціны (Н. Гута, Гом.).

ПЛА'ЦЦЕ (пла́цця, пла́цье) *н., зборн.* бялізна. Хадора цэлы дзень прала пла́цце на рэчцы (Бялёў, Жытк.); Поўнае жлукта назбірала пла́цця і пазаліла (Бабовічы, Гом.); Она старанна дзеўка: усе пла́цця помыла (Бялёў, Жытк.+Азяраны, Раг.; Асінаўка, Чач.; Грабава, Жытк.; Дарашэвічы, Петр.; Забалацце, Раг.; Кароткавічы, Жлоб.; Макарычы, Петр.; Насовічы, Добр.; Нісімкавічы, Чач.; Пясчанікі, Жытк.; Сівенка, Ветк.; Стараград, Карм.; Шылавічы, Б.-Каш.).

ПЛАШЭ'Й *прысл., параўн. ст. да* плоха. Мой сын вучыцца калі плашэ́й, калі лаўчэй (Быч, Карм.).

ПЛЕ'МЯ *н.* 1. сваякі, радня. Наша пле́мя большое (Піркі, Браг.+Броніца, Б.-Каш.; Краўцоўка, Гом.; Хізы, Ветк.); 2. развод *(жывёлы)*. Прасіла саседка мяне: бабачка, не прадавай цёлку, дай на пле́мя. Бычка павяла на здачу, а яго ўзялі на пле́мя (Марозавічы, Б.-Каш.),

ПЛЕ́СНІ *толькі мн.* вяснушкі. Яна дзевачка беленькая, а вясной плёсні выступаюць на скуры (Баравікі, Светл.+Забалацце, Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.).

ПЛЕ́СЦІ *незак.* 1. гаварыць *(абы-што),* хлусіць. Хопіць плёсці языком, трэба дадому дабірацца (Веляцін, Хойн.); Што ты пляцёш? (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* плявузгаць; 2. вязаць. Я сама ўмею плёсці і рукавіцы, і карункі харошыя (Ліпляны, Лельч.); Тэ, кажэ, вяжэ, тэ, кажэ, пляцé (Дарашэвічы, Петр.); От мая матка хараша ўмее кручком плёсці (Багуцічы, Ельск.); Кручком росшэўку плялá (Бялёў, Жытк.+Будкі, Нар.).

ПЛЕ́СЦІСЯ *незак.* злазіць, лупіцца *(пра скуру).* Вы загараеце, і з нас скура пляцёцца (Баравікі, Светл.).

ПЛЕ́ЦЕНЫ *прым.* вязаны. Плёцена з воўны хустка цёплая (Харомцы, Акц.); Мама мне добру плёцену хустку звязала (Бялёў, Жытк.).

ПЛЕЦЬ *ж.* 1. адростак *(на сцябле).* Мае гуркі шчэ не пускалі плёцей (Барталамееўка, Ветк.); 2. канат *(для мацавання бярвенняў у плыце).* Бярвенні перацягвалі дужай плёццю (Кароткавічы, Жлоб.); 3. прыстасаванне для пад'ёму цяжкасцей. Коб вулей подняць, нада на плець добра налегці (Холмеч, Рэч.); Мой бацька вельмі добра лазіць па плёці. Я лажу па плёці (Забалацце, Раг.+Баравікі, Светл.; Кароткавічы, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.; Неглюбка, Ветк.).

ПЛЕ́ЧКІ *толькі мн., памянш. да* плечы. Давай памыю табе плёчкі (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* плёчыкі.

ПЛЕ́ЧЫКІ *толькі мн., тое, што* плечкі. У гэтага чалавека плёчыкі як у дзіцяці (Асінаўка, Чач.).

ПЛЕ́ШКА *ж., перан., тое, што* пакацёл. У нас на верх сланечніка кажуць кружок і плёшка (Баравікі, Светл.).

ПЛЁВАЦЬ *незак.* біцца *(пра сэрца).* Убачу яе ў клубе, так ужо сэрца маё і плёвае (Піркі, Браг.).

ПЛЁВАЧКА *ж., памянш. да* плеўка. Плёвачка кіпячонага малака — самы смак! (Холмеч, Рэч.).

ПЛЁСКА *ж.* сляза. Іван так расплакаўся, што ніяк нельга было стрымаць яго плёскі (Буйнавічы, Лельч.). *Параўн.* пліска *ў 2 знач.*

ПЛЁСКАЦЬ *незак.* гаварыць *(манатонна).* А ён сабе ўсё плёскае і плёскае (Улукаўе, Гом.).

ПЛЁТКА (плéтка) *ж., тое, што* падкóснік *у 1 знач.* Мамо, оторві мне другую плётку, а то я тую загубіла (Бя-

рэзнікі, Жытк); Запляці плёткі ў косы (Махнавічы, Маз.).

ПЛІ'КНУЦЬ *зак.* пстрыкнуць. Ты плікнуў выключальніком і свет патух (Жлобін).

ПЛІКУ'НЧЫК *м., заал.* чырок. Я ўчора плікýнчыкаў нашчолкаў (настраляў). За плікýнчыкамі к старыцы ідзі (Каранёўка, Гом.).

ПЛІ'САЎКА *ж.* куртка *(плюшавая)*. Акрый плісаўку, на дварэ вецер. Плісаўкі добрай ні купіла за такім мужыком (Аляксандраўка, Калінк.).

ПЛІСІ'ЧКА *ж., заал., памянш. да* пліска. Я мала знаю птушак, а вот плісічку ўсігда ўвазнаю — іна болі па дарогах бегая (Палессе, Чач.).

ПЛІ'СКА I *ж.* 1. пырска. Не йдзі по водзе, а то на мене пліскі лецяць (Бярэзнікі, Жытк.); 2. *тое, што* плёска. Ёй не скажы нічога вабіднага, а то хутко пліскі пусціць (Буйнавічы, Маз.).

ПЛІ'СКА II *ж.* стужка. Абшывалі колісь спадніцу пліскамі. Спадніца чорная, а пліскі чырвоныя (Забалацце, Раг.).

ПЛІ'СКАЦЦА *незак.* пырскацца. Не пліскайса на мене холодною водою (Бярэзнікі, Жытк.).

ПЛІСНЯ'К *м., бат.* асака. Пліснáк таксама ў вадзе ў нас расце (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПЛІТА' *ж.* 1. пліта. На пліцé гатавалі есці (Любань, Б.-Каш.+Багданавічы, Карм.; Баравікі, Светл.; Галоўчыцы, Нар.; Забалацце, Раг.; Заспа, Рэч.; Іванаўка, Хойн.; М. Аўцюкі, Калінк.; Навінкі, Калінк.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.; Ст. Краснае, Рэч.; Старая Рудня, Жлоб.; Уваравічы, Б.-Каш.; Хізы, Ветк.; Целяшы, Гом.); 2. капа *(снапоў)*. На полі відны толькі пліты жыта (Майскае, Жлоб.); 3. касцёр *(дроў)*. Пад страхой была складзена плітá дроў (Забалацце, Раг.).

ПЛІ'ТКА *ж.* качан. Дзве пліткі капусты хваціць на боршч (Ляскавічы, Петр.).

ПЛІ'ТНІЦА *ж.* завод *(цагельны)*, цагельня. На плітніцы цэглы многа (Дзям'янкі, Добр.).

ПЛОД *м.* яйка. Бальшыя жукі налятаюць, плады́ пускаюць (Піркі, Браг.).

ПЛО'ЙМА *ж., зборн.* кампанія. От плóйма сабралася, праходу ад яе німа (Барталамееўка, Ветк.);/*тое, што* плаймóта. У яе цэлая плóйма дзяцей. Вывела ўсе яічкі дамаседка, цэлую плóйму (Марозавічы, Б.-Каш.+Бабо-

вічы, Гом.; Баравікі, Светл.; Барталамееўка, Ветк.; Васільеўка, Гом.; В. Нямкі, Ветк.; Зарэчча, Жлоб.; Крыўск, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.; Нова-Мазалоў, Жлоб.; Іскра, Чач.; Шарын, Ельск.; Шылавічы, Б.-Каш.).

ПЛО'СКАМКІ *толькі мн., тое, што* пласко́нне. Пло́скамкі не маюць насення (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* пласкуны́, пласкуня́, пло́скань, пло́скуні, по́скадні.

ПЛО'СКАНЬ *ж. тое, што* пласко́нне. Пло́скані па аднаму сцебліку выбіраюць (Бывалькі, Лоеўск.); Із пло́скані бывае пянька (Насовічы, Добр.+Баравікі, Светл.; Чарнейкі, Рэч.; Чкалава, Гом.). *Параўн.* пласкуны́, пласкуня́, пло́скамкі, пло́скуні, по́скадні.

ПЛО'СКУНІ *толькі мн., тое, што* пласко́нне. Пло́скуні ідуць толькі на прадзіва (Гармавічы, Жлоб.); Два снапы пло́скунь стаялі каля агарожы (Пагоннае, Хойн.); Колькі пло́скунь там було? (Піркі, Браг.+Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* пласкуны́, пласкуня́, пло́скамкі, пло́скань, по́скадні.

ПЛО'ТАЧКА *ж., памянш. да* плотка. Налавіў адных пло́тачак (Старажоўцы, Жытк.).

ПЛО'ТНІЧАННЕ *н.* цяслярства. Без пло́тнічання я ўжо не магу. Займаюсь пло́тнічаннем ужо даўно (Забалацце, Раг.).

ПЛО'ТНІЧЫХА *ж.* жонка *(плотніка)*. Пло́тнічыха была жанчынай вясёлай і добрай (Багданавічы, Карм.).

ПЛО'ШКА *ж.* бакавая частка *(пра ткацкі станок)*. Пло́шку ў станку яшчэ называюць шчакой (Піркі, Браг.).

ПЛУГАВІ'К *м.* араты. Плугаві́к быў вельмі добры твой дзед (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* плугаўшчы́к.

ПЛУГАЎШЧЫ'К *м., тое, што* плугавік. Соткі арэ плугаўшчы́к (Дарашэвічы, Петр.).

ПЛУТ *м., тое, што* пас III. Дзерава нада звязаць у плуты́ (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* пляцéнь I *у 2 знач.*

ПЛУ'ТАЦЦА *незак.* блытацца. Ніткі плу́таюцца ў кроснах (Неглюбка, Ветк.); Іду і ногі самі плу́таюцца (Быч, Карм.); Калі я первы раз села прасць, дак ніткі толькі і плу́таліс (Холмеч, Рэч.+Хізы, Ветк.).

ПЛУ'ТЦА *н.* пятля *(для гузіка)*. Плутца я абматлюю шчас (Быч, Карм.).

ПЛЫВА'К *м., тое, што* плаво́к. Міцька наш добры плыва́к (Дубраўка, Добр.).

ПЛЫ'ГАЦЬ *незак.* скакаць. Ён навучыў ката, што ён плы́гае туды і суды (Грушаўка, Нар.).

ПЛЫ′ГНУЦЬ *зак.* скокнуць. Я іду, а кот як плы́гне с плоту, аж я спужалася (Бялёў, Жытк.).

ПЛЫТАГО′НІЦЬ *незак.* сплаўляць *(лес)*. Як пойдзем плытаго́ніць, дык па месіцу дома не быває (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.).

ПЛЮ′СКА *ж.* семя *(недабраякаснае)*. Як ні выбярэш гарбузы, дак половіна плю́сок (Ст.Высокае, Ельск.). *Парайн.* плю́шчак.

ПЛЮ′СКІ *прым.* недабраякасны *(пра насенне)*. У тым годзе пасеялі такое плю́скае насенне (Піркі, Браг.). *Парайн.* плю́склы.

ПЛЮ′СКЛЫ *прым., тое, што* плю́скі. Гэтае насенне недабраякаснае, яно ўсё плю́склае (Багуцічы, Ельск.).

ПЛЮ′СНІК *м.* 1. кветка. А ты плю́снікі пасадзіла? (Славань, Светл.); 2. плюшнік, аер. У балоце расце плю́снік (Неглюбка, Ветк.). *Парайн.* плю́шнік, плюшня́к.

ПЛЮ′ХНУЦЦА *зак.* упасці. Небарака так плю́хнуўся, што ледзьве ўстаў (Антонаў, Ельск.).

ПЛЮ′ШКА *ж.* мочка *(вуха)*. Я так хочу носыт завушныці, толькі боюс плю́шкі колот (Грушаўка, Нар.).

ПЛЮ′ШНІК *м., тое, што* плю́снік *у 2 знач.* На нізінах плю́шніка многа, яго даюць каровам (Бабовічы, Гом.); Па краёх болото позаростало плю́шнікoм (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* плюшня́к.

ПЛЮШНЯ′К *м., тое, што* плю́снік *у 2 знач.* Плюшня́к расце на далінах, дзе вада (Пярэдзелка, Лоеўск.+Холмеч, Рэч.). *Парайн.* плю́шнік.

ПЛЮ′ШЧАК *м., тое, што* плю́ска. У мяне адны плю́шчакі ў гарбузах (Харомцы, Акц.).

ПЛЮ′ШЧЫЦЦА *незак.* жмурыцца, маргаць. Чаго ты плю́шчысся, як кот (Дарашэвічы, Петр.).

ПЛІЯВА′ (плёва) *ж., анат.* дыяфрагма. Нельга дыхаць, як плёва забаліць (Дзям'янкі, Добр.).

ПЛЯВУ′ЗГАЦЬ (плеву́згаць, пляву́зкаць) *незак., тое, што* плесці *ў 1 знач.* Мой сусед прывык пляву́згаць на людзей (Ч. Паляна, Б.-Каш.); Але плеву́згае абы што (Белы Пераезд, Петр.); Не плеву́згала б лепш Вулляна на мяне, сама ці лепшая (Злодзін, Маз.); Ну і пляву́зкае ж ён (Бабовічы, Гом.+ Запясочнае, Маз.).

ПЛЯ′ЖЫЦЬ *незак., перан.* палоць. З раніцы да вечара мая жонка ўсё грядкі пля́жыць (Радкоў, Акц.).

ПЛЯМЕ′ННІЧАК *м., памянш. да* пляме́ннік. Пляме́н-

нічак мой, калі я цібе ўбачу? (Любань, Б.-Каш.). *Параўн.* плямя́ннічак.

ПЛЯМЕ′ННІЧКА *ж., памянш. да* пляме́нніца. Мая пляме́ннічка, дзе ты начавала? (Любань, Б.-Каш.).

ПЛЯМЯ′ННІЧАК *м., памянш. да* плямя́ннік,*тое, што* пляме́ннічак. Зрабі ласку, плямя́ннічак, прынясі хлеба (Чацвярня, Жлоб.).

ПЛЯ′НІЦА *ж., тое, што* па́йка. У калгасе бульбу выбіраюць пля́ніцамі (Клівы, Хойн.).

ПЛЯС *м.* месца *(для складання бярвенняў).* Заставяць траляваць лес на пляс (Дубраўка, Добр.).

ПЛЯ′СКАЦЬ I *незак.* апладзіраваць. Калгаснікі пля́скалі артыстам за харошы канцэрт (Антонаў, Ельск.+ +Хвойнае, Хойн.).

ПЛЯ′СКАЦЬ II *незак.* майстраваць, рабіць. Сані во ў саўхоз пляшчу́ (Быч, Карм.).

ПЛЯСНІ′ВЫ *прым.* вяснушкаваты. А ён такі ж пляснí́вы, а ты чарнявенькая (Холмеч, Рэч.); Такая пляснí́вая, а ён яе ўзяў (Баравікі, Светл.+Марозавічы, Б.-Каш.).

ПЛЯСНІ′ЎКА *ж.* вочка*(на гародніне).* Вунь колькі плясні́вак на моркве (Забалацце, Раг.).

ПЛЯ′СНІЦА I *ж.* ільдзіна, крыга. Пля́сніца ў вадзе плыве (Бабовічы, Гом.).

ПЛЯСНІ′ЦА II *ж.* плесня, цвіль. Плясні́цу змывала. Плясні́цай гуркі пабраліся (Дубраўка, Добр.).

ПЛЯ′СНУЦЬ *зак., тое, што* пекану́ць. Як пля́снуў яму па мордзе (Хіцін, Жлоб.). *Параўн.* пілягну́ць, пэ́мкнуць, пэ́рнуць.

ПЛЯ′СТРА *ж.* рамка *(з сотамі).* Мікіта моцна дзяржаўся за вулей, каб не паадпадалі пля́стры (Бобрык, Петр.).

ПЛЯСУ′ХА *ж.* сыракваша. Налілі ў рынку плясу́хі (Капань, Рэч.).

ПЛЯТНЯ′К *м.* пляцень. Цяпер ужэ плятнякóў не робяць — усё барканы (Валахоўшчына, Браг.). *Параўн.* пляцéнь I *у 1 знач.*

ПЛЯТУ′Н *м.* майстар *(па пляценню кашоў).* У нашай дзярэўне жыве плятýн (Багданавічы, Карм.).

ПЛЯ′ЎШКА *ж.* пляшка. Продавец, а вы пля́ўшкі прынімаеце? (Грэбень, Жытк.).

ПЛЯЦЕ′НЬ I *м.* 1. *тое, што* плятня́к. Пляцéнь разваліўся (Неглюбка, Ветк.); Пляцéнь — гэта колля пера-

плятаюцца лазой (Хізы, Ветк.); Збіраўся дзед па хвораст, каб пляце́нь зрабіць (Піркі, Браг.+Аравічы, Хойн.; Баравікі, Светл.; Барталамееўка, Ветк.; Засінцы, Ельск.; Пярэдзелка, Лоеўск.; Халочча, Чач.); 2. *тое, што* пас III. Плятні́ етыя тады склепяць, выганяюць і вяжуць у большы плыт (Кароткавічы, Жлоб.). *Параўн.* плут.

ПЛЯЦЕ́НЬ (пліцень) II *ж.* від танца. Усяк танцавалі. У карагодзе была пляце́нь (Марозавічы, Б.-Каш.+ +Забалацце, Раг.).

ПЛЯЦЁ́НАЧКА *ж., памянш. да* пляцёнка III. Даўней часта пляцёначкі пплялі, вучыліся ўсё вязаць (Стаўбун, Ветк.); Звяжа вочка і будзе дарожка ці пляцёначка. На кружавах пляцёначкі не дзелаюць (Забалацце, Раг.).

ПЛЯЦЁ́НКА I *ж.* 1. звязка. У мяне на пеццы добрая пляцёнка цыбулі вісіць (Бялёў, Жытк.); Адарві ад той пляцёнкі дзве цыбулі (Багданавічы, Карм.); Спляту пляцёнку цыбулі і павешу (Залессе, Чач.); Пляцёнкі льну ляжаць на печы (Чарнейкі, Рэч.); Той год я пяць пляцёнок доццэ отдала (Бялёў, Жытк.+Баравікі, Светл.; Бярозкі, Браг.; Грычынавічы, Жытк.; Дубраўка, Добр.; Забалацце, Раг.; Завайць, Нар.; Карма, Ларышчава, Добр.; Майскае, Жлоб.; Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.; Неглюбка, Ветк.; Піркі, Браг.; Стаўбун, Ветк.; Халочча, Чач.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* пляці́нка; 2. *тое, што* пляце́нь II. Патанцуюць, а тады чараз галаву рукі паперакідаюць і ходзяць пляцёнкай (Піркі, Браг.); 3. від вязання. Дзе пачынаюць вязаць рышэўку, дык то пляцёнка (М. Аўцюкі, Калінк.); Я вышывала ўзор пляцёнкай (Майскае, Жлоб.+ Вялікае Поле, Петр.; Каравацічы, Рэч.; Ручаёўка, Лоеўск.).

ПЛЯЦЁ́НКА II *ж., бат.* бярозка. Пляцёнка па ўсяму гароду разраслася (Піркі, Браг.+Багуцічы, Ельск.).

ПЛЯЦЁ́НКА III *ж.* карункі. Павойнік абшыла пляцёнкай (Ж.-Буда, Добр.); Абшый пляцёнкай кофту (Харошаўка, Добр.).

ПЛЯЦЁ́НКА IV *ж.* прылада *(для звівання ў клубок нітак)*. Ніткі звіваюць у клубок пляцёнкай (Піркі, Браг.).

ПЛЯЦЁ́НКА V *ж.* посуд *(сплецены)*. Поўная пляцёнка дуль (М. Аўцюкі, Калінк.); Напхаў у пляцёнку сена, павесіў перад канём, ён і есць (Гармавічы, Жлоб.+ +Багданавічы, Карм., Кароткавічы, Жлоб.).

ПЛЯЦІ́НКА (пляця́нка) *ж., тое, што* пляцёнка I

*у 1 знач.* Я ўжо навязала цыбулі тры пляці́нкі (Пабеда, Ветк.); Шчэ не ўся цыбуля ў пляця́нках (Забалацце, Раг.).

ПЛЯЧНЫ′ *прым.* вялікі *(пра хустку).* Узімку я акрывалася плячны́м платком (Бабовічы, Гом.).

ПЛЯЧО′ВЫ *прым.* бакавы *(пра сцяну).* Ето ў нас плячо́вая сцяна (Дарашэвічы, Петр.).

ПЛЯШ *м.* плех. От на маім полі багата пляшо́ў (Харомцы, Акц.). *Параўн.* прага́лка.

ПО′БАЦНІ *толькі мн.* развалкі. На по́бацнях добра ездзіць па глыбокім снегу (Дзям'янкі, Добр.).

ПО′ВАД *м.* сцябло *(гарбуза).* Гарбуз распусціў по́вады (Багуцічы, Ельск.); Наламі лісця гарбуза, а павады́ сцягні ўбок (Новая Дуброва, Акц.).

ПО′ВАДЗЕЦ *м., памянш. да* по́вад. Узяла по́вадца, добрэ будзе корову прывезаць (Верасніца, Жытк.).

ПО′ВАРАЗКА *ж.* вяроўка, повад. Адвядзіце яе на по́варазцы (Пракопаўка, Добр.).

ПО′ВЯС (по́віс, по́ўяс) *м.* пояс. Падпіражжыся по́вісам, не так вецяр будзе сьвістаць (Асінаўка, Чач.); Улетку плеценым по́ўясам сарочкі падуязвалі (Харомцы, Акц.). *Параўн.* по́яс I.

ПО′ВЯЦЬ *ж., тое, што* падпаве́цце. Ідзі набяры ў по́вяці дроў (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* по́дпавець.

ПО′ГАЛАСКА *ж.* рэха. Як толькі крыкнеш у лесе, так по́галаска пойдзе (Заспа, Рэч.+Прудок, Калінк.).

ПО′ГАНЬ *аг.* поскудзь. Гэта по́гань, а не чалавек (Неглюбка, Ветк.).

ПО′ГБАР *м.* пограб. І бульба, і ўсе дзежкі ў по́гбары (Ніўкі, Добр.). *Параўн.* по́ргаб.

ПО′ДАЛ *м., тое, што* пеляна́. Замачыла я свой по́дал, наверна, муж п'яніца пападзе (Багданавічы, Карм.+Апанасаўка, Гом.; Барталамееўка, Ветк.; Дзям'янкі, Добр.; Камунар, Б.-Каш.; Нісімкавічы, Чач.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.; Шылавічы, Чач.).

ПО′ДАЧ *ж.* падатак. Цяпер саўсім лёгка, по́дач і тую атмянілі (Быч, Карм.).

ПО′ДБЕЛКА (по́дбілка) *ж.* падкладка. У маім пальто была атласава по́дбелка (Скароднае, Ельск.); Марыля, у цябе по́дбілка адпаролася трохі (Дарашэвічы, Петр.); Трэба краму на по́дбілку набраць (Аравічы, Хойн.+ Белы Пераезд, Петр.; Капань, Рэч.; Кароткавічы,

Жлоб.; Вуглы, Нар.). *Парайн.* по́дбіўка *ў 1 знач.*, по́двіўка.

ПО́ДБІЎКА *ж.* 1. *тое, што* по́дбелка (по́дбілка). По́дбіўка ў вопратцы ўся знасілася (Заспа, Рэч.+ Барталамееўка, Ветк.; Задуб'е, Раг.; Кароткавічы, Жлоб.; Раманавічы, Гом.; Рафалаў, Браг.; Р. Марымонава, Гом.). *Парайн.* по́двіўка. 2. падрубка *(у спадніцы)*. По́дбіўка забіралася ўручную (Раманавічы, Гом.); Што ты без по́дбіўкі пашыла спадніцу? (Забалацце, Раг.); І тады я по́дбіўку ў плацці зрабіла (Аравічы, Хойн.+Барталамееўка, Ветк.; Крупейкі, Лоеўск.; Неглюбка, Ветк.; Нісімкавічы, Чач.; Харомцы, Акц.; Хізы, Ветк.). *Парайн.* по́двіўка.

ПО́ДВІЎКА *ж., тое, што* по́дбелка (по́дбілка). По́двіўка зусім адарвалася (Майскае, Жлоб.). *Парайн.* по́дбіўка *ў 1 знач.*

ПО́ДГАЛАСАК (по́дголосок) *м.* голас *(які ўторыць асноўнаму ў спяванні)*. У яго і цяпер по́дголосок добры (Дарашэвічы, Петр.).

ПО́ДДЗЕЎКА *ж.* 1. *тое, што* паддзе́ўка *ў 1 знач.* Дзе ты дастаў такую цёплую по́ддзеўку? (Грабава, Жытк.); 2. *тое, што* паддзе́ўка *ў 2 знач.* По́ддзеўка белая, знізу з кружавамі (Хізы, Ветк.). *Парайн.* паддзе́лка, паддзява́нка, по́ддзіўка.

ПО́ДДЗІЎКА (по́ддзяўка) *ж., тое, што* паддзе́ўка *ў 2 знач.* У мяне ё по́ддзіўка з палатна (Бабовічы, Гом.); По́ддзяўку надзявала на сарочку, ды яшчэ і кружаўца прышыла пададно (Р. Марымонава, Гом.); По́ддзяўкі і ціпер носяць. Белыя боляй шыюць (Хізы, Ветк.+Барталамееўка, Ветк.). *Парайн.* паддзе́лка, паддзява́нка, по́ддзеўка *ў 2 знач.*

ПО́ДКА *н.* ляток *(у вуллі)*. Пчала ўлятае ў по́дка (Кароткавічы, Жлоб.+Піркі, Браг.).

ПО́ДКЛАДЗЕНЬ *м.* чараўніцтва. Старая Агата даўней по́дкладнем занімалась (Стаўбун, Ветк.).

ПО́ДЛАБКА *ж.* планка *(якая прыбіваецца пад з'езджаны полаз у санях)*. Старыя сані, у іх ё по́длабкі (Дубраўка, Добр.).

ПО́ДЛЕТАК (по́дляток) *м., тое, што* падлётух. Такая харошая мая дачка, йіна йшчэ по́дляток (Аравічы, Хойн.); Послі вайны ішчэ багато пагібла ў нас по́длеткаў (Піркі, Браг.). *Парайн.* падро́стак *у 1 знач.*, по́драсцень.

ПО́ДЛЯЦЕНЬ *м., тое, што* падлётыш. Чаго ты бяжыш, як по́дляцень? (Баравікі, Светл.).

ПО́ДМАЗ *м.* подмазка. Ён так стараўся, як бы по́дмаз украў (Церахоўка, Добр.+Уць, Добр.). *Параўн.* по́маз, по́мазка.

ПО́ДМАСНІ *толькі мн.* падмосткі. Зваліўся з по́дмасняў і нагу зламаў (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПО́ДМУР *м.* падмурак. По́дмур падводзіцца пад змураваны дом (Маркавічы, Гом.).

ПО́ДНЯЗЬ *м., шав., тое, што* падсцілка. У мяне калоўся гвоздь, дык я паклала по́днязь у туфлі (Рудное, Хойн.).

ПО́ДПАВЕЦЬ (по́дпаведзь) *ж., тое, што* падпаве́цце. По́дпавець накрываюць і складаюць туды ўсё (Багуцічы, Ельск.); А ты тую дошку ў по́дпаведзі не шукала? (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* по́вяць.

ПО́ДПАДКА *ж., заал., тое, што* перапялі́ца. Ехаў по дорозі, а по́дпадка пераводзіла своіх птушанят (Бялёў, Жытк.).

ПО́ДПАЛАК (по́дпалок) *м., кул., тое, што* падпа́лак. Цесто подышло, озьму спеку по́дпалка да побачу, ці добры будзе хлеб (Вуглы, Нар.); Пячы по́дпалкі (Вуглы, Нар.). *Параўн.* падпа́льванік.

ПО́ДПІРКА *ж.* падпора. Многа яблак — по́дпіркі пад яблыні стаў (Дубраўка, Добр.+Бабовічы, Гом.; Холмеч, Рэч.).

ПО́ДПЛАВЕНЬ *м.* бервяно *(збоку плыта)*. По́дплаўні зверху грыбёнкі (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* по́дплаў.

ПО́ДПЛАЎ *м., тое, што* по́дплавень. По́дплаў прывязваецца, коб плыт не сеў на мель (Ручаёўка, Лоеўск.+Баравікі, Светл.).

ПО́ДПЛЕТАНКА *ж., тое, што* падпля́та́нка. А по́дплетанкай падплетваем лапці (Піркі, Браг.). *Параўн.* падпля́та́лка, падпля́тка, по́дплетка.

ПО́ДПЛЕТКА *ж., тое, што* падпля́та́нка. Трэба по́дплетка падладзіць пасталы (Баравікі, Светл.+Замосце, Калінк.). *Параўн.* падпля́та́лка, падпля́тка, по́дплетанка.

ПО́ДРАСЦЕНЬ *м., тое, што* падлё́тух. Такі малы, шчэ по́драсцень, а ўсё ўмее дзелаць (Краўцоўка, Гом.). *Параўн.* падро́стак *у 1 знач.*, по́длетак.

ПО́ДРУБ *м., тое, што* падру́б. Трэба змяніць у хаці по́друб (Р. Шлягіна, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Баравікі,

Светл.; Дубраўка, Добр.; Забалацце, Раг.; Карма, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.; Холмеч, Рэч.; Хутар, Светл.; Чырвоная Буда, Добр.).

ПО'ДСЕВАЧАК (по́тсевочок) *н., тое, што* па́цíто́к. Не буду нікому даваць по́тсевочок, порваўся (Камаровічы, Петр.). *Параўн.* по́цітак.

ПО'ДСЛЕПАВАТЫ *прым.* падслепаваты. Тыя людзі былі по́дслепаватымі (Баравікі, Светл.).

ПО'ДСЛУХ *м.* падслухоўванне. По́дслух не памяшае на ахоці (Марозавічы, Б.-Каш.+Багданавічы, Карм.; Піркі, Браг.).

ПО'ДСТАЎ *м.* пастаў *(палатна)*. Убелюем колісь полотно і скручваем у по́дставы (Аравічы, Хойн.). *Параўн.* по́стаў.

ПО'ДТАЧКА *ж., тое, што* падточка II. Німа мацерыі на по́дтачку (Холмеч, Рэч.).

ПО'ДТЫЧКА *ж.* 1. падол *(падаткнуты)*. Во і по́дтычка твая выпала, ня трэба сільна бегаць (Дубраўка, Добр.+Забалацце, Раг.); 2. *тое, што* падто́чка II. Нагруднік у сорочцы з мульту, а по́дтычку з полотна здзелала (Чырвоная Буда, Добр.+Забалацце, Раг.).

ПО'ЖНЯ *ж.* іржышча. По́жня ж на етым полі высокая (Чарнейкі, Рэч.); С по́жні кароўка прынесла больш малака (Шарын, Ельск.); Гані корову на по́жню, там она будзе больш пасціцца (Бярэзнікі, Жытк.); Не ходзі босы по по́жні, усе ногі поколеш (Бялёў, Жытк.); По́жні цімафееўкай засяваюць (Марозавічы, Б.-Каш.); На по́жні каровы пасуцца ўсю восянь (Чарнейкі, Рэч.+Асінаўка, Светл.; Бабовічы, Гом.; Багуцічы, Ельск.; Бацунь, Б.-Каш.; Верасніца, Жытк.; Дарашэвічы, Петр.; Забалацце, Раг.; Запясочча, Жытк.; М. Аўцюкі, Калінк.; Махнавічы, Маз.; Неглюбка, Ветк.; Саўгасная, Б.-Каш.; Славань, Светл.).

ПО'ЙСКАВАЦЬ *незак.* разведваць *(пра пчолы перад раеннем)*. У мяне пчолы по́йскуюць (Бялёў, Жытк.).

ПО'КАТ I *м., абрад.* гульня *(калі выпрабоўвалі мацунак велікодных яек)*. Вось гэтым яйкам добра ў по́ката гуляць — самае моцнае (Усохская Буда, Добр.).

ПО'КАТ II *м., тое, што* пакаты́. Пры дапамозе по́ката мы паднялі бервяно на сцяну (Чырвоная Буда, Добр.).

ПО'КАЦЬ *незак.* лопаць, трэскаць. Шарык по́кнуў

у дзявочых руках і разляцеўся ва ўсе бакі (Кароткавічы, Жлоб.).

ПО'КРЫШКА *ж.* накрыўка. По́крышка ляжыць на столе (Піркі, Браг.); Бабуля разбіла по́крышку (Вуглы, Нар.).

ПО'КУЛЬ *прысл.* пакуль. По́куль бацька копу жыта змалаціў, я лапці сплёў (Шарын, Ельск.+Салаўёў, Б.-Каш.).

ПО'ЛАТА (по́лотно) *н.* 1. посцілка. По́лотно му самі ткалі (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* по́лка II *у 1 знач.;* 2. полка *(кавалак тканіны)*. Я з по́лот споднiцу сшыла. Пошыла собе посцілку ў дзьве по́лаці (Бялёў, Жытк.). *Парайн.* по́лка II *у 2 знач.,* парэ́кулі.

ПО'ЛЕ *н.* 1. поле. У нас за гародамі пачынаецца по́ле (Марозавічы, Б.-Каш.); У такі цёплы дзень усе на по́лі (Піркі, Браг.); Такіх красівых по́ляў нідзе больш німа (Ларышчава, Добр.); 2. год, сезон. Паляўнічы сабака ганяў ужо трэцяе по́ле (Кароткавічы, Жлоб.).

ПО'ЛІК *м.* палок *(у хаце)*. Зімою дзед спаў на по́ліку (Антонаў, Ельск.+Бялёў, Жытк.; Грабаўка, Гом.; Заходы, Лельч.; М. Аўцюкі, Калінк.; Мікулічы, Браг.; Паганцы, Светл.).

ПО'ЛІЎКА I *ж., кул.* страва. По́ліўка сігодні нідасоліна (Зялёныя Лукі, Гом.).

ПО'ЛІЎКА II *ж.* паліўка Пасля дажджу по́ліўка не трэба (Аравічы, Хойн.).

ПО'ЛКА I *ж.* паліца. Поўная по́лка кніг у іх хаце (Янова, Ветк.).

ПО'ЛКА II *ж.* 1. *тое, што* по́лата *ў 1 знач.* Летам я такіх красівых по́лак наткала (Крупейкі, Лоеўск.); Пакуль тае падводы дажджэшса, то я і по́лкамі сено перацягаю (Каменка, Маз.+ Баравікі, Светл.; Р.-Каменева, Лоеўск.); 2. *тое, што* по́лата *ў 2 знач.* Пашшывала по́лкі ў посцілцы (Халочча, Чач.); 3. пялёнка. По́лкі ні атрэжа дзіцяці, думае сільна абкультурылась. У по́лку ўкруці дзіця (Аляксандраўка, Калінк.); Толькі й знай, што мый по́лкі (Шылавічы, Чач.+Бабовічы, Гом.; Баравікі, Светл.: Дубраўка, Добр.; Камунар. Б.-Каш.; Крапіўня, Рэч.; Раманавічы, Гом.; Рафалаў, Браг.; Р. Марымонава, Гом.; Р. Шлягіна, Ветк.; Холмеч., Рэч.).

ПО'ЛКА III *ж.* праполка. По́лка гуркоў і капусты канчаецца (Залессе, Чач.+Камароўка, Рэч.; Неглюбка, Ветк.).

ПО'ЛКА IV *ж.* прыступка *(у лазневым палку)*. Стань на ету по́лку, а то там вельмі жарка (Кавака, Браг.); Глянь, ужэ Маня на самой вушшой по́лцы ляжыць (Тураў, Жытк.+Шуты, Ельск.).

ПО'ЛКІ *толькі мн.* палок *(у лазні)*. У парылцы ў нас стаяць драўляныя по́лкі (Багуцічы, Ельск.); У нас на по́лках усе парацца (Бялёў, Жытк.+Баравікі, Светл.; Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.; Піркі, Рафалаў, Браг.).

ПО'ЛУДНАВАЦЬ *незак.* палуднаваць. Свахно, мо б по́лудновалі? Ву ж з дорогі (Захады, Лельч.).

ПО'ЛЬКА I *ж., муз.* від танца. А хто любіць кракавяк, а я люблю по́льку. А хто любіць Васіля, а я люблю Кольку (Кароткавічы, Жлоб.).

ПО'ЛЬКА II *ж.* хустка *(каштоўная)*. Ну падары по́льку ці штапяльную хустку (Вышамір, Рэч.).

ПО'ЛЬКА III: пад польку *прысл.* від прычоскі *(мужчынскай)*. Пад по́льку ўжо ў трыццаць сёмым годзе пачалі стрыгчысь (Касцюкоўка, Гом.); Пад по́льку і мала́дыя стрыгліся (Забалацце, Раг.); А жыў у нас тут насупраць хлопец, высокі такі, валасы пад по́льку (Марозавічы, Б.-Каш.+Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл; Бялёў, Жытк.; Залессе, Чач.; Заспа, Рэч.; Піркі, Браг.).

ПО'ЛЬНЫЯ: польныя дзверы *толькі мн.* другія *(дзверы, вароты на поле)*. У мяне няма по́льных дзвярэй, у нас агарод у балоці (Хізы, Ветк.).

ПО'МАЗ *м., тое, што* по́дмаз. По̀маз дзесьці ў скавародцы ляжыць (Багданавічы, Карм.); Скавародку мажуць по́мазам (Палессе, Чач.+ Асінаўка, Залессе, Меркулавічы, Чач.; Р.-Бурыцкая, Лоеўск.; Саўгасная, Б.-Каш.; Сівенка, Ухаў, Хізы, Ветк.). *Парайн.* по̀мазка.

ПО'МАЗКА *ж., тое, што* по̀дмаз. Возьмі по̀мазку і помаж сковороду (Дзяржынск, Лельч.). *Парайн.* по́маз.

ПО'МАЎКА *ж.* прыказка, прымаўка. Колісь у старых людзей была такая по́маўка (Бялёў, Жытк.).

ПО'МІЖ *прысл.* адасоблена. Не, маточко, цяпер му ўже по̀між жывём (Бялёў, Жытк.).

ПО'МІНКІ *толькі мн., рэл.* памінкі *(пасля пахавання)*. Кожную ноч снілася Марусі маці, пока не справіла по̀мінкі (Азяраны, Жытк.+Бабовічы, Гом.; Дуброва, Петр.).

ПО'НАЧ *ж.* цемень. Ішла я да самай по̀начы (Грушаўка, Нар.).

ПОНТ *м.* бачнасць *(памылковая)*. Трэба ў час понт навесці, а астатня ня так важна (Саўгасная, Б.-Каш.).

ПОП I *м., рэл.* поп. Поп у нас буў добры, не абіраў, як Мікалаеўскі (Хутар, Светл.).

ПОП II *м., бат.* 1. адуванчык. Зноў навалок етых папо̀ў поўну хату (Неглюбка, Ветк.); 2. *тое, што* пе́р'е *ў 1 знач.* Раней гаварылі поп, а ціпер стрэлка (Бабовічы, Гом.+Пярэдзелка, Лоеўск.). *Парайн.* пе́рка, пе́ркі, пе́ры, пе́р'я, пяры́на.

ПО'ПАР *м.* папар. Вунь у нас, дзявочкі, по́пар (Дарашэвічы, Петр.).

ПО'ПЕРАК *прысл.* упоперак. По́перак ніткі ўцягваюць, а потым абшываюць (Піркі, Браг.).

ПО'ПЛАЎ I *м.* поплаў *(луг)*. Твае гусі на по́плаві ходзяць (Камаровічы, Петр.).

ПО'ПЛАЎ II *м., тое, што* плаў II. Ля берагу было шмат по́плаву (Сведскае, Рэч.).

ПО'ПЛІСКА *ж.* рубель *(жэрдка для прыціскання сена, снапоў на возе)*. По́пліскай тужэй уціскаюць на возе сена (Холмеч, Рэч.).

ПО'ПРАДКІ *толькі мн.* вячоркі. Мы, тады маладыя дзеўкі, на по́прадкі зімой кожды вечар сабіраліся (Быч, Карм.); Булы сёгодні на по́прадках і заўтра пойдэм (Грушаўка, Нар.).

ПО'ПУСКА *ж.* вяроўка (*у рыбалоўнай сетцы*). А без по́пускаў кой-дзе ніяк не пройдзеш (Аравічы, Хойн.).

ПО'РАЦЦА *незак.* корпацца. Хопіць табе, Настуля, по́рацца, адпачні (Буйнавічы, Лельч.); Я заўсёды по́раюся з шасці гадзін ранку (Багуцічы, Ельск.); Маці мая по́ралася ўжо (Навінкі, Калінк.+ Антонаў, Ельск.; Дарашэвічы, Петр.; Замосце, Калінк.; Зялёныя Лукі, Гом.; Махнавічы, Маз.; Ручаёўка, Лоеўск.; Р. Шлягіна, Ветк.; Вуглы, Нар.; Ямпаль, Рэч.). *Парайн.* по́рыцца.

ПО'РГАБ *м., тое, што* по́гбар. Пойдзем у по̀ргаб і возьмем бульбы (Бабовічы, Гом.); У по̀ргабі морква можа ляжаць доўга (Антонаўка, Добр.); Цяпер по̀ргабы пабуралі і падзелалі падвалы (Дубраўка, Добр.+Барталамееўка, Ветк.; Васільеўка, Гом.; В. Нямкі, Ветк.; Заходы, Капань, Рэч.; Нова-Мазалоў, Жлоб.; Пабеда, Ветк.).

ПО'РКАЦЬ *незак., тое, што* пары́паць. У нас хлопцы любяць по́ркаць з берага ў ваду (Багуцічы, Ельск.).

ПО'РСТКІ *прым.* запальчывы. Такі по́рсткі ні будзь, бо хтоль вуб'е такую натуру (Прудок, Калінк.).

ПО'РТКІ *толькі мн.* кальсоны. По́рткі трэба зашыць харашэ (Холмеч, Рэч.). Летам по̀ртак не носяць, і так душна (Забалацце, Раг.).

ПО'РТНЫ *прым.* парцяны. У мяне буў по́ртны сарафан у брыжыках (Аравічы, Хойн.).

ПО'РУБ *м.* пару́бка. У лесе да броду по́руб (Дубраўка, Добр.).

ПО'РУБЕЛЬ *м., тое, што* па́ру́бель. По́рубель не сячэ дроў (Забалацце, Раг.).

ПО'РХАЦЦА *незак.* варушыцца. Залез у берлог ды і по̀рхаецца там (Бобрык, Петр.).

ПОРЧ *м.* пашкоджанне. Чарвякі ва ўсім могуць быць. І ў чорнай смародзіне е порч (Дарашэвічы, Петр.).

ПО'РЫЦЦА *тое, што* по̀рацца. Позна стала по́рыцца і не ўспела на машыну (Узнаж, Рэч.).

ПО'РЫЦЬ *незак., абразл.* гаварыць (*глупства*). Што ты по̀рыш? (Жгунь, Добр.).

ПО'САХ (посох) *м.* яйка *(наседжанае)*. Полезла по сено, а там кубло з по́сохамі (Аравічы, Хойн.).

ПО'СВІТ *м., толькі адз.* лоўля *(рыбы на свет)*. Воны вжэ ходылы на по́світ (Грушаўка, Нар.).

ПО'СЕЛКА (по́сілка) *ж., тое, што* пачо̀пка. Атпала по̀селка ў вядры (Піркі, Браг.); По̀сілка адарвалася і патануло вядро (Белы Пераезд, Петр.); Наладзь по̀сілку ў вядрэ (Навасёлкі, Петр.); У вёдрах не было по̀сілак (Уваравічы, Б.-Каш.). *Парайн.* по̀чапка.

ПО'СЕЎКА *ж.* посцілка. По̀сеўкай наносіш сена зараз (Піркі, Браг.).

ПО'СКАДНІ *толькі мн., тое, што* пласко̀нне. Ужо выбіраюць по̀скадні (Ліцвінавічы, Карм.). *Парайн.* пласуны́, пласкуня́, пло́скамкі, пло̀скань, пло̀скуні.

ПО'СКУДЗЬ *ж.* паскудства, брыдота. У лесі ўсякай по̀скудзі навалом. Увечары на дворэ по́скудзь (Бялёў, Жытк.).

ПО'СНЫ *прым., перан.* цвярозы. Э, паехаў сянні по̀сны, нідзе ня папала чаркі (Быч, Карм.).

ПО'СТАВАЦЬ (по̀стуваць) *незак.* пасціць. По́ставаць цяпер нікому няма ахвоты (Зенькавічы, Карм.); Баба ваша вон усягда по̀стуя (Хізы, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Гарывада, Рэч.; Касцюкоўка, Гом.; Крыўск, Б.-Каш.). *Парайн.* по̀сціць.

ПО́СТАЎКА *ж.* подтачка (*ніжняя частка жаночай сарочкі з горшага палатна*). Трэба было прышыць постаўку (Асінаўка, Чач.); Даўней булі сарочкі з по̀стаўкай (Быч. Карм.+ Барталамееўка, Ветк.; Жг.-Буда, Добр.; Казацкія Балсуны, Ветк.; Рудня, Чач.).

ПО́СТАЎ *м., тое, што* по̀дстаў. Я яго ў по́стаў завярнула і палажыла ў скрыню (Аравічы, Хойн.+Крапіўна, Рэч.).

ПО́СТАЦЬ *ж., тое, што* паста́ць *у 2 знач.* По̀стаць уся сажата (Дзенісовічы, Калінк.); Тры по̀стаці зжала і ўжо ўтамілася (Гармавічы, Жлоб.). Выжала адну по́стаць, зайшла і заняла другую (Багуцічы, Ельск.); У по̀стаці села і полудную (Верасніца, Жытк.); Жанчыны ўжо выжалі па некалькі по̀стацей (Стаўбун, Ветк.+Астрагляды, Браг.; Баравікі, Светл.; Бывалькі, Лоеўск.; Бялёў, Жытк.; Дземяхі, Рэч.; Дзям'янкі, Добр.; Дубраўка, Добр.; Дуброва, Петр.; Зенькавіна, Карм.; Калінін, Хойн.; Крыўск, Б.-Каш., Ларышчава, Добр.; Ліпнякі, Лоеўск.; Ломыш, Хойн.; М. Аўцюкі, Калінк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Насовічы, Добр.; Пагоннае, Хойн.; Тураў, Жытк.; Хізы, Ветк.; Холмеч, Чарнейкі, Рэч.; Чкалава, Гом.).

ПО́СЦІЛ *м.* 1. *тое, што* по́лата *ў 1 знач.* Бяры по̀сціл і ідзі за травой (Бабовічы, Гом.); По̀сцілы вытчэм, памыем і засцілаем (Грушаўка, Нар.); 2. подсціл. Прывязі по̀сцілу карове (Кароткавічы, Жлоб.). *Парайн.* по́лка *ў 3 знач.*

ПО́СЦІЦЬ *незак., тое, што* по̀ставаць (по́стуваць). Бувала, по̀сцілі па цэламу месяцу, і жывыя булі (Хутар, Светл.+Аравічы, Хойн.; Баравікі, Светл.).

ПО́СЮЛЬ *прысл.* дасюль. По̀сюль скосім і косы дадому заносім (Дабрынь, Ельск.).

ПО́ТРА (пу́тра) *ж.* пацяруха. По̀тра по ўсёй дорозі. Сено перасохло і багато по̀тры насыпалосо (Дарашэвічы, Петр.); Набрала пу́тры, будзе чым свінні корміць (Верасніца, Жытк.). *Парайн.* по̀шур.

ПО́ТРАЎКА *ж., кул., тое, што* пата́пцы. Он у тэй чугунок покідае скарыначкі і сахар і робіць по̀траўку (Аравічы, Хойн.).

ПО́ТЫЧ *прысл.* потарч. Як дасць кухталя, дык ляціш по̀тыч (Барталамееўка, Ветк.+Бабовічы, Гом.; Жлобін; Крыўск, Б.-Каш.).

ПО́ЎЖЫК I *м., заал.* птушка. По̀ўжык есць толькі насякомых (Дубраўка, Добр.).

ПО'ЎЖЫК II *м., перан.* жэўжык. Пòўжык зноў недзе ўцёк з дому (Грушаўка, Добр.).

ПО'ЎЗІНА *ж.* апоўзіны. Бярозавай пòўзінай замацавалі стог зверху (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* пярэ́віцця.

ПО'ЎЗНІК *тэхн.* паўзунок. А о пòўзнік на (Неглюбка, Ветк.).

ПО'ЎНІК *м.* поўня. Настаў пòўнік (Насовічы, Добр.); Калі вакруг пòўніка цвятныя кругі, то будзе мароз ці вецер (Марозавічы, Б.-Каш.+Забалацце, Раг.).

ПО'ЎРАЗ (пòўрас) *м., тое, што* паўрòз. У мяне адзін пóўраз з пярэдніка адарваўся (Багуцічы, Ельск.); Рассыпалася бульба з мяшка, як парваўся пòўрас (Красная Ніва, Хойн.). *Параўн.* паўрóза, пòўразка.

ПО'ЎРАЗКА *ж., тое, што* паўрòз. Дзелалі пòўразкі ў фартуху з укружаўя (Раманавічы, Гом.); Бывала пòўразкамі атлупіць (Жлобін+Бабовічы, Гом.; Чырвоная Буда, Добр.). *Параўн.* паўрòза, пóўраз.

ПО'ХАД *м.* яма *(перад печкай у асеці)*. Кідаем у пóхад лён і сушым (Забалацце, Раг.); У пóхадзе цёмна, глядзі не спаткніся (Халочча, Чач.).

ПО'ХЛЯ *ж.* палоска, участак (*сенакосу*). А адну пóхлю карове пакіне (Быч, Карм.).

ПО'ХМАРАК *м.* воблачка, хмарка, хмурынка. От добрэ сено грэбці. На небі ні пóхмарка (Мілашэвічы, Лельч.). *Параўн.* пузырòк II.

ПО'ХМАРНА *прысл.* пахмурна. Сёдні штой-та пòхмарна: ці ня будзя дождж? (Палессе, Чач.).

ПО'ХМАРНЫ *прым., перан.* маркотны, сумны. Марцін усігда такі пòхмарны (Палессе, Чач.).

ПО'ЦВІНАК *м., тое, што* падпарасёнак. Я купіла сабе пòцвінка за дваццаць рублей (Макарычы, Петр.+Каравацічы, Рэч.; Ручаёўка, Лоеўск.).

ПО'ЦЕРАБ (пòцерэб) *м.* сенажаць *(ачышчаная ад зараснікаў)*. Цяпер на пòцерэбах багато людзей (Тураў, Жытк.).

ПО'ЦІТАК *м., тое, што* пáцітóк. Пóцітак буў такі густы, што не прасявалася ўся мука (Амялюк, Хойн.+ + В. Нямкі, Ветк.). *Параўн.* пóдсевачак.

ПО'ЦКАЛА (пòцькало) *н.* сава. Пóцькало сярод ночы крычыць (Дзям'янкі, Добр.).

ПО'ЧАП (пòчэп) *м., тое, што* пачóпка. Трэба пòчэп

повэсыть новы, а то вэдро падае (Грушаўка, Нар.). *Параўн.* по̀чапень.

ПО'ЧАПЕНЬ *м., тое, што* по̀чап. Без по́чапня вады не выцягнеш (Радкоў, Акц.).

ПО'ЧАПКА *ж., тое, што* по̀селка. Вось і по́чапка адарвалася, пайду куплю ў лаўцы новае вядро (Амелькаўшчына, Хойн.); Нехай дзед закляпае по̀чапку ў вядры (Калінічы, Нар.); Гэтых по́чапак няможна набрацца (Забалацце, Раг.+Бабовічы, Гом.; Валахоўшчына, Браг.; Заспа, Рэч.; Кароткавічы, Жлоб.; М. Аўцюкі, Калінк.; Меркулавічы, Чач.; Насовічы, Добр.; Погань, Светл.; Ст. Краснае, Холмеч, Рэч.).

ПО'ЧЫНАК *м., ткацк.* штыр *(у кроснах)*. Почынак у кроснах даўгаваты (Стаўбун, Ветк.).

ПО'ШВА *ж.* шво. Учора толькі адну по́шву сашыла (Каравацічы, Рэч.); Штаны парваліся па по̀шве (Вуглы, Нар.+ Дубраўка, Добр.).

ПО'ШУР *м., тое, што* по̀тра. Мушы сена перагрызлі, адзін по́шур астаўся (Аляксандраўка, Калінк.).

ПО'ЯС I *м., тое, што* по́вяс. Бацька падвязваўся тканым по̀ясам (Чырвоная Буда, Добр.).

ПО'ЯС II *м.* паясніца. Пояс нешта ломіць (Кароткавічы, Жлоб.).

ПО'ЯС III *м.* жэрдка, мацаванне *(крокваў)*. По́яс папярок крокваў прыбіваецца (М. Аўцюкі, Калінк.); Без по̀яса не вельмі надзёжна. Паясы́ робяць з бярозы (Забалацце, Раг.); Паясы́ скрапляюць кроквы (Холмеч, Рэч.+ Гарадзец, Раг.; Косаль, Карм.). *Параўн.* прышыўка.

ПО'ЯС IV *м.* Млечны Шлях. По̀яс добра бачна перад ранкам (Дзякавічы, Жытк.+Лучын, Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.).

ПРАБА'БА *ж.* прабабка. Яго праба́ба добра помніць паноў (Ваявода, Гом.); Сваёй праба́бы я не знаю (Багданавічы, Карм.); Мне баба часта расказвае пра сваю маці, маю праба́бу (Бабовічы, Гом.); Праба́бе нашай ужэ больш дзевяноста гадоў (Кароткавічы, Жлоб.); У нас тут у многіх праба́бы. Доўга жывуць старыя людзі (Дубраўка, Добр.+Баравікі, Светл.; Брынёў, Петр.; Велін, Рэч.; Грабава, Жытк.; Забалацце, Раг.: Любань, Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.; Холмеч, Рэч.; Чырвоная Буда, Добр.).

ПРАБАРАНО'ЎКА *ж.* баранаванне. Зробіў проборо-но́ўку пшаніцы (Багуцічы, Ельск.).

ПРАБІРА'ЦЬ *незак.* праполваць А ты радкі прабіра́яш? (Сямёнаўка, Рэч.); Радкі прабіра́юць, коб чыста було (Баравікі, Светл.).

ПРАБІТНЫ' *прым.* пранырлівы. Мой сын — прабітны́ хлопец: чаго хочаш дастаніць (Каравацічы, Рэч.). *Параўн.* право̀рны.

ПРАВАРО'НІЦЬ *зак., перан.* прагледзець, прапусціць *(што-небудзь).* Эх ты, такую дзеўку праваро̀ніў (Чырвоны Маяк, Гом.). *Параўн.* празява́ць, прамарга́ць.

ПРАВЕ'ТРЫЦЬ *зак.* правеяць. Трэба праве́трыць зерне (Багданавічы, Карм.).

ПРА'ВІЛКА *ж., спец.* распорка. Знятую шкуру нацягнулі на пра́вілкі, каб лепей высахла (Кароткавічы, Жлоб.+Багуцічы, Ельск.).

ПРА'ВІЦЦА *звар.* ачуньваць, папраўляцца. Не ўмірае, не пра́віцца (Бялёў, Жытк.).

ПРА'ВІЦЬ I *незак.* правіць *(канём).* Ён узяўся пра́віць канём (Забалацце, Раг.); На пярэднім вазу пра́віў вожкамі хлопчык (Гарадзец, Раг.+Бабовічы, Гом.; Завайць, Нар.; Насовічы, Добр.; Ручаёўка, Лоеўск.).

ПРА'ВІЦЬ II *незак.* 1. гаварыць. Сённі пра́вілі ў Залессі, што Майсачыхі дзіця найшлося (Новая Дуброва, Акц.); 2. служыць *(набажэнства).* Поп наш правіў малебен у царкве (Хутар, Светл.);/спраўляць *(памінкі).* Памінкі пра́вяць навек, пасля таго, як нябожчыка пахаваюць (Баравое, Лельч.).

ПРАВО'ДЖАЦЬ *незак.* право́дзіць, выпраўляць. Набранчыкаў уся дзірэўня право̀джала (Стаўбун, Ветк.).

ПРАВО'ДНЫ *прым., рэл.* паслявелікодны *(тыдзень).* Пройдзе право̀дная нядзеля і будам соткі сеяць (Дуброва, Петр.); Шчэ на право́дную нядзелю не шыюць (Баравое, Лельч.+ Баравікі, Светл.; Касцюкоўка, Гом.; Крыўск, Б.-Каш.; Ломыш, Хойн.).

ПРАВО'РНЫ *прым., тое, што* прабітны́. Мая дачка право̀рная, усюды паспее (Кароткавічы, Жлоб.).

ПРАГА'Л *м.* прагаліна. На прага́лі пасцілі кароў (Неглюбка, Ветк.).

ПРАГА'ЛКА *ж., тое, што* пляш. Там на полі многа прага́лак, што і рабіць будзя (Хізы, Ветк.).

ПРАГАНЯ'ЦЬ *незак.* запіваць. Бульбай падавілася, дай хутчэй прагано́ малаком (Хальч, Гом.); Прагані́ малаком, а то ў роце будзе плоха (Крыўск, Б.-Каш.); Баб-

ку ешце й малаком праганя́йце (Шарын, Ельск.+Кіцін, Жлоб.).

ПРАГАРАВА′ЦЬ *зак.* пражыць (*у нястачы, горы*). Прагарава́ла я ўвесь свой век, прамучылась (Багданавічы, Карм.).

ПАГЛА′ДЗІЦЬ *зак.* паўшчуваць. Прагла́дзілі яго на сходцы, дак чалавекам стаў (Быч, Карм.).

ПРАГО′Н I *м.* 1. прагон *(праход для жывёлы)*. На прагóне куры, гусі ходзяць (Дубраўка, Добр.); 2. сцежка *(пратаптаная жывёлай)*. Багата кароў ходзіць, нарабілі бальшых прагóнаў (Бабовічы, Гом.+Неглюбка, Ветк.; Хізы, Ветк.; Холмеч, Рэч.).

ПРАГО′Н II *м.* бэлька. Прагóн навярху праложваецца ад сцяны да сцяны (Дарашэвічы, Петр); У яе ў хаце паклалі прагóны (Хвойнае, Хойн.); Без прагóнаў хата не строіцца (Дубраўка, Добр.); Прагóнамы дзелаюць перакрыццё над вокнамы й дзвярыма (Стаўбун, Ветк.+ +Баравікі, Светл.; Кароткавічы, Жлоб.; Холмеч, Рэч.).

ПРАГЦІ′ *незак.* смажыць. Сала нада прагці́ (Казацкія Балсуны, Ветк.); Што ж тыя картоплі адны, я хоць сала вам прагла́ (Каменка, Маз.); Пражы́ мне с салам яечню (Хальч, Ветк.); Бліны ж я пякла, сала прагла́ (Стаўбун, Ветк.+Холмеч, Рэч.); *Парайн.* пра́жыць, прэ́гці, прэ́жць.

ПРАДЗЕ′ЛЬНЫЯ *прым., тое, што* па́сахлі. Прадзе́льные каноплі поцерла ўжэ (Верасніца, Жытк.).

ПРАДЗЕ′ННІЦА *ж.* папрадуха. Унь у Ксенькі вечором як соберуцца прадзе́нніцы да вязанніцы, то сцены дрыжаць от песень і роготу (Юркевічы, Жытк.). *Парайн.* пра́дка *ў 1 знач.,* пра́лка, пра́лля, пра́льшчыца.

ПРА′ДЗІВА *ж.* пража. З етага лёну будзе тонкае пра́дзіва (Чарнейкі, Рэч.); Аднаго пра́дзіва мо пяць пудоў було (Дзвіжкі, Ельск.).

ПРА′ДКА *ж., уст.* 1. *тое, што* прадзе́нніца. Ужо з месяц не прыходзіла прасці кудзелю тая пра́дка (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* пра́лка, пра́лля, пра́льшчыца; 2. прасніца. Я на пра́дцы ўчора багата напрала (Вуглы, Нар.). *Парайн.* пра́ліца.

ПРАДКУ′КАЛКА *ж., заал.* кукалка. Прадку́калка развіваецца пяць дней (Астрагляды, Браг.).

ПРАДО′ЎЖНЫ *прым.* падоўжаны. Счас будзем лажыць прадоўжнае палена (Халочча, Чач.).

ПРАДСАДЗІ'ЦЬ *зак.* працадзіць. Прадсадзі́ малако ў гладышку (Карчовае, Хойн.).

ПРАДСЯДА'ЦЕЛЬША *ж.* старшыня *(жанчына)*. У нас новая прадсяда́цельша (Акцябрава, Карм.).

ПРАДУ'ШНІК *м.* душнік. У хундаменці робяць праду́шнікі (Дарашэвічы, Петр.).

ПРАДУ'Н *м.* мужчына *(які прадзе)*. Сільна многа напраў кудзелі мой праду́н (Дубраўка, Добр.).

ПРАЕ'Х *м.* прарэх. Вялікая дзяўчына, а прае́ха ня ўмея зашыць (Заспа, Рэч.). *Параўн.* прэ́рах.

ПРАЖМО' *зборн.* каласы *(смажаныя на агні)*. Калі ідзеш у начное, то добра рабіць пражмо̀ з каласкоў (Шалухоўка, Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* пражо̀нка.

ПРАЖО'НКА *зборн., тое, што* пражмо́. Ета дзеці нарвуць каласкоў, насмажаць і ядзяць пражо́нку (Хізы, Ветк.).

ПРАЖО'РА *аг., груб.* абжора. Сколькі не дай ёй — усё з'есць, пражо́ра (Бабовічы, Гом.+Будкі, Нар.).

ПРА'ЖЫЦЬ *незак., тое, што* прагці. Пражы́ мне яешню (Карма, Добр.); Пражэ́цца на скаварадзе сала (Неглюбка, Ветк.). *Параўн.* прэ́гці, прэжць.

ПРАЗ *прыназ.* пра. Праз вас тут ніхто й ні думаў (Шарын, Ельск.).

ПРАЗА'РЫТЫ *прым.* празорлівы. А малая була сільна праза́рытая (Аравічы, Хойн.).

ПРАЗВЕ'СЦІ *зак.* ашукаць. Я думала, што Іван будзе мой, а ён мяне празвёў (Піркі, Браг.).

ПРАЗДРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* вітаць. Нявеста прыехала, дак так праздраўля́лі ўжэ (Стаўбун, Ветк.).

ПРАЗНО'Г *м.* хвароба *(жывёлы)*. Празно́гам хварэюць каровы, кроўю мочацца (Піркі, Браг.).

ПРАЗЫ'РЫЦЬ *зак.* прагнаць. Я яго так празы́рыла, што ён ледзьве ногі ўнёс (Запясочча, Жытк.). *Параўн.* пратурыць.

ПРАЗЯВА'ЦЬ *зак., тое, што* праваро́ніць. І як я мог празява́ць яго, хоць рэж — не помню (Чырвоны Маяк, Гом.). *Параўн.* прамарга́ць.

ПРАКАВЕ'ТНЫ *прым.* спрадвечны, стары. Такіе песні, колішнія, пракаве́тныя я ўсе забыла (Дубраўка, Добр.+Грушаўка, Добр.). *Параўн.* пракале́ташні.

ПРАКАРО'НКАВАТЫ *прым.* каржакаваты. Вот які пракаро́нкаваты, як грыб (Бабовічы, Гом.).

ПРАКА'РПАЦЬ *зак.* пракалупаць, прапароць. Пра-

ка́рпалі дзірачку ў зашытым мяшочку і гарбузікі выцягалі (Пясчанікі, Жытк.).

ПРАКАЎТНУ′ЦЬ (прокоўтну́ць) *зак.* праглынуць. Ох, якое яблоко, не прокоўтну́ць (Аравічы, Хойн.); Я сьліву з каменьчыкам магу пракаўтну́ць (Дабрынь, Ельск.+Сцяпы, Жлоб.).

ПРАКІ′ВА *ж., бат.* крапіва. У людзей кветкі тут раслі б, а ў нас пракі́ва (Перароў, Жытк.).

ПРАКЛА′ДЗІНА *ж., тое, што* пала́ *ў 2 знач.* Каб стог добра стаяў, кладуць пракла́дзіну наверх (Хізы, Ветк.).

ПРАКЛІ′МКАЦЬ *зак.* пражыць *(як-небудзь)*. От памаленьку праклі́мкаем як-небудзь (Палессе, Чач.).

ПРАКО′ЎЗАЦЦА *зак.* пракатацца. Усю зіму прако́ўзаліся на горцы (Перароў, Жытк.).

ПРАКСЭ′ДЛІВЫ *прым.* прыдзірлівы. А тайка ты мая, якая ты пракся́длівая (Крупка, Маз.).

ПРАКУЯ′ЧЫЦЬ *зак.* пракруціць, прапіць. За пяць дней шаснаццаць рублёў пракуя́чыў (Баравікі, Светл.).

ПРАЛЕ′САК (проле́сак) *м.* пералесак. Там во пройдзеш прале́сак, і сразу бор пачнецца (Кароткавічы, Жлоб.); Пройдзеш по проле́ску, а там ужэ блізко (Бялёў, Жытк.).

ПРА′ЛІЦА *ж., тое, што* пра́дка *ў 2 знач.* Дзед, пра́ліцу маю наладзь. Мадзееш ля етай пра́ліцы дзень і ноч (Быч, Карм.).

ПРА′ЛКА *ж., тое, што* прадзе́нніца. У хаце Фядосі заўжды збіраліся пра́лкі (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* пра́дка *ў 1 знач.,* пра́лля, пра́льшчыца.

ПРА′ЛЛЯ *ж., тое, што* прадзе́нніца. Я ткала колісь і прала. Добрая пра́лля была (Бабовічы, Гом.); Раней вечарамі да нас прыходзілі пра́ллі (Заспа, Рэч.+Неглюбка, Ветк.; Холмеч, Рэч.): *Параўн.* пра́дка *ў 1 знач.,* пра́лка, пра́льшчыца.

ПРАЛО′Г *м.* дарога *(мошчаная дошкамі)*. Недалёка ад лесу зрабілі прало̀г. На прало́зе астанавілася машына (Забалацце, Раг.).

ПРАЛУПІ′ЦЦА *зак., перан.* прачнуцца *(рана)*. Чаго ты зараньня пралупі́ўся? (Карма, Добр.).

ПРАЛЫ′СІЦЬ *зак., цясл.* прачасаць. Пралы́сь палена ды адбі шнурам (Засінцы, Ельск.).

ПРА′ЛЬНІК *м.* качалка *(для бялізны)*. Ужэ зусім

сцерліса зубцы ў пра́льніку. Побі трохі полотно пра́льніком (Тураў, Жытк.).

ПРА'ЛЬШЧЫЦА *ж., тое, што* прадзе́нніца. Цяпер у нас мала пра́льшчыц, но некоторые старухі прадуць для сябе (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* пра́дка ў *1 знач.*, пра́лка, пра́лля.

ПРАМАРГА'ЦЬ *зак., тое, што* праваро̀ніць. Глядзі, дзеўка, прамарга́еш, тады локці кусаць будзеш (Чырвоны Маяк, Гом.). *Параўн.* празява́ць.

ПРАМАСЛО'ІНА *ж.* дрэва *(прамаслойнае)*. З прамасло̀іны ўсягда получаецца добры строй (Бялёў, Жытк.+Людзяневічы, Жытк.; Хракавічы, Браг.; Чырвоная Буда, Добр.).

ПРАТУРЫ'ЦЬ *зак., тое, што* празы́рыць. Яго нада і с хаты пратуры́ць (Салтанаўка, Б.-Каш.).

ПРЫКАМЕ'ТА *ж.* прыкмета. Ён верыць у розныя прыкаме́ты (Шалухоўка, Ветк.).

ПРЫКЛЕ'ТАК *м., тое, што* падпаве́цце. У прыклѐтку дровы пасечаныя ляжаць (Холмеч, Рэч.). *Параўн.* по́вяць, по́дпавець, прыкле́тнік.

ПРЫКЛЕ'ТНІК *м., тое, што* падпаве́цце. Прыклѐтнік закрый, коп ніхто не зайшоў туда (Халочча, Чач.); Снапы складалі ў прыкле́тніку (Баравікі, Светл.+ Амельна, Раг.; Марозавічы, Б.-Каш.).

ПРЫКЛЯКА'ЦЬ *незак.* заўважаць, звяртаць увагу. Толя наш спачатку не прыкляка́ў на яе (Бялёў, Жытк.).

ПРЫ'КЛЯЎКА *ж.* зачэпка, падстава. Яму ж абы пры́кляўка каб прыдрацца (Мормаль, Жлоб.).

ПРЫКМЕ'ЦЬ *зак.* набыць. А яна не прыкмѐла тое лякарства (Аравічы, Хойн.).

ПРЫЛА'ВАК *м.* падстаўка. Стань на прыла́вак і дастанеш (Бабовічы, Гом.).

ПРЫЛЁП *м., іран., тое, што* павало̀ка. К цёці Васі пайшоў прылёп (Баравікі, Светл.). *Параўн.* падсаблѧ́ка, прыту́ла.

ПРЫЛЁТНЫ *прым., перан.* падстаўны *(пра дошку пад лятком)*. Пчолы садзяцца на прылётную дошку (Забалацце, Раг.).

ПРЫЛІ'ПНУЦЬ *зак., іран.* пайсці *(у прымы)*. Вунь к адной прыліп, дак паўтара года жыў (Піркі, Браг). *Параўн.* прыста́ць *у 2 знач.*

ПРЫ'САК (прі́сак) *м.* пясок. Яка там картопля віростэ, там жэ одын прі́сок (Грушаўка, Нар.).

ПРЫСКУ'РА *ж., рэл.* просвіра. Прыскýры ляжалі на тарэлцы (Зяньковіна, Карм.).

ПРЫСЛЯДЗІ'ЦЬ *зак.* высачыць. Трэба прыслядзíць за курай, а то яйца губяцца (Кароткавічы, Жлоб.).

ПРЫСЛЯПІ'ЦЦА (прысліпíцца) *зак., перан.* прыстаць, прычапіцца. Чаго ты к дзеўцы прысліпíўся, што табе трэба? (Вітлін, Раг.).

ПРЫСМІХА'ЦЦА *незак.* кпіць, насміхацца. Ё тут жэншчыны, што прысміхáюцца з усіх (Хізы, Ветк.).

ПРЫСТАКА'НІЦЦА *зак., перан.* прывыкнуць, прызвычаіцца. Ён прыстакáніўся так жыць, дык і не хоча ісці на другую работу (Амельна, Раг.).

ПРЫСТА'КІ *толькі мн.* прымы. Пайшоў у прыстáкі (Неглюбка, Ветк.).

ПРЫ'СТАНЬ *ж.* 1. прыстань. У нас тут няма сваёй пры́стані, мелкая рэчка (Хізы, Ветк.); 2. месца *(дзе вяжуць плыты)*. Пры́стань робяць блізка ад дзялянкі (Хізы, Ветк.); На пры́стані вяжуць плыты (Баравікі, Светл.+Бялёў, Жытк.; Забалацце, Раг.; Пярэдзелка, Лоеўск.).

ПРЫСТА'ЎКА *ж.* прыбудова. Да хаты прыбудавалі прыстáўку (Піркі, Браг.). *Параўн.* прыхáтак.

ПРЫСТА'ЦЬ *зак.* 1. стаміцца. Ішла, ішла, набрала багато ягод да і прыстáла (Бялёў, Жытк.); 2. *тое, што* прыліпнуць. Мой Змітрок у вайну прыстáў так да якоісь жонкі ды і не вярнуўся (Крупка, Маз.); Ён да яе прыстáў у прымы (Буйнавічы, Лельч.+ Касцюкоўка, Гом.; Хізы, Ветк.).

ПРЫСТО'Л *м., рэл.* фэст. Хутка прыстóл будзе і ў нашай царкве (Баравое, Лельч.).

ПРЫСТРО'Й *м.* драбіны *(лесвіца)*. На прыстрóі добрэ здымаць яблыка (Бялёў, Жытк.).

ПРЫСТРЫГАВА'ЦЬ *зак., шав.* сфастрыгаваць. Трэбо шчэ прыстрыгавáць скроенае (Старажоўцы, Жытк.).

ПРЫСТРЭ'Т *м.* спалох. Шаптуха прыстрэ́т лячыла (Аравічы, Хойн.+М. Аўцюкі, Калінк.; Н. Гута, Гом.). *Параўн.* пуд II, пужáнне.

ПРЫСУКРАВА'ЦЦА *зак.* паддобрыцца. Ён хутка прысукравáўся да начальства, бо яму трэба выпісаць кірпічу (Заспа, Рэч.).

ПРЫСУ'НУЦЦА *зак., неадабр.* прыцягнуцца. Чаго

іны к нам прысу́нуліся вечарам, спаць нада ўжэ (Цагельня, Раг.). *Параўн.* прычэ́паць.

ПРЫСУ'ХА *ж.* 1. прыгажуня, чараўніца. Ета ж ня дзеўка была, а прысу́ха, хлопцаў табунамі вадзіла (Касцюкоўка, Гом.); 2. сіла *(звышнатуральная).* Як прысу́ха якая прысушыла мяне да яго (Халочча, Чач.); Калісь гаварылі, што вядзьмар на вецяр прысу́ху кідая (Ліпнякі, Лоеўск.+Баравое, Лельч.; Ломыш, Хойн.).

ПРЫСУШЫ'ЦЬ *зак.* прывабіць. Ганна таго хлопца ох як прысушы́ла (Хутар, Светл.).

ПРЫ'СЦЕНЬ *м.* рамка *(да сцяны для снавання кроснаў).* Пры́сцень зрабіла на глухой сцяне (Нісімкавічы, Чач.).

ПРЫСЦЯБНУ'ЦЬ *зак.* прышпіліць, прышыць *(крыху).* Знімай летнік, прысцябну́ трохі хлясцік, а то баўтаецца (Чырвоны Маяк, Гом.).

ПРЫСЦЯЖНЯ'К *м.* конь *(прыпражны).* Да караннога ка́ня прыпрэжаны прысцяжня́к (Насовічы, Добр.).

ПРЫСЫ'РЫЦЬ *зак.* 1. даручыць, прымусіць. Сама жонка пайшла, а мужу прысы́рыла дома рабіць (Бялёў, Жытк.); 2. прыручыць. Вялікого собаку вельмі важко прысы́рыць (там жа).

ПРЫСЯ'ДКА *ж.* прысяданне. Добра мы польку з прыся́дкай танцавалі (Баравікі, Светл.+Бялёў, Жытк.; Марозавічы, Б.-Каш.; Піркі, Браг.; Хізы, Ветк.).

ПРЫТАБА'К *м.* капшук. У дзеда адмысловы прытаба́к (Вуглы, Нар.).

ПРЫТАГА'НІЦЬ *зак.* прынесці, прыцягнуць. Ты глядзі на етага чорта, што ён прытага́ніў (Быч, Карм.). *Параўн.* прытара́ніць, прытура́чыць.

ПРЫТАРАБА'НІЦЬ *зак.* прымчацца, прыехаць. Ён ка мне прытараба́ніў на матацыклі, а ні то што к вам пішком ходзіць (Вітлін, Раг.).

ПРЫТАРА'НІЦЬ *зак., тое, што* прытага́ніць. Прытара́нь ты хоць яблыка з дому харошая, у смак з'есці добра (Вітлін, Раг.). *Параўн.* прытура́чыць.

ПРЫ'ТКА *прысл.* хутка. Ох, не работаецца пры́тка (Неглюбка, Ветк.).

ПРЫТЛЕ'ЛЫ *прым.* спарахнелы. Бачыў у бетонкі прытле́лае бервяно (Бялёў, Жытк.).

ПРЫ'ТНЫ *прым.* спрытны. Які ты пры́тны. Кінь сваю прыткасць, а то дайграешся (Кабанаўка, Жлоб.).

ПРЫТО′П *м.* тупаніна. Як пачнеш польку с прытóпам, аж пол трасецца (Марозавічы, Б.-Каш.+Каротказвічы, Жлоб.).

ПРЫТУ′ГА I *ж.* жэрдка, лата *(у саламянай страсе).* Прытýгі ляжалі так крэпка, што ніякі вецір ні мог атарваць іх (Рудня, Чач).

ПРЫТУ′ГА II *ж.* нястача. Наверна, прытýга прышла, дак босая прыбегла (Быч, Карм.).

ПРЫТУЖА′ЛЬНІК *м.* клін *(у навоі).* Палатно нешта аслабла, замацуй прытужáльнік (Кірава, Жлоб.). *Параўн.* прытýжнік.

ПРЫТУ′ЖНІК *м., тое, што* прытужáльнік. Прытужнік выпаў з навоя (Пярэдзелка, Лоеўск.).

ПРЫТУ′ЛА *ж., тое, што* павалóка. Гэта марфін прытýла пацягнуўся дамоў (Сяўкі, Лоеўск.); На нашай вуліцы сем Васілёў і ўсе прытýлы ў жонак (Хальч, Гом.+ +Хізы, Ветк.). *Параўн.* падсабля́ка, прылéп.

ПРЫТУ′ПВАЦЬ *незак.* тýпаць. Што ты прытýпваеш тут? (Баравікі, Светл.).

ПРЫТУРА′ЧЫЦЬ *зак., тое, што* прытагáніць. І куды ты прытурáчыў гэтае палена, абы толькі на дварэ валялася (Хутар, Светл.). *Параўн.* прытарáніць.

ПРЫ′ХАПКАМ *прысл.* прыхваткамі. Ох, пры́хапкам ты многа і не надзелаеш (Гадзілавічы, Раг.). *Параўн.* пры́хваткам.

ПРЫХА′ТАК (прыхáток) *м., тое, што* прыстáўка. Трэба б прыхáток зробіць (Бялёў, Жытк.+Гарадзец, Раг.; Стаўбун, Ветк.).

ПРЫ′ХВАТКАМ *прысл., тое, што* пры́хапкам. Пры́хваткам кожны дзень ды і зробіш (Тульгавічы, Хойн.+ +Бабовічы, Гом.; Неглюбка, Ветк.).

ПРЫХЛО′ПНУТЫ *прым., тое, што* пацóпаны. А ён прыхлóпнуты ніяк не пойме, што я на яго глядзець не хачу (Хвойнае, Хойн.). *Параўн.* прышалóпкаваты.

ПРЫХЛУ′ПКАВАТЫ *прым.* прысадзісты. Крыша занадта прыхлýпкаватая (Грышын, Ельск.).

ПРЫХО′Д (прыхóт) I *м., рэл.* прыход. У Кашэвічах раней быў вялікі царкоўны прыхóт (Дуброва, Петр.); У гэтом прыхóдзі було неколькі цэркваў (Бялёў, Жытк.+М. Аўцюкі, Калінк.).

ПРЫХО′Д II *м.* прылазнік. Прыдзеш у прыхóд і раздзяваесся (Піркі, Браг.).

ПРЫЦЁ'К *м.* прыток. Наша Брагінка — прыцёк Дняпра (Піркі, Браг.).

ПРЫЦІ'СНУЦЬ *зак., перан.* прымарозіць. Толькі дней тры як прыціснула трохі (Быч, Карм.).

ПРЫЦКАВА'ЦЬ *зак.* нацкаваць. Прыцкавалі гэтага сабаку, ён і ўкусіў (Грушаўка, Добр.).

ПРЫЦЫГА'Р *м.* партсігар. Бацька купіў сабе прыцыгар (Вуглы, Нар.).

ПРЫЦЯРПЕ'ЦЦА *зак.* прывыкнуць, прызвычаіцца. Вот так і пашла за яго, думала прыцерпіцца, да во бачыш як палучылась (Чырвоны Маяк, Гом.).

ПРЫЧАПУРЫ'ЦЦА (прычыпурыцца) *зак., тое, што* падабрацца. Прычапурыся хоць трохі, чалавек жа прыдзя (Ст. Рудня, Жлоб.); Дзеўкі ў клуб так прычыпураюцца (Улукаўе, Гом.).

ПРЫЧА'Р *м.* зелле *(магічнае)*. Калі му булі маладыя, то еты прычар, людзі казалі, трэба було браць, коб цябе той любіў, кого ты хочэш (Падворак, Лельч.).

ПРЫЧО'ЛАК *м.* напуск, стрэшка. У старых хлявах, накрытых саломай, ёсць прычолак. Замест франтона ў хляве дзелаем прычолак (Дубраўка, Добр.).

ПРЫЧУ'ЙВАННЕ *н.* чуткасць. У яго на звера добрае прычуйванне (Баравікі, Светл.).

ПРЫЧЫНДА'ЛЛЕ *н., зборн.* інструменты. Забяры сваё прычындалле (Навасёлкі, Петр.).

ПРЫЧЫ'ННЫ *прым.* зменлівы, непастаянны. Ой, які ж ты прычынны (Вуглы, Нар.).

ПРЫЧЫ'ТЫВАЦЬ (прычытуваць) *незак.* галасіць. Прычытуваць у нас не ўсе ўмеюць (Каравацічы, Рэч.).

ПРЫЧЭ'ЛЛЕ I *н.* прылік. Ён так работая — абы для прычэлля (Быч, Карм.).

ПРЫЧЭ'ЛЛЕ II *н., тое, што* пералінка. Як бувала вышыю прычэлле, ды на вячоркі — усе хлопцы мае (Вышамір, Рэч.). *Параўн.* пярэтачка.

ПРЫЧЭ'ПАЦЬ *зак., тое, што* прысунуцца. Я чуць ужэ прычэпаў (Амельна, Раг.).

ПРЫШАЛО'ПКАВАТЫ *прым., тое, што* пацопаны. Вось ужо гэты Васіль прышалопкаваты (Хвойнае, Хойн.).

ПРЫ'ШВА I *ж., ткацк.* сувой. Поўную прышву палатна наткала (Грушаўка, Нар.).

ПРЫ'ШВА II *ж., шав.* перадок *(прышыты да старой халявы)*. К сопожкам твоім трэба новую прышву

прышыць (Бялёў, Жытк.); Пры́швы як прышыеш, дак начэ і чобаты новые (Кірава, Браг+Багуцічы, Ельск.; Раманавічы, Гом.; Харомцы, Акц.). *Параўн.* прышы́ва.

ПРЫШВАРТАВА́ЦЦА *зак., перан.* уладкавацца. Я прышвартава́ўся ў іё добра і буду жыць (Крыўск, Б.-Каш.).

ПРЫШПІ́ЛЬКА (прышпы́лька) *ж., тое, што* падзе́ржка. Не зашпільвай прышпы́лькай, а луччай прышый кузік (Чырвоная Буда, Гом.); Ганніна дачка зрабіла прышпількі (Нісімкавічы, Чач.).

ПРЫШЧАПІ́ЦЬ *зак.* 1. прышчапіць *(яблыню)*. Асталася прышчапіць толькі адну яблыню (Барталамееўка, Ветк.); 2. прыбраць, прывесці *(у парадак)*. Прышчэпі хоць косы трохі, а то ослепнеш (Грабава, Жытк.).

ПРЫ́ШЧЫК *м., памянш. да* прышч. Пры́шчыкі пойдуць пазней (Хізы, Ветк.).

ПРЫШЫ́ВА *ж., тое, што* пры́шва II. Прышы́вы з гэтымі халявамі знасіў (Камунар, Б.-Каш.).

ПРЫШЫКАВА́НЫ *дзеепрым.* падрыхтаваны, згатаваны. Прышыкава́на мне чаго паесць, бо пара на работу? (Буйнавічы, Лельч.).

ПРЫШЫКАВА́ЦЬ *зак.* падрыхтаваць. Мне матуля прышыкава́ла новую сукенку на свята (Навінкі, Маз.).

ПРЫШЫ́ЎКА *ж., тое, што* по́яс III. Блізка каля скрыжавання кроквы звязаны прышы́ўкамі (Бабовічы, Гом.).

ПРЫЯ́ЦЬ *незак.* спрыяць. Як вы нам прыя́іця, так і мы вам (Грушаўка, Добр.).

ПРЭ́ГЦІ (прэгць) *незак., тое, што* прагці́. Мы ўчора ўбілі кабана да праглі́ сала (Навінкі, Калінк.); Доня, трэба спрэ́гці сала, бо пара ўжэ есці (Амелькаўшчына, Хойн.+Грушаўка, Добр.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* пра́жыць, прэжць.

ПРЭЖЦЬ *незак., тое, што* прагці́. Паставіла сырое сала, прэжць ужэ не было калі (Хізы, Ветк.). *Параўн.* пра́жыць, прэ́гці.

ПРЭ́ЛІШЧА *н., тое, што* плаў I. Гэта прэ́лішча, топкае месца. Не лезь туды (Дубраўка, Добр.).

ПРЭМ *прысл.* сапраўды. Я прэм на рабоці ўчора ні была (Башыца, Б.-Каш.).

ПРЭМІРО́ЎВАЦЬ *незак.* прэміраваць. Заўтра будуць прэміро̀ўваць даярак (Пясчанікі, Жытк.).

ПРЭНТ *м.* шворан. Прэ́нтам выбіваюць патроны са стрэльбы (Хвойнае, Хойн.).

ПРЭ′РАХ *м., тое, што* праёх. Прэ́рах рашпіліў і хо-дзя (Шылавічы, Чач.).

ПРЭ′СНІК *м.* праснак. Маці мая шчэ пекла прэ́снікі (Ст. Рудня, Жлоб.).

ПРЭ′СНІЦА *ж.* боршч *(прэсны)*. Я сягонні прэ́сніцу ела (Аравічы, Хойн.).

ПТА′ХА *ж.* птушка. Паляцела некая пта́ха (Дзяржынск, Лельч.); Вунь паляцелі пта́хі (Багуцічы, Ельск.). *Параўн,* пта́шка, птух.

ПТА′ШКА *ж., тое, што* пта́ха. Іду я ета па лесе, а пта́шка шусь пад ногі (Вялікае Поле, Петр.); Вунё пта́шкі на плот селі... пеюць (Марозавічы, Б.-Каш.); На наша балота прыляцела многа пта́шак (Лярцы, Светл.). *Параўн.* птух.

ПТУХ *м., тое што* пта́ха. Быў птух ды ўляцеў (Баравікі, Светл.). *Параўн.* пта́шка.

ПУ′ГА I *ж.* пуга. Вазьмі пу́гу, паедзем на поле араць (Замосце, Калінк.); Не білі нікога пу́гай. Бацька ў нас харошы (Хізы, Ветк.).

ПУ′ГА II *ж.* адростак *(агурка, гарбуза)*. Гуркі толькі пу́гі пусцілі, а лісцяў няма (Сямёнаўка, Рэч.+Даманавічы, Калінк.).

ПУ′ГА III *ж.* маланка, разрад. У буру вялікая пу́га была на небе (Піркі, Браг.).

ПУ′ГАЎКА *ж.* 1. гузік. Ну і дзеці, дзе толькі яны і рвуць гэтыя пу́гаўкі (Рудня, Чач.); Купі ў лаўцы мне шэсць пу́гавак у пальто (Сяўкі, Лоеўск.+ Асінаўка, Чач., Барталамееўка, Ветк.); 2. кнопка *(у баяне)*. Ён добра перабіраў на пу́гаўках (Марозавічы, Б.-Каш.).

ПУГУ′ТАЦЬ *незак.* буркаваць *(пра галубоў)*. Голуб пугу́ча. Галубы ў нас на крышы пугу́чуць кажды раз (Навінкі, Калінк.).

ПУД I *м.* вага *(16 кілаграм)*. Яна ў мяне пазычыла пуд жыта (Пучын, Браг.); Купіла ў людзей два пуды́ бульбы (Багуцічы, Ельск.); Ён важыў сем пудо̀ў (Бярозкі, Браг.). *Параўн.* пудаві́к, пудо́вік I.

ПУД II *м., тое, што* прыстрэ́т. У яго пуд, кажа, жывот боліць (Дарашэвічы, Петр.); Ад пу́ду я чуць не памерла (Хутар, Светл.). *Параўн.* пужа́нне.

ПУД III *прыназ.* пад. Лезь пуд лаву і маўчы, не знойдзе (Бобрык, Петр.).

ПУДАВІ′К *м., тое, што* пуд I. Мы са сваёй палоскі сабіралі па дваццаць пудавікòў буракоў (Ларышчава, Добр.). *Параўн.* пудóвік I.

ПУ′ДАЛА *н.* пудзіла. Сямён паставіў страшэннае пýдала ў гародзе (В. Нямкі, Ветк.). *Параўн.* пужáйла *ў 1 знач.*

ПУДО′ВІК I *м.,тое, што* пуд I. Цэлы пудóвік бульбы прынёс (Хізы, Ветк.). *Параўн.* пудавік.

ПУДО′ВІК II *м.* бязмен. Прынясі пудòвік, будзем муку важыць (Холмеч, Рэч.).

ПУДО′ЎКА *ж.* футболка. Куды пудòўку палажыла? (Славань, Светл.).

ПУ′ДРА *ж.* вазон *(кветка)*. Пýдры такія высокія, цвітуць такім розавым, белым цветам (Аравічы, Хойн.).

ПУЖА′ЙЛА (пужáйло) *н.* 1. *тое, што* пýдала. Сярод проса стаяло пужáйло (Вуглы, Нар.+Грушаўка, Добр.); 2. *перан.* чалавек *(нелюдзімы)*. Нэ чоловэк, а пужáйло зробілось (Грушаўка, Нар.).

ПУЖА′К *м., тое, што* падсáчык II. Учора ўпаў і ўвесь пужáк вымазаў (Тульгавічы, Хойн.+Грушаўка, Нар.). *Параўн.* паржáк.

ПУЖА′ННЕ *м., тое, што* прыстрэ́т. Вельмі моташна мне стала ад пужáння (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* пуд II.

ПУ′ЗА *н.* 1. жывот. Пýза здаровае, жрэ што запапала (Хізы, Ветк.); Хлопае па пýзу кулаком (Рафалаў, Браг.+Халочча, Чач.; Чацвярня, Жлоб.); 2. губа, нараст. Глядзі, якое пýза на бярозі вырасла (Суткоў, Лоеўск.); 3. закругленне *(ляза)*. Ты не ўмееш тачыць, бач якое пýза на тапары вытачыў (Чырвоная Буда, Добр.).

ПУЗА′ТАЯ *прым.* цяжарная. Вользіна нявестка пузáтая ўжо (Зенькавіна, Карм.+Дубраўка, Добр.).

ПУЗА′Ч *м.* чалавек *(пузаты)*. Пузачý таму цяжка і сагнуцца (Петравічы, Раг.).

ПУЗЫРО′К I *м.* агурочак. На маёй націне пузыркí ўжо з'явіліся (Казялужжа, Хойн.). *Параўн.* пýплік *у 3 знач.,* пуплíнак, пупóнчык.

ПУЗЫРО′К II *м., тое, што* пóхмарак. Не, з таго пузыркá дажджу не будзе (Быч, Карм.).

ПУ′КАНКА *ж., тое, што* пáданак. Пýканкі збірай колькі хочэш, а на дзерава не лезь (Казацкія Балсуны, Ветк.).

ПУЛЯН′Я (пуленя́, пыленя́, пыляня́) *н., тое, што*

піскляня́. На агародзе бегае яшчэ адно пуляня́ (Сяўкі, Лоеўск.); Сённі мае пуляня́ты ўвесь дзень галодные (Ручаёўка, Лоеўск.); Сядзела квактуха, нанеслася і вувела пуленя́та (Аравічы, Хойн.); Калі курыца схаваецца ў кубле, яна выводзіць па шаснаццаць пуленя́т (Піркі, Браг.); Пуленя́там я ўжэ дала (Дзенісовічы, Калінк.); Сёлета ў мене аж дзве квактухі водзяць пыленят (Дарашэвічы, Петр.); Пыляня́ты разбегліся ад кураводкі (Халочча, Чач.); Квактуха кінула вадзіць пыляня́т (Славань, Светл.); Вунь дзетуха з пыляня́тамі пабрыла на гарод (Ямпаль, Рэч.+Баравікі, Светл.; В. Ляда, Раг.; Лядцы, Светл.; Навінкі, Калінк.). *Парайн.* пы́лька.

ПУЛЯНЯ́ТКА (пыляня́тка) *н., памянш. да* пуляня́. Як вылупяцца пуляня́ткі з яічак, ды ўсе такіе жоўценькіе, пушысценькіе (Аравічы, Хойн.); Па двары бегла маленькае пыляня́тка. Маці пакарміла пыляня́так (Н. Гута, Гом.).

ПУЛЯНЯ́ТНІЦА *ж.* квактуха. Мая пуляня́тніца дзета ходзіць з пулянятамі (Ручаёўка, Лоеўск.).

ПУНТ *м.* медпункт. Пойду на пунт, бо галава дужа болыт (Грушаўка, Нар.).

ПУ́НЯ *ж.* пуня *(для сена)*. Мабуць, пу́ня була цяклівая, бо ў ёй сена пагніло (Хутар, Светл.); У гэтай пу́ні клалі на зіму сена для ската (Ларышчава, Добр.); Сена нанасілі ў пу́ню (Р. Шлягіна, Ветк.);/хлеў. Бяжы быстрэй, Аўхім, зачыні карову ў пу́ню (Быч, Карм.); За пу́няй былі каровы (Запясочнае, Маз.); Выцягні карыта з пу́ні, а то свіння аберне (Хальч, Ветк.+ Асінаўка, Чач.; Пабеда, Ветк.).

ПУПА́ХА *ж., бат.* пупышка. У канцы вясны ўжо вялікае пупа́хі на дзераве (Дарашэвічы, Петр.). *Парайн.* пу́плік *у 2 знач.*

ПУ́ПЁЛ *м.* галоўка, кветка *(расліны)*. У чысьцяка красівы пу́пёл (Марозавічы, Б.-Каш.). *Парайн.* пу́плік *у 4 знач.,* пу́плух.

ПУПІ́ННІК *м., зборн., бат.* купена. Еты пупі́ннік ат жывата добра памагая (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ПУПЛЁ́НАК *м., бат.* завязь. Багата пуплё́нкаў на гурцах (Баравікі, Светл.). *Парайн.* пу́плік *у 3 знач.,* пуплі́нак, пупо́нчык.

ПУ́ПЛІК *м.* 1. выступ *(невялікі)*. На шапцы пу́плік е (Пясчанікі, Жытк.+ Гарадзец, Раг.); 2. *тое, што* пу-

па́ха. А шыляга ўжэ ўся ў пу́пліках (Тульгавічы, Хойн.+Саўгасная, Б.-Каш.). *Параўн.* пупы́шка I; 3. *тое, што* пузыро́к I. Насця, у нашых гурках пу́плікі ўжо ёсцека (Стаўбун, Ветк.+ Забалацце, Раг.; Залессе, Чач.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* пу́плік, пуплі́нак, пупо́нчык; 4. *тое, што* пу́пёл. Маленькія гуркі заўсягды з пу́плікамі (Багданавічы, Карм.). *Параўн.* пу́плух.

ПУПЛІ'НАК *м., тое, што* пузыро́к I. Не лезь па гурэшніку, там толькі шчэ пуплі́нкі (Капараўка, Рэч.). *Параўн.* пу́плік *у 3 знач.,* пупо́нчык.

ПУ'ПЛІЧАК *м., памянш. да* пу́плік *у 3 знач.* Калі атпаў цвяток, то астаецца пу́плічак (Дубраўка, Добр.).

ПУ'ПЛУХ *м., тое, што* пу́пёл. Ужо шыпоўнік наш на пу́плухах (Хальч, Ветк.). *Параўн.* пу́плік *у 4 знач.*

ПУПО'К *м.* ручка *(у кассі)*. Калі пупо́к няправільна прыбіты, то каса няёмкая (Быч, Карм.).

ПУПО'НЧЫК *м., тое, што* пузыро́к I. Пупо̀нчык пасля вырасце ў вялікі агурок (Піркі, Браг.); Во зараз ужо ё пупо̀нчыкі на градках (Марозавічы, Б.-Каш.+ + Даманавічы, Калінк.; Казялужжа, Хойн.). *Параўн.* пу́плік *у 3 знач.,* пуплі́нак.

ПУПЫ'ШКА (пупу́шка) I *ж., бат., тое, што* пупа́ха. Бярозавых пупы́шак назбірала ў гарелку. Добрая зяллё будзя (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); Нешто поўліяло на дзераво, усе пупу́шкі попадалі (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* пу́плік *у 2 знач.*

ПУПЫ'ШКА II *ж.* мякіш, кончык *(пальца)*. У яе баляць пупы́шкі пальцаў (Ваявода, Гом.). *Параўн.* пу́чка, пу́шка V.

ПУ'РА *ж.* мера *(роўная 3 пудам)*. Ад адной пу́ры пакупнік атказаўся (Івакі, Добр.); У пана больш не заработаіш, як пу́ру жыта (Норкаўшчына, Карм.).

ПУРА'Й (пурэ́й) *м., бат.* пырнік. Паўнось на разору пура́й (Пучын, Браг.); Пурэ́й — такая ўрэдная трава, паганае зелле (Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* пыра́й.

ПУРА'ЦЬ *незак.* кідаць. Пурні́ мне праз плот яблака (Барталамееўка, Ветк.).

ПУ'РХАЎКА *ж., бат.* суквецце *(рагозы)*. Пу́рхавак з балота пананосіў (Жлобін). *Параўн.* пурхо́ўка.

ПУРХО'ЎКА *ж., тое, што* пу́рхаўка. Калі хто бедны, то пурхо́ўкі етыя ў падушку абрывалі (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* пухо́ўка *ў 2 знач.*

ПУСТАБРЭ'Х *м.* пустамеля, пустаслоў. Свет не ба-

чыў такога пустобрэ́ха, нагаворыць абы чого (Бялёў, Жытк.+Багданавічы, Карм.). *Парайн.* пустамало́т.

ПУСТАГЛІ′НІШЧА (пустахлі́нішча) *н.* суглінак, зямля *(пустая, глінiстая)*. У лесе многа рознага пустахлі́нішча (Палессе, Чач.).

ПУСТАДО′МЫ *м.* пустадомак. Зараз багата маладых пустадо́мых. Ім бы танцы ды кіно (Казацкія Балсуны, Ветк.). *Парайн.* пустаду́мак.

ПУСТАДУ′МАК (пустоду́мок) *м., тое, што* пустадо́мы. От ужо ўрадзіўся пустоду́мок (Аравічы, Хойн.).

ПУСТАЛЬГА′ I *ж., заал.* пустальга. Пустальга́ як той коршун, дажэ мыш можэ з'есці (Вялікае Поле, Петр.+Навінкі, Калінк.; Ямпаль, Рэч.).

ПУСТАЛЬГА′ II *ж.* справа *(пустая)*. Ён толькі пустальго́й займаецца (В. Нямкі, Ветк.).

ПУСТАМАЛО′Т *м., тое, што* пустабрэ́х. Вось еты пустамало́т, абдурыў ўсіх (Быч, Карм.+Васільеўка, Гом.).

ПУ′СТАШ *ж.* месца *(вытаптанае)*. За гумном коні вытапталі пу́сташ (Дубраўка, Добр.).

ПУСТЫ′ I *прым.* пусты. Пашлі збіраць мёд, а рамка пуста́я. (Пабеда, Ветк.).

ПУСТЫ′ II *прым.* скваnны. Он мужык пусты́. Нікому нічого ніколі не дасць (Бялёў, Жытк.).

ПУСТЫ′ III *прым.* худы. Ох, мая ты дзеўка, яка ты пуста́я (Дарашэвічы, Петр.).

ПУСТЫ′РНІК *м.* пустка. У нас і добрая зямля, і пусты́рнікі (Баравікі, Светл.).

ПУСЦЕ′НЬКІ *прым., памянш. да* пусты́ III. А. Грышына жонка такая пусце́нькая, страшна глядзець на яе (Крупка, Запясочча, Маз.).

ПУ′ТА (пу́то) *н., тое, што* пачарэ́жня. Сёння наша пу́то пасці кароў, трэба рано ўставаць (Бялёў, Жытк.).

ПУ′ТКА *н., шав.* пятля. Здзелай трохі шэрэйшае пу́тка (Чырвоная Буда, Добр.). *Парайн.* пу́цца *ў 2 знач.*

ПУ′ТАЛЬ (пы́таль) *м.* пыцель. Запусці гэтае зерне ў пу́таль (Бялёў, Жытк.); Пасля пы́таля мука становіцца мяккай (Холмеч, Рэч.).

ПУ′ТАНКА *ж.* сетка *(рыбалоўная)*. Бяры пу́танку, ёю больш наловіш (Карынеўка, Гом.); Рыбу лепш лавіць пу́танкай (Грушаўка, Нар.).

ПУТНЕ′Й *прысл.* зручней, лепш. Абутаю путне́й жа ііць (Палессе, Чач.).

ПУТНІ′НА *ж.* гультайка. Ну і путніна ты расцеш, плацця сабе ні памыяш (Шылавічы, Чач.).

ПУ′ТНЫ *прым.* разумны, развважлівы. У Байкача ўсе хлопцы пу́тныя (Мормаль, Жлоб.).

ПУХ I *м.* 1. пер'е *(гусінае)*. Насыплю ў насыпку гусінага пу́ху (Раманавічы, Гом.); 2. поўсць. На сабаку мяккі пух (Багуцічы, Ельск.).

ПУХ II *м., тое, што* пасе́і. Ад жыта пух ляціць ва ўсе бакі (Хізы, Ветк.).

ПУ′ХА *ж.* ніжняя частка *(яйка)*. У моцным яйцы і пу́ха крэпкая (Дубраўка, Добр.); Вярні яйцо пу́хаю (Баравікі, Светл.). *Параўн.* пуха́, пу́шка IV, пя́тка *ў 2 знач.*

ПУХА′ *ж., тое, што* пу́ха. Нос выдзяржаў, а пуха́ трэснула (Запясочча, Жытк.); Я пачынаю з пухі́ біць яйцэ. Ну, стаў пуху́, я буду лупіць (Бялёў, Жытк.); У пусе светлая частка, кружок (Марозавічы, Б.-Каш.+ + Бабовічы, Гом.; Завайць, Нар.; Кабанаўка, Каротказічы, Жлоб.; Піркі, Браг.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* пу́шка IV, пя́тка *ў 2 знач.*

ПУХЛЯ′К *м., заал.* сініца. Пухля́к селіцца каля вадзіцы (Баравікі, Светл.+Багуцічы, Ельск.; Ямпаль, Рэч.).

ПУ′ХНУЦЬ *незак., іран.* спаць. Яна ж у той хаце пухне (Баравікі, Светл.).

ПУХО′ЎКА *ж.* 1. *бат.* порхаўка. Растопчаш пухо́ўку, дак і сам вымажашся (Дубраўка, Добр.). *Параўн.* пушо́нка; 2. *тое, што* пурхаўка. Пухо̀вак багата еты год на рагозі (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.). *Параўн.* пу́шка IV.

ПУЦ *м.* калун. Пуц тарчаў у дровах (Антонаў, Ельск.); Раскалі пу́цам тоўстыя круглякі (Шуты, Ельск.).

ПУЦЕ′ЛЬ *м.* кісель *(малочны)*. Пуце́ль заваруюць на малацэ без вады (Н.-Мазалоў, Жлоб.).

ПУЦІ′НКА (пуці́нька) *ж., тое, што* пе́панка. Увосень як паспее пуці́нка, дык сады трашчаць (Гармавічы, Жлоб.); Пуці́нкі толькі ўлежаныя смачныя (Саўгасная, Б.-Каш.); Шахранку бацька возіць на базар, а пуці́ньку мы ядзім самі (Грушаўка, Нар.+Р.-Бурыцкая, Лоеўск.).

ПУ′ЦЦА *н.* 1. вешалка *(у паліто)*. У цібе сённі парвалася пу́цца, прышый. Не сорамна, пу́цца сам не можа прышыць (Асінаўка, Чач.); 2. *тое, што* пу́тца *ў 2*

*знач.* Пӯццы робяць для ўсіх гузікаў (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* пӯтка.

ПУЦЯ'ШЧЫ *прым.* добры. Як зіма пуця́шчая, дык мароз дзяржыцца доўга (Быч, Карм.).

ПУ'ЧКА *ж., тое, што* пупы́шка II. Возьмі ў пӯчкі солі і ўсып у горшчок (Тураў, Жытк.+ Грушаўка, Нар.). *Параўн.* пӯшка V.

ПУ'ЧЧА *зборн.* 1. аер. З пӯчча нядобрае сена (Марозавічы, Б.-Каш.); 2. сцябло *(шчаўя).* Шчавеля зусім няма, адно пӯчча (там жа); Навошта ты наскуб шчаўлю з пӯччам (Капараўка, Рэч.); На пӯччы шчаўя багата насення (Забалацце, Раг.); Пайшоў шчавель у пӯччы (Гармавічы, Жлоб.+ Баравікі, Светл.; Піркі, Браг.; Ст. Высокае, Ельск.; Хізы, Ветк.; Холмеч, Рэч.).

ПУ'ШАЧКА *ж., памянш. да* пӯшка I. У мацяры порадок буў: у адной пӯшаццы ніткі, у другой — кузікі, у трэцёй голкі (Пясчанікі, Жытк.).

ПУ'ШКА I *ж.* каробка. На стале стаяла прыгожая пӯшка с-пад цукеркаў (Антонаў, Ельск.); Дайце мне пӯшку спічак (Загор'е, Б.-Каш.); У маёй дзеўкі заўсёды валяюцца пӯшкі з пудрай (Заспа, Рэч.); Я назбіраю ўсякай травы, раскладу па пӯшках (Кароткавічы, Жлоб.+Валокі, Хойн.; Хізы, Ветк.; Ямпаль, Рэч.).

ПУ'ШКА II *ж., бат.* бутон. На асату ўжэ пӯшкі паспелі (Бабовічы, Гом.).

ПУ'ШКА III *ж.* костачка *(на пальцы).* Пӯшка апухла ў яго (Баравікі, Светл.); Я збіла дзве пӯшкі на руцэ (Хвойнае, Хойн.).

ПУ'ШКА IV *ж., бат., тое, што* пухо̀ўка *ў 1 знач.* Растуць пӯшкі на мурагу, а з іх ідзе пыл (Піркі, Браг.+ + Даманавічы, Калінк.; Грушаўка, Нар.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* пушо́нка.

ПУ'ШКА V *ж., тое, што* пупы́шка II. Парэзала пӯшку пальца (Махнавічы, Маз.); Нешта пӯшкі на пальцах дужа баляць (Багданавічы, Карм.+ Багуцічы, Ельск., Дарашэвічы, Петр.). *Параўн.* пӯчка.

ПУ'ШКА VI *ж., тое, што* пӯха. Яйцо ў пӯшцы слабое (Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* пӯха, пя́тка *ў 2 знач.*

ПУ'ШКА VII *ж.* шклянка. Прывёз дроў, дык яму далі пӯшку гарэлкі (Піркі, Браг.).

ПУШО'НКА *ж., тое, што* пухо̀ўка *ў 1 знач.* Ударыш нагой у пушо́нку, а аттуль нібы пух (Хізы, Ветк). *Параўн.* пушка IV.

ПУ'ШЧАВЫ *прым. да* пушча. Пу́шчавы маладняк зашумеў на высечанай палянцы (Баравікі, Светл.).

ПХАНУ'ЦЬ *зак.* штурхнуць. Як пхану́лі, дык я й паехала ўніз (Піркі, Браг.). *Парайн.* пхнуць.

ПХА'ЦЦА *незак.* штурхацца. Хваціць вам, дзеці, пха́цца (Ручаёўка, Лоеўск.).

ПХНУЦЬ *зак., тое, што* пхану́ць. Пхнуць у плечы, што б я быстрэй ішоў (Ручаёўка, Лоеўск.); Ідзі адсюль, хлопчэ, бо як пхну, дак ногі задзерэш (Холмеч, Рэч.).

ПЧАЛЬНІ'К *м.* пчаляр. Мой бацька трэці год пчальніко́м (Грушаўка, Добр.).

ПЧАЛЯ'РНЯ *ж.* пчальнік. У яго вялікая пчаля́рня летась была (Гарадзец, Раг.+Насовічы, Добр.).

ПШАНІ'НІК *м.* іржышча *(пшанічнае)*. Ужо і пшанінік перааралі сённі (Дзям'янкі, Добр.). *Парайн.* пшанічнішча, пшані́чышча, пшані́шча.

ПШАНІ'ЧНІШЧА (пшані́шнішча, пшэні́чнішчэ) *н., тое, што* пшанінік. Трактары аралі пшані́чнішча (Пагоннае, Хойн.); Злажылі снапы на пшані́чнішчы (Неглюбка, Ветк.); На пшані́чнішчы лён добрэ росце (Вераснііца, Жытк.+Бывалкі, Рэч.; Гармавічы, Жлоб.; Ліцвінавічы, Карм.). *Парайн.* пшані́чышча, пшані́шча.

ПШАНІ'ЧЫШЧА *н., тое, што* пшанінік. Узаралі пшані́чышча і пасеялі турнепс (Ст. Буда, Б.-Каш.); На пшані́чышчы пожня такая нізкая (Баравікі, Светл.+ + Бабовічы, Гом.). *Парайн.* пшані́чнішча, пшані́шча.

ПШАНІ'ШНІК (пшэні́шнік) *м.* перапечка, праснак *(з пшанічнай мукі)*. Калісь рады былі жытнікам, а цепераka етыя дзеці распанелі і пшэні́шнікоў не хочуць есці (Заходы, Лельч.).

ПШАНІ'ШЧА *н., тое, што* пшанінік. На пшані́шчы каровы пасуцца (Чкалава, Гом.). *Парайн.* пшані́чнішча, пшані́чышча.

ПШАНЯ'НЫ *прым.* прасяны. Даўно ўжэ пшаня́ны суп не варылі (Бялёў, Жытк.); У нас у сям'е ўсе пшаня́ную кашу любяць (Насовічы, Добр.+Багуцічы, Ельск.; Дзям'янкі, Добр.).

ПШО'НКА (пшы́нка) *ж.* 1. крупы *(прасяныя)*. Як добрае проса, дык і пшы́нкі багата (Кароткавічы, Жлоб.); 2. каша *(з проса)*. На другоя прынесла гаршчок пшо̀нкі (Іванаўка, Хойн.).

ПШЭ'ЙКА *ж.* карова. Ганна, выганяй сваю пшэ́йку

з хлява (Бялёў, Жытк.+Багуцічы, Ельск.; Дарашэвічы, Петр.).

ПЫ'ЖМА *ж., бат.* крываўнік. Пы́жма горкая, лісты ў яе лапычкамі (Хізы, Ветк.); З пы́жмы лякарства добрае робяць (Ручаёўка, Лоеўск.+Забалацце, Раг.; Саўгасная, Б.-Каш.; Холмеч, Рэч.).

ПЫЛА'НКА *ж., тое, што* пух II. Калі про́са прасявалі, то ляцелі пыла́нкі (Любань, Б.-Каш.).

ПЫЛЕ'Ц *м.* пылок. Над ліпай кружацца пчолы і збіраюць пыле́ц (Астрагляды, Браг.+Н. Дуброва, Акц.). *Парайн.* пыльца́, пярга́ *ў 1 знач.*

ПЫ'ЛЬКА *ж., тое, што* піскляня. Усе пы́лькі елі добра, толькі адна не ўмела (Белы Пераезд, Петр.). *Парайн.* пуляня́.

ПЫЛЬЦА' *ж., тое, што* пыле́ц. Пчолы з кветак збіраюць пыльцу́ (Пабеда, Ветк.+Піркі, Браг.). *Парайн.* пярга́ *ў 1 знач.*

ПЫЛЬЧА'К *м.* лапка *(у пчалы)*. На абножцы і пыльчаку́ відаць пылінкі (Багданавічы, Карм.).

ПЫЛЯ'КА *зборн.* пыл. Машына пройдзе — такая пыля́ка, што свету ня відна (Дубраўка, Добр.); Ну і пыля́ку падняли каровы (Бялёў, Жытк.).

ПЫРА'Й *м., тое, што* пура́й (пурэ́й). Пыра́й расце на полі і на градах. Калі не выпаліш ад пыра́ю бульбу, дык не парасце (Хізы, Ветк.); Настойка пыраю́ прымаецца ад хворых почак (Саўгасная, Б.-Каш.+Бабовічы, Гом.; Баравікі, Светл.; Дубраўка, Добр.; Пярэдзелка, Р.-Бурыцкая, Лоеўск.; Холмеч, Рэч.).

ПЫРСА' *ж., тое, што* пілавіны. Калі піліш, дык астаецца паміж зуб'ямі пырса́ (Марозавічы, Б.-Каш.); На пілараме ляжала шмат пырсы́ (Майскае, Жлоб.). *Парайн.* пірса.

ПЫ'СА (пу́са) *ж.* морда. У нашай каровы пы́са чорная (Патапаўка, Б.-Каш.); Падзяржы цяля за пу́су, а я пакармлю (Навінкі, Калінк.+Марозавічы, Б.-Каш.; Неглюбка, Ветк.; Холмеч, Ямпаль, Рэч.).

ПЫТЛЁ'ЎКА (пятлёўка, пітлёўка) *ж.* мука *(пытляваная)*. Пятлёўку ў нас не вельмі любілі, з яе пяклі толькі хлеб (Баравікі, Светл.); Абдзярэш на камнях, а тады мелеш. Пітлёўка палучаецца (Кароткавічы, Жлоб.); З пазалетась ё трохі там пітлёўкі, бабка шкрабе на блінцы (там жа); Мой чалавек такой добрай піт-

ле́ўкі прывёз (Валахоўшчына, Браг.); Сітны хлеб з пітле́ўкі пяком тады (Кароткавічы, Жлоб.).

ПЫТЛЕ́'ЎШЧЫК (пятле́ўшчык) *м.* мельнік *(які пытлюе муку)*. Пятле́ўшчык цэлы дзень пытляваў нам муку (Баравікі, Светл.). *Параўн.* пытля́р.

ПЫТЛЯВА'НЫ (пітле́ваны, пітлява́ны, пятле́ваны) *прым., тое, што* піклява́ны. Пітлява́ны хлеб січас возюць у магазін (Башыца, Чач); Цяпер папанелі: пітле́ванага хлеба ні ядзім (Заспа, Рэч); Бацька прывёз цэлы мяшок пятле́ванай мукі (Багуцічы, Ельск.+Залессе, Чач.; Любань, Б.-Каш.).

ПЫТЛЯ'Р (пітля́р, путля́р) *м., тое, што* пытле́ўшчык (пятле́ўшчык). Калісь мой чалавек буў пытляро̀м, і к яму прывозілі пшаніцу (Заспа, Рэч.); Павязе пакойны дзед і пітлюе. Добры пітля́р буў (Кароткавічы, Жлоб.); Путля́р з мельнікам пошлі на мельніцу (Бялёў, Жытк.).

ПЭ'МКНУЦЬ *зак., тое, што* пекану́ць. На дварэ Іван добра пэ́мкнуў Валодзю (Антонаў, Ельск.). *Параўн.* пілягну́ць, пля́снуць, пэ́рнуць.

ПЭ'ПІНКА *ж., сад.* пе́пін. Знімаюць з ябліны пэ́пінкі і кладуць, каб трохі паляжалі (Саўгасная, Б.-Каш.).

ПЭ'РНУЦЬ *зак., тое, што* пекану́ць. Ён табе добра пэ́рнуў ціпер (Востраў, Раг.). *Параўн.* пілягну́ць, пля́снуць, пэ́мкнуць.

ПЯВЕ'Ц (певе́ц) *м., заал.* журавель. Вясна блізко, бо пяўцы́ прыляцелі ўжэ (Камаровічы, Петр.); Вунь ужо і пеўцы́ адлятаюць (Макарычы, Петр.).

ПЯВУ'Н *м.* 1. певень. Раненько ак запяе пяву́н, дак сразу збудзіць (Дарашэвічы, Петр.); 2. *тое, што* пе́сельнік. Ну і пяву́н жа ён буў (Баравікі, Светл.+Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* пясе́льнік.

ПЯВУНЕ'Ц *м., заал.* дрозд. Мы чулі сёння песні пявунца́ (Ямпаль, Рэч.).

ПЯВУ'ННЯ *ж., тое, што* пе́сельніца. Она робіць пяву́нняй і выступае по цілівізару (Бялёў, Жытк.). *Параўн.* пяву́ха.

ПЯВУ'ХА *ж., тое, што* пе́сельніца. Матка яго добрая пяву́ха (Хізы, Ветк.+Дубраўка, Добр.).

ПЯГА'ЦЬ *незак.* пячы *(пра пякотку)*. Многа наелась і цэлы дзень пякотка пягае́ (Гармавічы, Жлоб.).

ПЯКО'ЛАК *м.* прыпечак. Усёй пяко̀лок напоўнены

лучыною (Бялёў, Жытк.); Паліжала на пякóлку і спіна перастала балець (Башыца, Б.-Каш.).

ПЯКО′ЛКА *ж.* пяколак. Заграбіце жар у пякóлку (Залессе, Башыца, Чач.). *Парайн.* пячóрка I *у 1 знач.*

ПЯКО′ТА *ж.* гарачыня. Сённі ўвесь дзень пякóта (Дарашэвічы, Петр.); Ад такой пякòты ўсе аж з поля паўцякалі (Палессе, Чач.+Насовічы, Добр.; Піркі, Браг.).

ПЯКЦІ′ *незак.* 1. біць, дапякаць. Яна яго пяклá, штоб добрэ вучыўся (Бялёў, Жытк.); 2. джаліць. Каля ліпы не ўстаіш, так пякýць пчолы (Багуцічы, Ельск.).

ПЯ′ЛА I *ж.* калыска *(паходная).* Дзяцей клалі ў пя́лу на полі (Быч, Карм.).

ПЯ′ЛА II *ж.* нага. Прыбяры свае пя́лы, няхай не мяшаюцца (Ветка).

ПЯЛЮ′ШКА *ж., тое, што* пóлка II *у 3 знач.* Усе пялю́шкі мокрыя, трэба прасушыць (Барталамееўка, Ветк.).

ПЯНЁ′НЗЫ *толькі мн.* грошы. Там, наверна, у яго пянёнзы скончыліся (Бялёў, Жытк.).

П'ЯНЧУ′ЖКА (п'янчужко) *м., тое, што* папалавíннік. Адзін фрыц у вайну такі ж п'янчужко буў, што свет такога не відаў (Бялёў, Жытк.).

ПЯНЯ′ЦЦА *незак., звар.* крыўдзіцца. Не гавары з ім пра гэта, ён будзе пяня́цца (Грушаўка, Добр.).

ПЯРВА′ЧКА (первáчка, первя́чка) *ж., тое, што* перваце́лка. Наша пярвáчка вельмі неспакойная (Вышамір, Рэч.); Тодар на базары купіў пярвáчку.Будзе малако (Астрагляды, Браг.+Маркавічы, Гом.; Ямпаль, Рэч.); Мая кароўка первáчка шчэ, сёлета толечкі першы раз ацелілася (Ручаёўка, Лоеўск.); Наша первя́чка першага бычка прывяла (Карчовае, Хойн.). *Парайн.* первачáтка, пярвóсцінка, пярвýстка, пярвýха, пярвýшка, пярвýшчанка;/*тое, што* перварòдка. Первáчку мы шчэ не запрагалі, нядаўна ажарабілася (Аравічы, Хойн.). *Парайн.* первачáтка, пяршáтка.

ПЯРВО′СЦІНКА (первýсцінка, пярвýсцінка) *ж., тое, што* перваце́лка. Мая пярвòсцінка ацялілась і добрае малако дае (Халочча, Чач.); Мая первýсцінка добрае цяля прывяла (Марозавічы, Б.-Каш.); У нас була пярвýсцінка такая ўдалая: і малака, і масла — усяго було (Злодзін, Маз.); Бацько купіў пярвýсцінку, а она

не бегае (Бялёў, Жытк.+Забалацце, Б.-Каш.; Залессе, Чач.; Пашонаўка, Б.-Каш.). *Параўн.* первача́тка, пярва́чка, пярво̀сцінка, пярву́стка, пярву́ха, пярву́шка, пярву́шчанка.

ПЯРВУ′СТКА *ж., тое, што* перваце̂лка. Сёння пярву́стка ацяліла бычка (Сівенка, Ветк.+Забалацце, Раг.). *Параўн.* первача́тка, пярва́чка, пярво̀сцінка, пярву́ха, пярву́шка, пярву́шчанка.

ПЯРВУ′ХА *ж., тое, што* перваце̂лка. У мяне яшчэ маладая карова, пярву́ха (Баравікі, Светл.). *Параўн.* первача́тка, пярва́чка, пярво́сцінка, пярву́стка, пярву́шка, пярву́шчанка.

ПЯРВУ′ШКА (перву́шка) *ж., тое, што* перваце̂лка. Наша Манька пярву́шка, давала па дзесяць літраў малака (Мормаль, Жлоб.); Ужэ тавар увесь с поля прыгналі, а маёй перву́шкі німа (Караваційчы, Гом.+Баравікі, Лядцы, Светл.). *Параўн,* первача́тка, пярва́чка, пярво̀сцінка, пярву́стка, пярву́ха, пярву́шчанка.

ПЯРВУ′ШЧАНКА (перву́шчанка) *ж., тое, што* перваце̂лка. Дак яна ж, гэта, пярву́шчанка яшчэ (Кароткавічы, Жлоб.); Анюта яшчэ не бачыла нашай пярву́шчанкі (Бабовічы, Гом.+Майскае, Жлоб.; Хізы, Ветк.); Перву́шчанка наша добрая карова (Дзям'янкі, Добр.). *Параўн.* первача́тка, пярва́чка, пярво́сцінка, пярву́стка, пярву́ха, пярву́шка.

ПЯРВЯ′К (первя́к) *м.* 1. першакласнік. Сяголета первякоў зноў багата ў школу пайшло (Заходы, Лельч.); 2. дзіця *(першае)*. Пеця ў іх первя́к (Дзям'янкі, Добр.); 3. рой (*першы*). Первя́к сёлета загінуў весь, холадно было (Стаўбун, Ветк.). *Параўн.* пярша́к (перва́к, перша́к) *у 2 знач.*

ПЯРГА′ (перга́) *ж.* 1. *тое, што* пыле́ц. Пярга́ бывае markрознага колеру (Багданавічы, Карм.+Дубраўка, Добр.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* пыльца́; 2. падкормка. У сотах пакінулі багата пяргі́ (Дубраўка, Добр.); Пасля зімы пчолам зноў паставілі пяргу́ (Астрагляды, Браг.); Маладых пчол мы падкормліваем перго́й (М. Аўцюкі, Калінк.).

ПЯРГО′ВЫ *прым.* задні *(лапка пчалы)*. Пярго́вые ножкі пчалы са шчотачкамі (Піркі, Браг.).

ПЯРКА′ЛЬ (перка́ль) *м., тое, што* пары́ск *у 1 знач.* Пададэяльнікі і просціны шыюць з перка́лю (Грушаўка, Нар.).

ПЯРЛО′ВЫ *прым.* ячны. Даўно я не ела пярло́вага супу (Р.-Бурыцкая, Лоеўск.); Пярло́выя крупы раз здзяруць, а тыды ў ступі таўкуць (Хізы, Ветк.+Багуцічы, Ельск.).

ПЯРЛО′ЎКА *ж.* каша, крупы *(ячныя).* Пярло́ўка вельмі смашная (Бялёў, Жытк.); Суп з пярло́ўкі (Неглюбка, Ветк.); Столькі пярло́ўкі ў магазін навязлі (Ліцвінавічы, Карм.); Учора ў магазіне пярло́ўку давалі (Марозавічы, Б.-Каш.+Баравікі, Светл.; Дземяхі, Рэч.; Дзям'янкі, Насовічы, Добр.; Ст. Буда, Б.-Каш.; Холмеч, Чарнейкі, Рэч.).

ПЯРО′ *н.* свердзел. Міхайло свярдліў брус і зламаў пяро́ (Засінцы, Ельск.).

ПЯРО′ЧКА *ж.* фіранка. К святу кажды раз вешаем новые пяро́чкі (Бялёў, Жытк.).

ПЯРША′К (перва́к, перша́к) *м.* 1. перагон *(пра гарэлку).* Перва́к вельмі моцны, мо і ўся гарэлка добрая будзе (Дубраўка, Добр.+Любань, Акц.); 2. *тое, што* пярвя́к *(первяк) у 3 знач.* Выйшаў пярша́к (Астрагляды, Браг.); Перва́к усегда харо́шы выходзіць (Холмеч, Рэч.); Старая матка выходзя з перваќо́м (Дубраўка, Добр.); К нам прыляцеў нечый перша́к (Неглюбка, Ветк.+Бабовічы, Гом,; Забалацце, Раг.; Карма, Добр., Марозавічы, Б.-Каш.; М. Аўцюкі, Калінк.).

ПЯРША′ТКА (пярша́чка) *ж., тое, што* перваро́дка. У калгасе асталіся адны пярша́ткі (Лядцы, Светл.); Бацька пашоў на нарад, каб узяць пярша́чку пасадзіць бульбу (Б.-Крушынаўка, Раг.+ Вялікае Ляда, Раг.; Хізы, Ветк.). *Параўн.* пярва́чка.

ПЯРЫ′НА I *ж.* пярына. На пяры́не спаць мякка (Багданавічы, Карм.).

ПЯРЫ′НА II *ж.* жабурынне. Вясной уся вада пакрыта пяры́най, а потым жабы выводзяцца (Халочча, Чач.).

ПЯРЫ′НА (перы́на) III *ж., тое, што* пе́р'е *ў 1 знач.* Ідзі нарві перы́н цыбулі (М. Аўцюкі, Калінк.). *Параўн.* пе́ры, пе́рка, пѐркі, пе́р'я, поп II *у 2 знач.*

ПЯРЫ′НКА (перы́нка) *ж., памянш. да* пяры́на (перы́на) III. Я ўжэ прынесла перы́нак з часнаку (Сямёнаўка, Рэч.).

ПЯРЭ′ВАРАЦЕНЬ I (пара́варацень) *м.* вераадступнік, нехрысць. У міне старшая сястра пара́варацень, пашла замуж у Польшчу (Хізы, Ветк.).

ПЯРЭ́ВАРАЦЕНЬ II (парэ́варацень, пера́варацень) *м.* хітры, хлус. Ну й пера́варацень ён, такі хітры (Бабовічы, Гом.).

ПЯРЭ́ВЕСЛА (парэ́вісла, перэ́весла) *н., тое, што* перавя́сла (перавя́сло). Снапы звязваюць парэ́віслам (Р.-Шлягіна, Ветк.); Я ўжэ і перэ́весла поробіла (Верасніца, Жытк.).

ПЯРЭ́ВЕЦЕНЬ *м.* вяроўка. Вот як вазьму пярэ́вецень, дык заробіш на баранкі (Горваль, Рэч.).

ПЯРЭ́ВІЦЦЯ *н., тое, што* по́ўзіна. Пярэ́віцця спаўзло із стога (Чарнейкі, Рэч.).

ПЯРЭ́ДАЙКА (парэ́дайка, перэ́дайка) *ж.* перадойка. Карова ў мяне пярэ́дайка, малака мала дае (Асінаўка, Светл.); Наша кароўка не пагуляла і засталася пярэ́дайкай (Карчовае, Хойн.); Наша карова ўжо другую зіму парэ́дайка (Баравікі, Светл.); Карова перэ́дайка, доіцца круглы год (Холмеч, Рэч.+Аравічы, Хойн.; Бялёў, Жытк.; Забалацце, Раг.; Лядцы, Светл.; Майскае, Жлоб.; Сяўкі, Лоеўск.).

ПЯРЭ́ДНІ (перэ́дні) *прым.* гатунковы. Одбером перэ́днёго зерна на насенне (Верасніца, Жытк.).

ПЯРЭ́ЗВА (перэ́зва) *аг.* абрад *(вясельны)*. Хадзем на пярэ́зву (Махнавічы, Маз.). *Параўн.* пярэ́звы (пірэ́звы).

ПЯРЭ́ЗВЫ (пірэ́звы) *толькі мн., тое, што* пярэ́зва (перэ́зва). На пярэ́звы завуць (Гарывада, Рэч.); Каравай падзялілі і пайшлі пярэ́звы вадзіць (Бабовічы, Гом.); Тады гулялі свадзьбы харашо, пірэ́звы вадзілі (Зялёныя Лукі, Гом.+ Багуцічы, Ельск.; Баравікі, Светл.; Ліпнякі, Лоеўск.; Ломыш, Хойн.; Мормаль, Жлоб.).

ПЯРЭ́КУЛІ (пірэ́кулі) *толькі мн., тое, што* по́лата. Пірэ́кулямі караваць засцілаюць, каб гарна було (Піркі, Браг.).

ПЯРЭ́ЛЕТАК (перэ́летак) *м.* цяля-пералетак. У нас пасецца добры пярэ́летак (Неглюбка, Ветк.); Наш перэ́летак ужо харошы стаў (Дзям'янкі, Добр.).

ПЯРЭ́СЦІЦЬ *незак.* біць. Чого ты тут дзяцей пярэ́сціш? (Бялёў, Жытк.).

ПЯРЭ́ТАЧКА *ж., тое, што* пералі́нка. Добрая пярэ́тачка на тваёй рубашцы (Неглюбка, Ветк.); Ткалі рубашкі з пярэ́тачкамі (Заходы, Лельч.). *Параўн.* прычэ́лле II.

ПЯСЕ́ЛЬНІК *м., тое, што* песе́льнік. У клубе доб-

рыя пясе́льнікі выступаюць (Піркі, Браг.). *Параўн.* пяву́н *у 2 знач.*

ПЯСКО′ВЕЦ *м.* жыхар *(вёскі, дзе пясчаная глеба).* Я з пяско́ўцамі не дружу (Аравічы, Гом.).

ПЯСТРУ′ШКА *ж., заал.* мухалоўка. Пястру́шка прылятае ў сакавіку (Ліцвінавічы, Карм.).

ПЯ′СЦЕ *н., анат.* пясць. Больна пя́сце ўдарыла (Кароткавічы, Жлоб.); Касец дзяржаў касу сагнутым пя́сцем і пальцамі (Броніца, Б.-Каш.+Рафалаў, Браг.).

ПЯСЧА′НІЦА *ж.* двор *(калгасны).* На песча́ніцы грошы палучаюць (Малышава, Жытк.).

ПЯСЧА′НКА *ж.* пясчанік. На пясча́нцы нічого не хочэ росці (М. Аўцюкі, Калінк.+Падворак, Лельч.). *Параўн.* пяшчура́.

ПЯТА′ (пета́) *ж.* абух. Той чалавек пето́й яго стукнуў па галаве (Дзёрнавічы, Нар.).

ПЯТА′ЧКА (пята́шка) *ж.* шклянка *(50 мл).* У шкалік уваходзіць пята́чка гарэлкі (Баравікі, Светл.); Пята́шка — то адна румка (Ст. Краснае, Рэч.).

ПЯТАЧО′К (пітачо́к) *м.* 1. месца *(неглыбокае ў вадзе).* Купайся на пітачку́, не лезь глыбей (Пакалюбічы, Гом.); 2. пляцоўка *(для танцаў).* На Самадумцы хлопцы і дзяўчаты пітачо́к зьдзелалі (там жа).

ПЯ′ТКА *ж.* 1. пятка *(ступні, абутку).* У міне пя́ткі парэпаліcь (Дубраўка, Добр.); Пя́тка ў лапці выйшла нейкая касаватая (Вялікае Поле, Петр.); 2. *тое, што* пу́ха. У пятцы светлы кружок з воздухам (М. Аўцюкі, Калінк.+Дзям'янкі, Добр.; Марозавічы, Б.-Каш.). *Параўн.* пуха́, пу́шка VI; 3. частка *(бульбіны без вочак).* Нада адрэзаць пя́ткі і аддаць карове (Гармавічы, Жлоб.).

ПЯТЛЕ′ЙКА (петле́йка) *ж., памянш. да* пятля́. Як нема гаплючкі, то рабілі петле́йку з нітак. Зрабіла ў кухайцы пяць петле́як (Ліпляны, Лельч.).

ПЯТЛЯ′ЦЬ *незак.* бегчы *(пятляючы).* Заяц пятля́е, пятля́е і запутвае свой след (Халочча, Чач.+Марозавічы, Б.-Каш.).

ПЯТРО′ВІЦА *ж., рэл.* пятроўка. У маго сына водпуск буў у пятро́віцу (Бялёў, Жытк.).

ПЯТРО′ЎСКІ *прым., рэл.* пятроў *(дзень).* Дзеўкі цяпер ні пятро́ўскіх, ні шчадроўскіх песень уже не пеюць (Бялёў, Жытк.); Бывала, за пятро́ўскі дзень печ складаў (Быч, Карм.).

ПЯ′ТРЫ *толькі мн.* полкі *(для сушкі снапоў)*. Пастаў снапы на пя́трры (Неглюбка, Ветк.); Нада на пя́трах лён павыставіць (Быч, Карм.).

ПЯТУША′ЦІНА *ж.* мяса *(пеўневае)*. У нас на абед крупнік з пятуша́цінай (Дубраўка, Добр.).

ПЯХЦЕ′Р (піхцёр) I *м.* мяшок *(вяровачны)*. Піхцёр з аборак дзелаюць (Марозавічы, Б.-Каш.); Дай каню сена з пехцяра́ (Чкалава, Гом.+Астрагляды, Браг.; Грушаўка, Ларышчава, Добр.; Хальч, Ветк.).

ПЯХЦЕ′Р (пехцёр) II *м., тое, што* пехцёр. Ну і пяхцёр жа ты (Грушаўка, Пракопаўка, Добр.);/чалавек *(няўклюдны, тоўсты)*. Уставай быстрэй, пехцёр (Стараселле, Добр.); Ён такі пяхцёр, нічога не робіць (Жгунская Буда, Добр.).

ПЯЦЕ′ЛЬЧАТЫ *прым.* пяцельны *(аб шве)*. Мне ні наравіцца пяцёльчаты шоў (Каравацічы, Рэч.).

ПЯЦІДЗЕСЯ′ТКА *ж.* дошка *(шырынёй 50 мм)*. Пяцідзеся́тка і саракоўка ідуць на столь і на мост (Забалацце, Раг.); Давай мне пяцідзеся́ткі (Халочча, Чач.+ +Грычынавічы, Жытк.).

ПЯЦІПЛЕ′ШНЫ *прым.* 2,5-літровы *(пра бутэльку)*. Пяціплёшная пляшка даўгастая, поўна віна (Усохская Буда, Добр.).

ПЯЦІРУ′ЧКА *ж.* каса *(пятага памеру)*. Вельмі добрая каса пяціру́чка (Бярозкі, Браг.).

ПЯЦІСЦЕ′Н *м.* пяцісценка *(хата, падзеленая на дзве часткі капітальнай сцяной)*. Яна добра жывець, пяцісцён пастроілі ўжо (Марозавічы, Б.-Каш.+Карма, Добр.). *Парайн.* пяцісцёнка.

ПЯЦІСЦЕ′НКА *ж., тое, што* пяцісцён. Пастроілі сабе новую пяцісцёнку (Багданавічы, Карм.); Яны жывуць ужо шосты год у пяцісцёнцы (Косаль, Карм.+ + Забалацце, Раг.; Холмеч, Рэч.).

ПЯЦІСЦЕ′ННЫ *прым. да* пяцісцён. Пяцісцённы дом у іх шчэ новы (Стаўбун, Ветк.+ Маркавічы, Гом.).

ПЯЧА′ТАЦЬ I *незак.* клеймаваць. Вязі мяса пяча́тацць, бо на базар прадаваць не пусцяць (Хізы, Ветк.).

ПЯЧА′ТАЦЬ (печа́тацць) II *незак.* запаўняць *(соты мёдам)*. Пчолы носяць мёд і пяча́таюць соты (Дарашэвічы, Петр.).

ПЯЧА′ТКА *ж.* мера *(гарэлкі)*. Купіў пяча́тку дэй сам выпіў (Завайць, Нар.).

ПЯЧКУ′Р I *м., заал.* рыба. Добрыя пячкуры́ ў нас

водзяцца (Кароткавічы, Жлоб.); Пячкуро́ў налаваў цэлую даёнку (Вышалоў, Петр.).

ПЯЧКУ́Р II *м.* пячнік. Пячку́р харошую печ зрабіў (Неглюбка, Ветк.); З Хлусоў, з Глыбаўкі пячкура́ завом, калі трэба (Хізы, Ветк.+Заспа, Рэч.; Неглюбка, Ветк.).

ПЯЧО́Н *м., кул.* батон. У лаўку пячо́наў белых прывезлі (Славань, Светл.).

ПЯЧО́НІК *м., тое, што* пе́чанка. Пячо́нікаў напяклі ды так смачна пад'елі (Ямпаль, Рэч.); Будам пячо́нікі есці (Славань, Светл.+Навінкі, Калінк.; Холмеч, Рэч.). *Параўн.* пячо́нка II.

ПЯЧО́НКА I *ж., анат.* печань. Забалела маё сэрца і пячо́нка (Рафалаў, Браг.).

ПЯЧО́НКА II *ж., тое, што* пе́чанка. Давайце пячо́нкі напяком да паядаем (Неглюбка, Ветк.); Пячо́нкі былі смачныя (Белы Пераезд, Петр.); Напячы нам пячо́нак на вячэру (Новая Дуброва, Харомцы, Акц.). *Параўн.* пячо́нік.

ПЯЧО́РКА (пячу́рка) I *ж.* 1. пячурка. Палажы свае анучкі ў пячорку, хай прасохнуць (Каменка, Маз.); Над пячо́ркай духоўка ў печы (Дубраўка, Добр.); Вазьмі сухія наскі ў пячо́рцы (Забалацце, Раг.); У нашай печы тры пячо́ркі (Маркавічы, Гом.); 2. нара. Птушкі і лісіцы ў беразе накапалі пячу́рак (Ручаёўка, Лоеўск.+ +Хізы, Ветк.); 3. пячора. У пячу́рках ракі водзяцца (Норкаўшчына, Карм.+ Баравікі, Светл.; Насовічы, Добр.).

ПЯЧО́РКА II *ж., заал.* курапа́тка. Хадзіў у поле шукаць пячо́рку (Аравічы, Хойн.+Багуцічы, Ельск.).

ПЯЧУ́РКА *ж., тое, што* печу́рыца. Баба Палашка колісь брала на полі ці балоце пячу́ркі і варыла (Ручаёўка, Лоеўск.+ Пабеда, Ветк.; Усохская Буда, Добр.). *Параўн.* пячу́рыца.

ПЯЧУ́РЫЦА *ж., тое, што* печу́рыца. Па полю растуць пячу́рыцы (Дубраўка, Добр.+ Холмеч, Рэч.). *Параўн.* пячу́рка.

ПЯЧЫ́СЯ *незак.* грэцца *(на сонцы)*. Чаго ты пячэшся на сонцы, галава будзе балець! (Целяшы, Гом.).

ПЯЧЭ́ННЯ *зборн., анат.* вантробы. А яны, дурныя, усё пячэ́ння выкінулі (Халочча, Чач.).

ПЯЧЭ́НЯ I *н., кул.* верашчака. А мы наварылі пячэ́ні з мясам і грыбамі (Запясочнае, Лельч.); Дзеці

елі смачную пячэ́ню (Мялешкавічы, Маз.+Буйнавічы, Лельч.).

ПЯЧЭ'НЯ (печэ́ня) II *ж.* скаварада. А наловіў тые тры нешчасные рыбіны, дажэ на печэ́ню нэ будэ (Грушаўка, Нар.).

ПЯШЧАНКА *ж., бат.* гладун. Увесь бераг зарос пяшча́нкай (Дубраўка, Добр.+Неглюбка, Ветк.).

ПЯШЧУРА' *зборн., тое, што* пясча́нка. У нас усю пяшчуру́ засадзілі лесам (Дзям'янкі, Дубраўка, Добр.).

ПЯШЧЫ'НА *ж. пясчынка.* У вока папала пяшчы́на, і папабалела тады яно (Холмеч, Рэч.).

## СКАРАЧЭННІ І ЎМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ

### 1. Назвы раёнаў Гомельшчыны

Акц.— Акцябрскі; Б.-Каш.— Буда-Кашалёўскі; Браг.— Брагінскі; Ветк.— Веткаўскі; Гом.— Гомельскі; Добр.— Добрушскі; Ельск.— Ельскі; Жлоб.— Жлобінскі; Жытк.— Жыткавіцкі; Калінк.— Калінкавіцкі; Карм.— Кармянскі; Лельч.— Лельчыцкі; Лоеўск.— Лоеўскі; Маз.— Мазырскі; Нар.— Нараўлянскі; Петр.— Петрыкаўскі; Раг.— Рагачоўскі; Рэч.— Рэчыцкі; Светл.— Светлагорскі; Хойн.— Хойніцкі; Чач.— Чачэрскі.

### 2. Граматычныя і стылістычныя паметы

*абрад.*— абрадавае; *абразл.*— абразлівае; *аг.*— агульны род; *анат.*— анатамічнае; *арх.*— архітэктурнае; *астр.*— астранамічнае; *бат.*— батанічнае; *буд.*— будаўнічае; *вет.*— ветэрынарнае; *ветл.*— ветлівае; *выкл.*— выклічнік; *геагр.*— геаграфічнае; *гіст.*— гістарычнае; *груб.*— грубае; *дап. дз.*— дапаможны дзеяслоў; *дзіц.*— дзіцячае; *дзеепрым.*— дзеепрыметнік; *ж.*— жаночы род; *заал.*— заалагічнае; *займ.*— займеннік; *зак.*— закончанае трыванне; *зборн.*— зборнае; *зневаж.*— зневажальнае; *злуч.*— злучнік; *іран.*— іранічнае; *крав.*— кравецкае; *кул.*— кулінарнае; *ласк.*— ласкальнае; *лаянк.*— лаянкавае; *м.*— мужчынскі род; *мад.*— мадальнае; *мед.*— медыцынскае; *міф.*— міфалагічнае; *н.*— ніякі род; *незак.*— незакончанае трыванне; *павел.*— павелічальнае; *памянш.*— памяншальнае; *пар. ст.*— параўнальная ступень; *параўн.*— параўнайце; *перан.*— пераноснае; *праст.*— прастамоўнае; *прым.*— прыметнік; *прыназ.*— прыназоўнік; *прысл.*— прыслоўе; *пчал.*— пчалярскае; *рыб.*— рыбалоўнае; *сад.*— садоўніцкае; *спец.*— спецыяльнае; *с/г* — сельскагаспадарчае; *стал.*— сталярскае; *субст.*—субстантываванае; *толькі адз.*—толькі адзіночны; *толькі мн.*— толькі множны; *ткацк.*— ткацкае; *тэкст.*— тэкстыльнае; *устар.*— устарэлае; *цясл.*— цяслярскае; *шавецк.*— шавецкае; *экспр.*— экспрэсіўнае.

## ЗМЕСТ

### I. ГІСТАРЫЧНЫ ЭКСКУРС



### II. ЛЕКСІКАЛОГІЯ



### III. ГРАМАТЫКА



### IV. ЛЕКСІКАГРАФІЯ

Б 43 **Беларуская** мова. Вып. 6.— Мн.: Выд-ва БДУ, 1978.—240 с.

(М-ва выш. і сярэд. спец. адукацыі БССР. Гомельскі дзярж. ун-т.)

У матэрыялах зборніка даследуюцца пытанні беларускага мовазнаўства — сучаснай і гістарычнай лексікалогіі, словаўтварэння, граматыкі і дыялекталогіі.

Значную частку займаюць «Матэрыялы для дыялектнага слоўніка Гомельшчыны», якія будуць карыснымі для вывучэння багаццяў беларускага дыялектнага арэала, а таксама для даследавання народнай словаўтваральнай сістэмы.

Зборнік прызначаецца навуковым супрацоўнікам-моваведам, выкладчыкам вышэйшых навучальных устаноў і студэнтам-філолагам.

**Б $\frac{70103—031}{М\ 317—78}$ 63—78** **4 Бел.**

БЕЛОРУССКИЙ ЯЗЫК

*Выпуск 6*

На белорусском языке

Издательство Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина. Минск, Парковая магистраль, 11. Дом книги.

Рэдактар *А. М. Ляпіч*
Мастак *С. В. Кузмічоў*
Мастацкі рэдактар *І. Х. Беленькая*
Тэхнічны рэдактар *В. П. Безбародава*
Карэктары *В. А. Ждановіч, З. М. Машкевіч*

ІБ № 259

Здадзена ў набор 01.12.77. Падпісана да друку 24.05.78. АТ 09153. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друкарская № 1. Гарнітура літаратурная. Друк высокі. Ум. друк. арк. 12,6. Ул.-выд. арк. 13,21. Заказ 643. Тыраж 1000 экз. Цана 2 руб. 10 кап.

Выдавецтва Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Мінск, Паркавая магістраль, 11. Дом кнігі. Надрукавана з набора ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарні выдавецтва ЦК КПБ друкарняй імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Зак. 746.